

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 6 студзеня 1989 г. № 1 (3463) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



І лягла цішыня...

Фотаэцюд Э. ЭЛЬКСІНА.

## З ЛЮБОЎЮ ДА ЧАЛАВЕКА

Дзяржаўныя прэміі БССР, якія прысуджаюцца раз у два гады,— не проста ўзнагарода за выдатныя поспехі. Цяжка знайсці другі такі ж магутны сродак прыцягнення самай пільнай увагі людзей да таленавітых твораў, якія становяцца з'явамі грамадскага жыцця. Дэмакратызацыя адбілася і ў рабоце Камітэта па дзяржпрэміях. У разрад узнагароджаных трапляюць толькі творы сапраўды высокага грамадзянскага гучання і выдатных мастацкіх вартасцей, незалежна ад узросту, пасад і званняў іх аўтараў.

У састаў творчых секцый нашага камітэта, які складаецца з 58 чалавек, увайшлі маладыя спецыялісты ўсіх сфер духоўнага жыцця. І сёння яны заняты не фармальным звядзеннем спісаў, пададзеных ад творчых саюзаў і арганізацый. У сутыкненні розных, часам процілеглых думак высвечваецца сапраўдная значнасць прадстаўленых твораў. Лёс кожнага з іх вырашаецца пасля працяглага абмеркавання на канферэнцыях чытачоў, гледачоў, слухачоў, праглядаў і праслухоўванняў членамі секцый, з улікам іх рэкамендацый аб далейшым удзеле ў конкурсе. Заключны этап вылучэння — пленарнае пасяджэнне ўсяго камітэта, на якім заслухоўваюцца рэкамендацыі кожнай секцыі і фарміруецца спіс для тайнага галасавання.

Напэўна, прыйшоў час сказаць аб некаторых недахопах самога Палажэння аб дзяржпрэміях. Чаму б у ім не прадугледзець магчымасць пры прысуджэнні прэмій пасмяротна ўлічваць не толькі работы за апошнія чатыры гады (як гэта робіцца цяпер), але і створанае ў перыяд росквіту мастацкага таленту? Не вінаваты ж Міхась Стральцоў, напрыклад, што не прадстаўлен своечасова да прэміі за сваю прозу і літаратуразнаўчыя работы. Творчыя ж арганізацыі не павінны абмяжоўвацца прадастаўленнем дакументацыі — за імі застаецца абавязак азнаёміць самыя шырокія масы з работамі, вылучанымі на прэміі.

Неабходна ўзняць таксама ролю нізавых арганізацый у вылучэнні і адстойванні сваіх кандыдатаў, кіруючыся пры гэтым, зразумела, перш за ўсё мастацкай каштоўнасцю твораў, глыбінёй вырашэння ідэйна-маральных задач.

Калі гаварыць аб Дзяржаўных прэміях БССР 1988 года, то прэтэндэнтаў на іх было 17. К апошняму этапу прыйшло 14, а вытрымалі конкурс 7 — роўна палавіна. Думаецца, што і гэта сведчыць аб прынцыповасці і актыўнай зацікаўленасці членаў камітэта прысудзіць прэміі самым дастойным.

Тры раманы шырока прызнанага нашым чытачом Вячаслава Адамчыка, кожны з якіх з'яўляецца завершаным па-мастацку і кампазіцыйна, складваюцца ў своеасаблівую трылогію. Глыбінная канцэпцыя аб'ядноўвае лёсы тых беларусаў, на чыю долю выпала агульна-народная бяда — распалавіньванне Беларусі ў выніку Рыжскага мірнага дагавора. «Чужой бацькаўшчынай» каля дваццаці гадоў была родная зямля беларусам, якія апынуліся па той бок граніцы. В. Адамчык насыціў свае раманы глыбокім сацыяльна-псіхалагічным зместам, стварыў шырокую панараму жыцця і барацьбы беларускага народа за ўз'яднанне.

Міхась Стральцоў, увайшоўшы ў літаратуру, адразу быццам «стрыножыў» свой талент. Ён заявіў аб сабе больш як празаік і даследчык-літаратуразнавец. Але не забываў і пра паэтычную ліру. Зборнік «Мой свеце ясны» — гэта вяршыня спасціжэння душы лірычнага героя ў пераломны час. Менавіта такая літаратура не «ў лоб», а ідучы ад свядомасці, сумлення, рыхтавала перабудову ўнутранага свету чалавека.

**Максім ТАНК,**
старшыня Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

(Працяг на стар. 2).





## Пад сцягам Леніна, у брацкім саюзе

Пярэдадзень Новага года супаў для беларускага народа з вялікім святам — 70-годдзем утварэння БССР і Кампартыі Беларусі.

Сем дзесяцігоддзяў ідзе дарогай Кастрычніка народ Савецкай Беларусі. Ідзе пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, плячо ў плячо з іншымі савецкімі народамі-братамі.

Ніколі не згасне святло Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сёння ў яе новае аблічча, на яе сцягах — лозунгі перабудовы, душою ўспрынятыя рабочым класам, сялянствам, інтэлігенцыяй рэспублікі. На шляху перабудовы — нямала перашкод, крокі да лепшага нялёгка даюцца, але яны — ёсць, і шлях перабудовы — незваротны.

Пра гэта ішла гаворка на ўрачыстым пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і Вярхоўнага Савета Беларускай ССР з удзелам прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый рэспублікі, Савецкай Арміі, прысвечаным 70-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.

Пасяджэнне адбылося 30 снежня ў горадзе-герої Мінску. Яго адкрыў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. Таразевіч. З дакладам «Дарогай Кастрычніка, курсам рэвалюцыйнага абнаўлення ў адзінай сям'і народаў СССР» выступіў першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі Я. Я. Сакалоў.

З прывітальнымі словамі на пасяджэнні выступілі: дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР першага і другога скліканняў В. Ф. Мацюшка, Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня Рэспубліканскага савета ветэранаў А. Я. Андрэеў, член Палітбюро, сакратар Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі Ю. Чырэк, які зачытаў таксама прывітанне Першага сакратара ЦК ПАРП, Старшыні Дзяржаўнага Савета ПНР В. Ярузельскага, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Украінскай ССР В. С. Шаўчэнка, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР В. С. Астраўскас, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна У. Л. Бядуля, кіраўнік дэлегацыі горада-героя Масквы, сакратар Маскоўскага гарадскога камітэта КПСС Ю. С. Карабасаў, член ЦК Кампартыі Беларусі, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, лаўрэат Ленінскай прэміі, прэзідэнт Акадэміі навук рэспублікі У. П. Платонаў, кіраўнік дэлегацыі горада-героя Ленінграда, першы сакратар гарадскога камітэта КПСС А. М. Герасімаў, камандуючы БВА генерал-палкоўнік У. М. Шуралёў, кіраўнік дэлегацыі Смаленскай вобласці, першы сакратар абласнога камітэта КПСС А. А. Уласенка, студэнтка Віцебскага медыцынскага інстытута, ленінскі стыпендыят, дэлегат XX з'езда ВЛКСМ, член бюро Віцебскага абкома камсамола Н. Кагалёнак.

З заключным словам на пасяджэнні выступіў Старшыня Савета Міністраў БССР М. В. Кавалёў.

Затым адбыўся вялікі святочны канцэрт.

●

Урачыстасці, прысвечаныя 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі, прайшлі ў рэспубліцы паўсюдна.

## Пленум ЦК КПБ

**30 снежня 1988 года ў Мінску адбыўся XII пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі**

На пленуме разгледжана пытанне аб рэкамендацыі кандыдатур для вылучэння кандыдатамі ў народныя дэпутаты СССР ад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Ад Кампартыі Беларусі кандыдатамі ў народныя дэпутаты аднагалосна вылучаны Генеральны сакратар ЦК КПСС, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў, член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. І. Рыжкоў, член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС М. М. Слюнькоў, мантажніца Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі І. Я. Ерахавец, намеснік дырэктара сярэдняй школы № 3 г. Слоніма Г. І. Масько.

Пленум зацвердзіў персанальны састаў камісій ЦК Кампартыі Беларусі: па пытаннях арганізацыйна-партыйнай і кадравай работы, старшыня камісіі — першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Я. Сакалоў, намеснік старшыні — другі сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. С. Ігруноў; ідэалагічную, старшыня камісіі — сакратар ЦК Кампартыі Беларусі В. А. Пячэннікаў, намеснік старшыні — член ЦК КПБ, намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай; па дзяржаўна-прававых пытаннях, старшыня камісіі — другі сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. С. Ігруноў, намеснік старшыні — член ЦК КПБ, член Бюро ЦК КПБ, старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР В. Г. Балуеў; па сацыяльна-эканамічных пытаннях, старшыня камісіі — сакратар ЦК Кампартыі Беларусі У. А. Ляпёшкін, намеснік старшыні — член ЦК КПБ, член Бюро ЦК КПБ, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржплана БССР В. Ф. Кебіч; па аграрных пытаннях, старшыня камісіі — сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. І. Дземянцей, намеснік старшыні — член ЦК КПБ, член Бюро ЦК КПБ, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, старшыня Дзяржаграпрома БССР Ю. М. Хусаінаў.

Пленум вызваліў т. Колакалава Ю. Б. ад абавязкаў сакратара і члена Бюро ЦК Кампартыі Беларусі ў сувязі з выхадам на пенсію па стану здароўя. Ю. Б. Колакалаву выказана падзяка за шматгадовую і плённую работу ў рэспубліканскай партыйнай арганізацыі.

У рабоце пленума прыняў удзел загадчык сектара Аддзела партыйнага будаўніцтва і кадравай работы ЦК КПСС Я. Л. Трафімаў.

## Лаўрэаты Дзяржаўных прэмій БССР 1988 года



Вячаслаў АДАМЧЫК.



Анатоль ВЯРЦІНСКІ.



Міхась СТРАЛЬЦОЎ (пасмяротна).

## Названа імя Васіля Быкава

У адпаведнасці з новымі Законамі аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі СССР і аб выбарах народных дэпутатаў СССР, творчыя саюзы рэспублікі разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі працягваюць вылучаць кандыдатаў у дэпутаты вышэйшага органа дзяржаўнай улады краіны. Сход з парадкам дня «Вылучэнне кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР ад Саюза пісьменнікаў СССР» адбыўся 3 студзеня ў Доме літаратара.

Сход адкрыў першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі, член выбарчай камісіі па выбарах народных дэпутатаў СССР ад Саюза пісьменнікаў СССР Н. Гілевіч. Ён расказаў аб працэдуры ўдзелу літаратаў у сёлетняй выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет СССР, паведаміў, што СП СССР прадастаўлена 10 мандатаў.

Большасцю галасоў было вырашана прапанаваць аднаго кандыдата ў народныя дэпутаты СССР ад рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Удзельнікі сходу назвалі кандыдатуру народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча Быкава, сусветна вядомага літаратара і грамадскага дзеяча, актыўнага змагара за перабудову.

Нягледзячы на тое, што В. Быкаў, спасылаючыся на стан здароўя, выступіў з самаадводам, пісьменніцкі сход прыняў аднадушнае рашэнне прасіць яго балаціравацца на маючым адбыцца пленуме СП СССР кандыдатам у народныя дэпутаты краіны.

## ПІСЬМЕННІКІ АБ ПЕРАБУДОВЕ

«Трава пасля нас» — так называецца кніга, толькі што выпушчаная выдавецтвам Агенцтва Друку Навіны. Яе склалі інтэрв'ю журналіста Фелікса Мядзведзева з вядомымі дзеячамі савецкай літаратуры і мастацтва.

Сярод тых, хто разважае аб перабудове ў савецкім грамадстве, аб ролі ў ёй творчай інтэлігенцыі (Веніямін Каверын, Віктар Астаф'еў, Грыгорый Бакланаў, Грант Матэвасян, Арсеній Таркоўскі, Яўгеній Еўтушэнка і інш.), і народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

**В. ЗАКРЭЎСКІ.**

## СПРАВАЗДАЧА ПЕРАД ЗЕМЛЯКАМІ

Свае лепшыя творы паказалі на групавой выстаўцы гомельскія мастакі — жывапісец П. Лук'яненка, акварэліст У. Кароткі, кераміст А. Чудзін, майстры габелена жонка і муж І. Данілава і А. Дваронін. Іх творчасць — гэта творчасць аднадумцаў. У сваіх работах яны імкнуцца адлюстраваць наш сённяшні дзень, аблічча нашых сучаснікаў. З ахвотай малююць мастакі краявіды роднай зямлі. У першую чаргу адзначым такія творы, як «Мёртвы дзень» П. Лук'яненкі, «Асенні сад» У. Кароткага, «Смутак» А. Чудзіна, трыпціх «Цішыня» І. Данілавай і А. Двароніна.

**А. ШНЫПАРКОЎ.**

## У ТЭАТРЫ МУЗКАМЕДЫІ

Чарговую прэм'еру паказаў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР: пастаўлены вядомы вадэвіль У. Салагуба «Бяда ад далікатнага сэрца».

У новым спектаклі заняты заслужаная артыстка РСФСР Н. Равінская, заслужаны артыст БССР В. Фаменка, артысты Ф. Дуднік, Н. Белавусава, Л. Кудзелка, І. Скорабагатава, А. Кузьмянкоў, У. Барухін. Дырыжор — У. Цатураў, пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Б. Утораў.

**Н. ЗАХАРАВА.**

## З любоўю да чалавека

(Пачатак на стар. 1).

Кніга «Нью-Йоркская сірэна» — вынік паездкі Анатоля Вярцінскага ў ЗША ў якасці ўдзельніка сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Паэт па складу душы, публіцыст у выяўленні яе патаемных рухаў, А. Вярцінскі адкрывае чытачу сённяшнюю Амерыку з нечаканых бакоў. І пры абмеркаванні на творчай секцыі нашага камітэта гэта кніга атрымала прыярытэт перад газетнай- і тэлепубліцыстыкай, якія за злабадзённасцю і вастрынёй прайграюць часам у вобразнасці.

Музычнае мастацтва дастойна прадстаўляе сучасны сімфанізм Андрэя Мдзівані. Народны мелас глыбока пранізвае яго творы. Найвышэйшае натхненне кампазітара накіроўвае слухачоў на шлях духоўнага ўзвышэння, у яркіх вобразах расказвае аб мінулым беларускага народа.

Агульнапрызнана творчая ўдача купалаўскага тэатра — спектакль «Мудрамер». Аўтар і тэатр выбралі аб'ектам высмейвання адну з самых негатыўных з'яў — камандна-бюракратычную сістэму. Спектакль можна расцэньваць не толькі як мастацкую ўдачу калектыву, але і як з'яву ў грамадскім жыцці.

Аляксандра Ануфрыеўна Паслядовіч, мастак шматгранны, бясспрэчна таленавіты ў выяўленні нацыянальнага беларускага каларыту, на жаль, не дачакалася ўзнагароды. У яе работах філіграннай тэхнікі адчуваецца захопленасць паэзіяй прыроды Палесся, глыбокая любоў да чалавека, павага да яго пачуццяў і перажыванняў. Падкрэсленая самабытнасць твораў прыводзіць да думкі аб бессмяротнасці таленту беларускага народа.

Крыло дэльтаплана бачаць авіяпасажыры, падлятаючы да Брэсцкага аэрапорта. Цікавае, вобразнае прасторавае і канструктыўнае вырашэнне знайшлі стваральнікі аэравакзала, адзначаныя прэміяй. Добра прадуманыя інтэр'еры, фасады, будова аэравакзала служаць адной мэце — зручнасці пасажыраў, якія прыбываюць у Брэст, вароты нашай краіны.

Хочацца падкрэсліць, што Дзяржаўная прэмія — не ўзнагарода за выслугу гадоў, не дадатак да пасады сакратара праўлення творчага саюза або рэдактара выдання. Прысуджаюцца яны за канкрэтныя творы, якія нясуць нашу нацыянальную своеасаблівасць у скарбонку ўсёй краіны.

**БЕЛТА.**

*Інтэрв'ю ў нумар*

## У ДОМ ПРЫЙДЗЕ ПАДЛІКОВЕЦ...

**З 12 па 19 студзеня 1989 года праводзіцца Усесаюзны перапіс насельніцтва. З гэтай нагоды наш карэспандэнт узяў інтэрв'ю ў загадчыка аддзела перапісаў і ўліку насельніцтва Дзяржкамстата БССР В. В. СІВЯНКОВАЙ.**

— Вольга Варфаламееўна, некалькі слоў аб значэнні перапісу ў нашы дні...

— Яшчэ Леў Талстой казаў, што перапісы — «люстэрка грамадства». Каб забяспечыць сацыяльна-эканамічнае развіццё грамадства, неабходна мець поўную і аб'ектыўную карціну дэмаграфічных працэсаў, якія адбываюцца ў ім, ведаць яго структуру.

Вынікі перапісаў патрэбны пры планаванні ва ўсіх сферах — у будаўніцтве і гандлі, у медыцынскім і бытавым абслугоўванні, для рацыянальнага размеркавання працоўных рэсурсаў. Гэтыя вынікі неабходны эканамісту і гісторыку, сацыёлагу і географу, работніку адукацыі і культуры.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі перапісы ў нашай краіне праводзіліся ў 1920-м, 26-м, 39-м, 59-м, 70-м і 79 гадах. Так што сёлетні перапіс — сёмы. Калі не лічыць, праўда, перапісу 37 года, вынікі якога былі прызнаны «дэфектнымі».

— Думаецца, гэта лішні раз пацвярджае, якую выбуховую сілу маюць бясстрасныя лічбы статыстыкі. Відаць, Сталіна і яго акружэнне напалохала карціна, якая вымалёўвалася ў выніку сумленнай і аб'ектыўнай работы ўдзельнікаў перапісу.

Сёння мы ідзём да адкрытага грамадства. А вось факт з мінулага. Вынікі перапісу 1959 года былі апублікаваны ў 16-ці тамах, а пасля перапісу 1979 года, у застойны час, выйшла... усяго адна невялікая кніжка. А як будзе цяпер?

— Дзяржкамстат СССР, як вы ведаеце, праводзіць работу па пашырэнні галоснасці. Многія раней закрытыя лічбы цяпер адкрыта прыводзяцца ў друку. Думаецца, што і вынікі цяперашняга перапісу будуць шырока публікавацца. Дарэчы, першыя з іх будуць вядомы ўжо ў красавіку гэтага года. А завяршыць работу плануецца ў трэцім квартале 90 года.

Пакуль жа работа толькі пачынаецца, аб'ём яе — велізарны. Толькі ў нашай рэспубліцы на працягу васьмі дзён будуць працаваць каля 24-х тысяч падлікоўцаў. Кожны з іх апытае ў сярэднім 460 гарадскіх жыхароў, альбо 350 — сельскіх.

Разам з суцэльным перапісам будзе праводзіцца і выбарачны, які ахопіць чвэрць насельніцтва рэспублікі (выбарачны перапіс прадугледжвае крыху большую колькасць пытанняў). У першы дзень перапісу будуць апытаны і ўсе тыя, хто будзе знаходзіцца на тэрыторыі БССР часова — у санаторыях, бальніцах, дамах адпачынку і г. д. Ахопіць ён і пасажыраў чыгункі. Усе звесткі будуць падавацца падлікоўцамі паводле фактычнага стану на поўнач з 11 на 12 студзеня.

— А ці многа пытанняў будзе ў перапісным лісце? Ці будуць гэтыя пытанні адрознівацца ад тых, што былі дзесяць гадоў назад?

— У перапісныя лісты ўпершыню пасля 1926 года ўнесены пытанні, звязаныя з жыллёвымі ўмовамі. Апрацоўка гэтых звестак павінна дапамагчы ў выкананні жыллёвай праграмы. Усяго пытанняў — 25 (у 79 годзе іх было шаснаццаць). Для вывучэння працэсаў міграцыі ўведзена пытанне аб месцы нараджэння. Ёсць і іншыя новыя пункты.

— Вольга Варфаламееўна! Я гляджу на перапісны ліст і бачу, што чалавеку недасведчанаму разабрацца ў ім не проста...

— Гэтыя лісты распрацаваны Дзяржкамстатам СССР і прызначаны для апрацоўкі іх з дапамогай ЭВМ. Пасля запаўнення лістоў яны будуць накіроўвацца ў абласныя статупраўленні, дзе ўся інфармацыя будзе кадзіравацца ў спецыяльна

## З пошты «ЛіМа»

# ● ПРАЦЯГВАЦЬ ПРАЦЭС АЧЫШЧЭННЯ

# ● «ЧАКАЙЦЕ, ВЫЯЗДЖАЕМ...»

# ● З КРЫЖАМІ ЦІ БЕЗ?

АДНОЙ з характэрных прыкмет адыходзячага года было, на маю думку, тое, што мы рашуча вызваляліся ад цяжкага грузу сталіншчыны. У гэтым нам спрыялі і шмат якія лімаўскія публікацыі — «Балючая памяць», «Курапаты — дарога смерці», «Бэндэ» і інш.

Калі я шмат гадоў назад працаваў у Слаўгарадскай газеце, то нямала чуў ад людзей, што рабілася ў раёне ў 1937—38 гадах. Прыходзіў у сельсавет загад знайсці ворагаў народа. І вось знаходзілі, фабрыкавалі. Калі «вораг» не прызнаваўся, тады раскальвалі да белага «буржуйку» і ставілі на яе арыштаванага. Чалавек не вытрымліваў і падпісваў любую паперу. Пахла паленым чалавечым мясам, расла колькасць «ворагаў», а некаторыя за гэта атрымоўвалі ордэны.

Хачэў бы выказаць тут і наступнае меркаванне. Пакуль што як быццам нам не вядома, каго расстрэльвалі ў Курапатах. Думаю, што з многіх вёсак туды і везлі: на месцы не расправуляліся, бо, відаць, пабойваліся сведкаў, бунту апасаліся. Пра гэта мог расказаць ветэран грамадзянскай і Айчыннай войнаў Уладзімір Іванавіч Шкірманкоў са Слаўгарада. Ён сам ледзьве ўцалеў ад жахоўскай мясарубкі. Ну ды ён зараз цяжка хворы.

Тыя, хто шукаў і «знаходзіў» ворагаў народа, самі і з'яўляюцца яго сапраўднымі ворагамі, ворагамі сацыялізму і чалавецтва. Спадзяюся, што ў сёлетнім годзе працэс ачышчэння ад сталінскай спадчыны будзе прадаўжацца.

**В. БЫСАЎ,**
**журналіст.**

г. Крычаў.

●

ЗВЯРТАЮСЯ ў рэдакцыю «ЛіМа» ад імя васьмісот кнігалюбаў г. Маладзечна, якія двойчы збіраліся ў зале аднаго з заводаў і гарадскім Доме культуры на сустрэчу з аўтарам кнігі «Жылабыла дзяўчынка» Вольгай Корбут і заслужаным артыстам БССР Леанідам Барткевічам. І двойчы сустрэча не адбылася.

Першы раз, пасля паведамлення 29 лістапада аб тым, што іх машына трапіла ў аварыйную сітуацыю ў раёне станцыі Беларусь, сустрэчу вырашылі адкласці. Сам Л. Барткевіч сказаў, што «доўг» у бліжэйшыя дні яны вернуць. Ад імя арганізатараў сустрэчы кнігалюбам завода было прынесена прабачэнне па заводскім радыё і запэўніванне, што сустрэча ў бліжэйшы час адбудзецца. А паколькі ў Маладзечне вялікай канцэртнай залы няма, зноў дамагчыся правядзення сустрэчы ў тых жа залах было, павер, зусім не проста.

Напярэдадні другой сустрэчы, у нядзелю, 4 снежня, па тэлефоне я пацікавілася самаадчуваннем Вольгі Корбут. Па яе словах, усё было ў парадку. Гаворка адбылася добрая, і сумненняў наконт заўтрашняга дня не было.

У дзень канцэрта пазваніла яшчэ некалькі разоў. І толькі каля 14 гадзін адказаў Л. Барткевіч і паведаміў, што Вольга — «дзяржаўны чалавек» і яе выклікалі ў Маскву, а адзін ён выступаць не будзе. Паколькі сустрэча была прызначана на 16 гадзін 30 мінут, на заводзе і ў 18-30 у гарадскім Доме культуры, штосьці-небудзь змяніць ужо было немагчыма.

Я прапанавала, каб Барткевіч прыехаў сам і выступіў. Пасля доўгіх размоў аб адказнасці ў справе выхавання моладзі і за сваё выступленне, Л. Барткевіч сказаў: «Чакайце ля гасцініцы ў 16 гадзін, выязджаю».

Вось і стаяла я, як піянер, даўшы чэснае слова, тры гадзіны на ветры. так і не дачакаўшыся прыезду... Дарэчы, прастаяла гэтулькі ж у першы раз. А на сустрэчу збіраліся людзі пасля адпрацаванай змены і разыходзіліся, зноў падманутыя.

І прыгадалася мне ў тая Вольга Корбут, якая дамагалася «свайго п'едэстала» ўпартасцю, смеласцю, працай і потам, а тая, пра якую яна піша ў сваёй кнізе: «Ведь я богиня, мне можно. Законы для своей совести я издаю сама!»

Дык як жа быць з сумленнем, з даверам людзей? Нават простага слова «даруйце» не дачакаліся мы на гэты раз...

**Р. МАШТАЛЕР,**
**адказны сакратар праўлення таварыства кнігалюбаў.**

г. Маладзечна.

●

У СВЕТ ВЫЙШЛА кніга «Памятнае» нашага славутага земляка А. А. Грамыкі, які амаль 30 год узначальваў Міністэрства замежных спраў СССР, быў Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. У першым томе ўспамінаў, на стар. 14, я прачытаў наступны абзац: «Город моего детства Гомель впервые упоминается в старинных летописях середины XII века. В XIV веке он был оторгнут от Руси и входил в состав Великого княжества Литовского, а с XVI века—Польши, с которой Литва объединилась в Речь Посполиту. С 1772 года этот город по праву истории вновь вошел в состав России как исконно русская земля».

Па прафесіі я біёлаг, а не гісторык. Аднак недакладнасці ў згаданых радках заўважыць, напэўна, кожны, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

1) Першае ўпамінанне аб Гомелі адносіцца да таго часу, калі ў сувязі з перыядам феадальнай раздробленасці адзінай Кіеўскай Русі практычна не існавала. Аб якім жа «адтаржэнні» можа ісці гаворка ў XIV стагоддзі, калі ўспомніць, што ў гэты час былыя старажытнарускія княствы знаходзіліся пад ігам татара-манголаў і ўваход Гомеля ў склад Вялікага княства Літоўскага выратаваў гэты горад, гэтаксама як і астатнія беларускія і, часткова, украінскія землі ад колькіх стагоддзяў прыгнёту і тыраніі. Аб гэтым, дарэчы, пісаў Ф. Энгельс: «У той час, калі Вялікаросія трапіла пад мангольскае іга, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да гэтак званага Літоўскага княства».

2) Гомель ніколі не ўваходзіў у склад Польшчы. Літва пасля аб'яднання з Каронай Польскай у 1569 годзе ў федэратыўную дзяржаву захавала поўную самастойнасць у адміністрацыйным кіраванні, фінансах, мытнай сістэме (да 1766 г.), а таксама ў справах суда і войска. Дарэчы, Статут Вялікага княства Літоўскага дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы аж да 1840 года.

3) Нарэшце, у 1772 годзе Гомель увайшоў у склад Расіі не па праву гісторыі як спаконвечная руская зямля, а ў выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй (ініцыятар), Расіяй і Аўстрыяй.

Усе гэтыя звесткі пры жаданні можна знайсці ў падручніках па гісторыі Беларусі для школ і ВНУ, больш поўна выкладзены яны ў пяцітомнай «Гісторыі БССР» («Навука і тэхніка», 1972).

Сёння ў рэспубліканскім друку слушна крытыкуецца падручнік па гісторыі Беларусі для сярэдніх школ. Кажуць, рыхтуецца новы падручнік. Што ж, будзем спадзявацца, што ён будзе вольны ад хібаў папярэдняга. Але, на мой погляд, справа нават не столькі ў якасці падручніка, колькі ў якасці выкладання гісторыі Беларусі, Вельмі важнае значэнне павінна мець каардынацыя паміж курсамі гісторыі СССР і БССР. У рэшце рэшт, у падручніку гісторыі БССР можна знайсці звесткі, хоць і ўрывачныя, аб Статуце Вялікага княства Літоўскага. Можна даведацца і аб першым усходнеславянскім асветніку Ф. Скарыне, і аб тым, што афіцыйнай мовай Літоўскага княства была старабеларуская... У падручніку гісторыі СССР для 7 класа пад рэдакцыяй акадэміка Б. А. Рыбакова («Просвещение», 1987 г.) пра гэта нават не згадваецца. Затое ёсць там іншыя звесткі, напрыклад: «Государственным языком Великого княжества Литовского был русский, законы были также в значительной части взяты из Древней Руси. Однако литовские феодалы старались подавить самостоятельность русских, белорусских и украинских земель» (стар. 90). Ці ж не адсюль трапляе гістарычная інфармацыя на старонкі шматлікіх кніг?

**Л. ТАРАСЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік АН БССР.**

г. Мінск.

●

МЯНЕ вельмі зацікавіў ліст жодзінскага інжынера А. Доўгага («ЛіМ», 23.12.88). Нам, гуманітарыям, трэба яшчэ павучыцца канструктыўнаму інжынернаму мысленню. Сапраўды, нашы выдавецтвы павінны рэагаваць на самыя «гарачыя» тэмы. Друкаваць і рускіх аўтараў раней за Маскву. Прыклад з папулярным выданнем «Замежнага дэтэктыву» лішні раз даказвае правату гэтай думкі.

Асабіста мне блізкія праблемы адраджэння роднай мовы. На працягу 10 год я працую ў Мастацкім музеі БССР з замежнымі наведвальнікамі. Праводжу экскурсіі на сямі мовах. На адных размаўляю больш свабодна, на іншых менш. Але не ў гэтым справа. Балюча, што за гэтыя гады толькі двойчы давялося правесці экскурсію на беларускай мове (у тым ліку для калег з Беласточчыны). Нават па-нарвежску прыходзілася выступаць часцей. Склалася трывожнае становішча. Трэба сцвярджаць аўтарытэт роднай мовы.

На мой погляд, серыя «Сусветная літаратура», якую пачало выпускаць выдавецтва «Мастацкая літаратура», — вельмі своечасовы і важны акт у працэсе адраджэння мовы. Але працэс настойліва патрабуе ўдасканалення. Чаму няма іншамоўных слоўнікаў і падручнікаў на беларускай аснове? Чаму навучанне замежным мовам на ўсіх адукацыйных узроўнях адбываецца выключна праз рускую мову? Двайны пераклад — з'ява недастойная культурнай нацыі. Успомнім нашых паліглотаў Францыска Скарыну і Максіма Багдановіча.

Каб запоўніць гэты прагал, я прапаную накіраваць таленавітых, здольных маладых (а можна і старэйшых) пісьменнікаў, даследчыкаў у замежныя універсітэты, дзе яны б вывучылі за 3-4 гады мовы, засвоілі б культуру іншых народаў. А потым стварылі б высокамастацкія пераклады, напісалі б артыкулы, кнігі, дысертацыі. Ведаю, што паэтэса Ірына Багдановіч марыць перакладаць лацінаамерыканскую паэзію. Няхай едзе ў Нікарагуа або Бразілію. Язэпу Янушкевічу, напрыклад, не зашкодзіць Кембрыдж (дарэчы, там ёсць вялікая беларуская бібліятэка). І гэтак далей. Беларуская культура заслугоўвае мець сваю арабістыку, кітаістыку, скандынавістыку, японістыку...

Няўжо наша рэспубліка не знойдзе сродкаў на творчыя камандзіроўкі для маладых талентаў? Мы ж вучым у нашых ВНУ (зноў жа на рускай мове) дзесяткі тысяч замежных студэнтаў.

**В. БУЙВАЛ,**
**загадчык аддзела Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.**

●

РЫШТАВАННІ — не самая прыгожая вопратка для будынкаў. Але тое, што ў іх апрануліся былыя Пакроўская царква і касцёл Святой Варвары, радуе віцябчан: больш за сорак гадоў гэтыя помнікі архітэктуры XVIII—XIX стагоддзяў былі кінуты на волю лёсу, аддадзены ва ўладу ветру, дажджу і снегу.

Цяжка даводзіцца рэстаўратарам: справа гэтая для Віцебска новая, ды і належнай тэхнікі, высакаякасных матэрыялаў не хапае. А днямі на шляху рэстаўратараў узнікла перашкода зусім іншага характару. Справа ў тым, што адпаведна праекту шпілі Варвары і купалы Пакроўкі павінны вянчаць крыжы. І менавіта іх сёй-той у Віцебску... спалохаўся.

Так, абодвум будынкам надаюцца зусім новыя, не рэлігійныя функцыі,—напрыклад, у былым касцёле размесціцца канцэртная зала. Але тое, што праз некалькі год убачаць віцябчане, ужо цяпер у афіцыйных дакументах завецца як «Помнік архітэктуры XVIII—XIX стагоддзяў—комплекс касцёла св. Варвары». Канечне, былога. але—**касцёла.** І сапраўдная навуковая рэстаўрацыя вымагае аднаўлення ўсіх архітэктурных кампанентаў. У тым ліку і крыжоў. без якіх сілуэт помніка згубіць сваю эстэтычную і гістарычную арганіку.

Здаецца, гэта зусім натуральна. Ды і Міністэрства культуры рэспублікі зацвердзіла праект рэстаўрацыі з аднаўленнем крыжоў. І толькі віцебскія ўлады ўсё яшчэ сумняваюцца.

Не сакрэт, што наша зямля асірацела на сотні, калі не тысячы помнікаў старажытнага дойлідства з той прычыны, што вока адміністратара бачыла ў іх толькі апалагетыку рэлігійнага культу. Але ж наўрад ці хто з веруючых пад уплывам той, расцягнутай на дзесяцігоддзі кампаніі пераўтварыўся ў перакананага атэіста...

Для Віцебска рэстаўрацыя Пакроўкі і Варвары — толькі пачатак вялікай справы вяртання да жыцця занядбанай архітэктурнай спадчыны. Аднак крыўдна, што руху ў абнадзейваючым напрамку ўсё яшчэ замінае застарэлы спосаб мыслення.

**С. НАВУМЧЫК.**

г. Віцебск.

●

**ВАСІЛЬ БЫКАЎ у «ЛіМе» за 7 кастрычніка 1988 г. пісаў, што ў архівах КДБ — НКУС адсутнічаюць звесткі пра лёс драматурга Дзмітрыя Курдзіна.**

**Пра трагічны лёс Дзмітрыя Іванавіча Курдзіна я ведаю, як ведаў і яго самога. Таму хачу паведаміць некаторыя звесткі з яго біяграфіі.**

**Нарадзіўся ён 1 кастрычніка 1899 года ў Пензенскай губерні ў сям'і вясковага настаўніка. вучыўся ў Мінскім медыцынскім інстытуце, потым служыў у 7-ай Самарскай кавалерыйскай дывізіі, якая дыслацыравалася ў г. Мінску, ваенным ветэрынарам. Звольніўшыся з арміі, пераехаў у Віцебск. Там разам з вялікай групай выкладчыкаў ветэрынарнага інстытута быў у 1937 годзе арыштаваны.**

**У канцы дваццатых і пачатку трыццатых гадоў Д. Курдзін быў вядомым драматургам. Яго п'есы «Міжбур'е», «Алюр тры крыжы», «Контратака», «Чалавек вырашае» і іншыя ставіліся ў многіх тэатрах краіны, у тым ліку і ў Беларусі. Асаблівы поспех мела п'еса «Міжбур'е», прысвечаная мірным будням арміі, калі ішла яе рэарганізацыя. Пра Д. Курдзіна, як драматурга, шырока пісалі газеты.**

**5 красавіка 1937 года я, студэнт рабфака пры БДУ, быў арыштаваны як «вораг народа». Вясну і лета я знаходзіўся ў мінскіх турмах, а ў пачатку восені трыццаць сёмага мяне перавезлі ў віцебскую турму, бо мінскія былі перапоўнены. Там, у вялікай, чалавек на трыццаць, камеры я сустрэўся і пазнаёміўся з Д. Курдзіным.**

**Абвінавачваўся ён у шпіянажы і дыверсіі: быццам бы з'яўляўся агентам польскай дыфензівы і па яе заданні праводзіў дыверсійныя акты — заражаў калгасных коней сапам. Вінаватым сябе Курдзін не прызнаваў, хоць яго цяжка каталі. Пры мне яго аднойчы выклікалі на допыт і трымалі там трое сутак. У камеру яго прывялі двое наглядчыкаў, змучанага і жорстка пабітага. Да гэтага ж допыту ён пісаў агрызкам алоўка ў кніжачцы з курыцельнай паперы п'есу. Помню, што яе назва была, здаецца, «Зялёны цэх».**

**Судзіў Д. Курдзіна ваенны трыбунал, а можа, і выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 11 снежня 1937 года, і прысудзіў да расстрэлу. У тую ж ноч — 12 снежня — ён быў расстраляны.**

**У 1986 годзе я ад імя СП БССР праз ваенны трыбунал Беларускай ваеннай акругі зрабіў запыт пра лёс Д. Курдзіна. З даведкі, якую мне прыслалі, я дазнаўся, што крымінальная справа на Д. Курдзіна знаходзіцца па месцы яго нараджэння — у архівах КДБ Пензенскай вобласці.**

**Па заяве сына Курдзіна — Руслана, які жыў (а можа, і цяпер жыве) у г. Алма-Ата, вул. Універсітэцкая, дом. 13, кв. 3, Д. Курдзін быў рэабілітаваны ваенным трыбуналам Адэскай ваеннай акругі ў 1957 годзе.**

**Малодшы сын Д. Курдзіна Уладзімір жыве ў г. Мінску.**

**Указаная даведка ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі, дасланая ў 1986 годзе, знаходзіцца ў архівах СП БССР.**

**Васіль ХОМЧАНКА.**

●

КАЛІ ІДЗЕШ па Траецкаму прадмесцю ўздоўж вуліцы Горкага, у вочы кідаецца буйная шыльда з надпісам «Троицкий пряник». Хочацца азірнуцца ў пошуках шыльдаў накшталт «Русский чай», «Пельменная», а лепей — «Троицкий самовар». Можа, і сапраўды так было б лепш: хоць бы памылак...

Селішча ў Траецкае новыя ўстановы — і зноў тая ж гісторыя. Вось, напрыклад, напісалі залатымі літарамі «Камісійная лаўка». Вядома, цяжка сёння таму-сяму давесці, што «фарфор» па-беларуску—«парцэляна». Але адкуль узялася «лаўка»? Калі «лаўка», дык чаму «камісійная», калі «камісійная», дык чаму так назвалі краму? Нейкі абсурд, а дакладней — непісьменнасць. Безумоўна, вінаваты тут, апрача іншых, і мастакі. Але ж у Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава... не выкладаюць па-беларуску, няма такога прадмета, як родная мова, практычна адсутнічае курс беларускага мастацтва, гісторыя Беларусі — гэта ўжо само сабою — таксама за бортам.

Пры такіх адносінах да мовы не здзіўляюся, калі зноў хлыне паток «фруктаў», «чашак», «мельніц» і «карандашоў» не толькі на шыльдах, але і ў друку (як, напрыклад, у 3-м нумары часопіса «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»).

Без надання беларускай мове дзяржаўнага статусу, без «рэабілітацыі» правапісу, без рэформы слоўнікавага складу мовы не будзе мець асаблівага сэнсу лішняя гадзіна яе ў школе.

**С. ХАРЭЎСКІ,**
**супрацоўнік ВА «Белрэстаўрацыя».**

г. Мінск.

*Анкета «ЛіМа»*

# З ЧЫМ ІДЗЁМ У ЛЮДЗІ

**Некаторыя паняцці за працяглы час свайго існавання трансфармуюцца, набываюць новы сэнс або іншакшае адценне. Словы «правінцыял», «правінцыяльны» ў мінулым стагоддзі, напрыклад, не азначалі нічога крыўднага ці абразлівага. У якім кантэксце яны ўжываюцца сёння — усім нам вядома.**

**Апошнім часам даводзіцца чуць крытычныя закіды ў адрас сучаснай беларускай літаратуры: яе папракаюць у прывінцыяльнасці, абмежаванасці. Прычым папрокі такога плана гучаць і з вуснаў саміх пісьменнікаў, асабліва маладых.**

**— ЯКАЯ ВАША ДУМКА НА ГЭТЫ КОНТ І ШТО НАОГУЛ ВЫ РАЗУМЕЕЦЕ ПАД ПРАВІНЦЫЯЛЬНАСЦЮ Ў ДАЧЫНЕННІ ДА МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ!**

**З такім пытаннем мы звярталіся да літаратараў — прадстаўнікоў розных пакаленняў. Адказы тых, хто адгукнуўся на нашу просьбу, прапануем увазе чытачоў.**

## *Міхась ТЫЧЫНА:*

### «НА ВЯРШЫНЯХ ДУХУ НІКОМУ НЕ ЦЕСНА»

Уразіла нядаўна прачытанае: «Чалавецтва, па сутнасці, глыбока правінцыяльнае...» Сапраўды, калі ёсць недзе ў сусвеце суперцывілізацыя, то мы, у параўнанні з ёю, правінцыялы. І як жа не адчуваць сябе наводшыбе, калі само сонца знаходзіцца недзе на ўскраіне зорнай галактыкі! Так, да залатой мары чалавецтва, да царства свабоды яшчэ вельмі далёка.

Аднак наш правінцыялізм не ў тым, што мы фантазіруем і спадзяёмся на цуд, а ў тым, што ўвесь астатні свет мераем па сабе, пачынаючы са свайго Глуска ці Драгічына, хочам, каб усе жылі і думалі гэтак, як мы, і барані бог, калі нехта жыве і думае інакш. Геаграфія не можа служыць пунктам адліку, калі размова ідзе пра ўзровень духоўнага развіцця. Імпульсы неўтаймаванай думкі ідуць не толькі з Масквы, агульнапрызнанага цэнтра культуры, але і з Іркуцка, дзе жыве і працуе В. Распуцін, і з Новасібірска, назву якога чытаем пад творамі В. Астаф'ева, і з Мінска, дзе—усе ведаюць — генерыруе новыя творчыя ідэі В. Быкаў. Голас праўды чуецца ўсюды, дзе б ён ні прагучаў. Вунь як адважна і як глыбока разважаюць сёння *над складанейшымі праблемамі* чытачы ў сваіх лістах, дасланых з самых аддаленых куткоў рэспублікі!

Так, ёсць у нас пісьменнікі еўрапейскага ўзроўню, ёсць асобныя прарывы да ідэалу. Але ж у цэлым культурны ўзровень нашай літаратуры не намнога перавысіў дасягнутае папярэднікамі. Калі ж прыгадаць, як мэтанакіравана выхоўвалі ў сабе імкненне да вяршынь чалавечага духу Купала, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны, то нельга не заўважыць, што нам нестае гэтага імпэту ў пастаноўцы высокіх задач. Нездарма ж К. Вераніцын, аўтар паэмы «Тарас на Парнасе», выправіў свайго героя ў захапляючае *падарожжа на* свяшчэнную гару, выявіўшы тым самым парыў цэлага народа да вяршынь агульначалавечай культуры. Гэта адчуванне было ўласціва і М. Гарэцкаму, які вуснамі свайго героя намеціў выразныя вехі далейшага руху: «Мы цяпер пад горкаю, а лепшыя нашы вун куды ўжо на горку ўзлезлі, а з часам і ўсе на гарэ будзем...». Як не прыгадаць тут і «ўзвышэнцаў» з іх праграмай стварыць узоры высокага мастацтва, якое *«ўгледзяць вякі і народы»!* Абяцанні неўзабаве былі падмацаваны справай: большасць твораў, апублікаваных на старонках часопіса «Узвышша», стала нацыянальнай класікай. Клопат пра высокую культуру творчасці вызначаў дзейнасць К. Чорнага, які ўсё жыццё змагаўся «за літаратурны сталічны Мінск, супраць Мінску — як губернскай правінцыі, з кансерватыўнымі поглядамі на літаратуру і традыцыямі губернскага маштабу». Прыгадваюцца і словы У. Караткевіча на адным з пасяджэнняў секцыі прозы, калі ён гаварыў, што трэба ўзыходзіць на новыя паверхі творчага духу, а не расцякацца па ўжо заваяваных і абжытых папярэднікамі. Па шляху на Парнас, калі ўсе духоўна растуць, знікае глеба для крыўд і амбіцый, бо на вяршынях духу нікому не цесна.

У вялікага свету свае вялікія праблемы. Але гэта і нашы праблемы: і «азонавыя дзіркі», пра якія простыя людзі даўно гаварылі, яшчэ не ведаючы, што яны сапраўды ёсць, і радыеактыўныя ападкі, якія не ўбачыш простым вокам, і ўзбаламучанае магнітнае поле, якое ўздзейнічае на наш стан штохвілінна, і СНІД, які можа падкрасціся і да таго, хто вядзе пурытанскі лад жыцця. А што ж нашы ўнутраныя, «малыя» праблемы, асабліва такія застарэлыя, як моўная? Няўжо ўздымаючы іх, мы супрацьстаўляем сябе іншым, як сяму-таму здаецца? Зусім нядаўна яшчэ нацыянальнае ўспрымалася многімі як сінонім адсталага, устарэлага, кансерватыўнага ў жыцці чалавецтва. Але разглядаючы нацыю як нейкі прамежкавы *этап на шляху* «да збліжэння і поўнага зліцця», мы чамусьці рашылі, што знаходзімся не на самым пачатку гэтага шляху, а недзе блізка да пераможнага фінішу, забываючы, што «перадгісторыя чалавецтва» скончылася ўсяго толькі 70 год таму назад. Так мы апынуліся былі ледзьве не наперадзе самога прагрэсу, першымі пачалі масава адмаўляцца ад роднай мовы, і нас ставілі ў прыклад іншым неслухам з Прыбалтыкі ці Закаўказзя. Тым самым мы засведчылі, якія яшчэ мы правінцыялы і прагматыкі. Мова адпомсціла нам. Здрадзіўшы ёй, мы загаварылі, паводле выразу Чорнага, на расійска-лагойскім дыялекце, на жахлівым для слыху і беларусаў, і рускіх сленгу, які, мабыць, адпавядаў нашаму небагатаму душэўнаму набытку, раз займеў права на жыццё. Не, усякая праблема, калі яна мае дачыненне да лёсу нават аднаго чалавека, а тым больш — цэлага народа, вялікая. А мы ж, здаецца, пакуль яшчэ нацыя, народ?! І ў нас яшчэ ёсць што паведаміць свету, хоць мы і перажылі такі ўпадак і самапрыніжэнне...

Нацыя, калі яна не супрацьпастаўляе сябе іншым, заўсёды нясе ў сабе пазітыўны змест. *І сёння, калі* свет нагадвае адну вялікую вёску, дзе любая падзея закранае кожнага і ўсё залежыць ад усіх, гэта пачуццё ніколькі не ўстарэла, не стала паказчыкам правінцыяльнасці. Нацыянальнае ў яго пазітыўным змесце —антыпод правінцыяльнаму, «областническому», хутаранска-местачковаму. Усё залежыць ад пункту погляду. Калі глядзець на нас з «цэнтра», то мы з'яўляемся насельнікамі «ўсходніх крэсаў», або «Северо-Западного края», або нават «задворкаў Еўропы». Але можна на нас глядзець і як на жыхароў зямнога шара, роўных сярод роўных, такіх жа «прагрэсістаў» і такіх жа правінцыялаў, як і ўсе астатнія. Ці не з'яўляецца гэты пункт погляду самым правільным?

## *Пятро ВАСЮЧЭНКА:*

### «ХУТАРСКАЯ ПСІХАЛОГІЯ— ЯК ХВАРОБА...»

Так, мне даводзілася чуць пра абмежаванасць. Ды звычайна да гэтага слова дадаюць прыметнік «нацыянальная». Быў сведкам, як група незадаволеных гледачоў абмяркоўвала кінатрылогію Т. Абуладзе (*«Маленне», «Дрэва жадання»*, «Пакаянне»). Таксама казалі: «замнога грузінскага», «цьмянае», «абмежаванае», «адасобленае». А ці не мы самі «адасобленыя» — калі нам гэтак цяжка ўвайсці ў культуру іншай нацыі? Нічога, навучымся. Засвоілі ж некалі нават таямніцы японскай версіфікацыі, гэтыя танка, хоку... Прыйдзем і да свае літаратуры — навучымся як след чытаць яе...

Нацыянальнае не адмяжоўвае. У ім парастак агульналюдскага, толькі трэба ўмець яго вырошчваць — цярпліва, рупна. Не спакушацца дарэмнымі марамі: пераскочыць праз нацыянальнае ды адразу асядлаць агульналюдскае. Дагэтуль у сусветным пісьменстве такое нікому не ўдавалася. Возьмем «звышлітаратараў» XX стагоддзя — Фолкнера, Маркеса. Першы ўсё жыццё апяваў Йокнапатофу, якой не існавала, але якая была, — родны пісьменніцкаму сэрцу, паўднёвы штат ЗША. Другі быў таксама паэтам свае малое радзімы, а пісаў жа — пра чалавечы Сусвет...

Аддаленая Калумбія падаравала *сусветнай літаратуры* Маркеса, «правінцыяльная» Нарвегія—Ібсена, маленькая Швейцарыя — Гесэ, Фрыша, Дзюрэнмата... А яны дыктавалі літаратурным сталіцам свае густы, стылі.

Што такое правінцыя? Далей ад цэнтра? А што замінае стаць цэнтрам?

Ці ёсць хутары ў літаратуры?

Талстой у Яснай Паляне, Купала ў Акопах, Шолахаў у Вёшанскай...

Бывае хутарская псіхалогія. Яна, як хвароба, можа апанаваць чалавека, дзе б ён ні жыў — у сталіцы ці ў мястэчку.

Правінцыяльнасць у такім разуменні паняцце хутчэй часавае, чым прасторавае, і азначае адставанне ад часу, ад прагрэсу. Што ж датычыць да нашых, мясцовых праблем (дый ці толькі ў нас яны?), дык гэта не ад нашай аддаленасці, а ад недахопу новага мыслення.

Рэцыдывы правінцыяльнага «самаедства». Гэта, вядома, шырэй, чым літаратурная з'ява. Вышукваем сваіх, «крэўных» нацыяналістаў: абавязаны ж быць, калі недзе ёсць! Падазраём у нейкіх падкопах моладзь, што толькі-толькі пачынае ўсведамляць сябе часцінкай грамадства, нацыі. А мы яе—таўчы, вунь як тую «Талаку» ў «Вячэрнім Мінску».

*Правінцыяльны недавер да публічнасці.* Нібыта лёд скрануўся: пачалі друкаваць напаўзабытую літаратурную спадчыну, ды гэтак марудна, немалою крывёй. А дзесьці дзейнічаюць і абмежаванні: Гаруна, Жылку, Мрыя можна перавыдаваць, а некага—рана. Але ж некалі друкавалі і гэтых, і тых? Чаго баімося? Чытач жа паразумнеў за гэтулькі год, разбярэцца, што да чаго. Упэўнены: перавыдаваць можна ўсіх—з адпаведнымі каментарыямі.

Каб не лічыцца правінцыяльнай, нашай літаратуры трэба сплаціць усе свае пазыкі чытачу. У нас жа дагэтуль не распрацаваны такія жанры, як дэтэктыў, фантастыка, філасофскі раман.

Непакоюся, аднак, што неўзабаве ўсё пісьменства—сталае ды маладое, таленавітае і не вельмі — кінецца запаўняць усе прагалы — толькі дзеля таго, каб нечым запоўніць. Мы ж так прывыклі некага даганяць... І тады будзем ганарыцца: ёсць і ў *нас! Нават «новы раман»,* п'еса абсурду, «сюр», на якія літаратурная Еўропа перахварэла гадоў дваццаць таму,— будуць!

Перахварэм і мы. Што далей?

А ў літаратурным Парыжы ўжо сёння мода на новы рамантызм, рэалізм...

Вядома, трэба ведаць, прытым з самых свежых крыніц, пра тое, што дзеецца на літаратурнай планеце. Інакш будзем на ёй выспаю.

Вучыцца ў старых майстроў і ў авангарду, але рабіць самабытную і самавітую літаратуру, незакамплексаваную, без жанравых прагалаў.

Трывіяльна — і гэтак складана.

## *Алесь РАЗАНАЎ:*

### «МУСІМ СНІЦЬ ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ СНЫ...»

Правінцыяльная літаратура можа быць па-свойму разнастайнай: і вясковай, і гарадской, і прыгодніцкай, і гістарычнай. Але адзінае: у ёй заўсёды недастаткова самога чалавека, ён у ёй, карыстаючыся спецыяльнай тэрміналогіяй, проста недапраяўлены.

І ў тым, што беларуская літаратура ў многіх сваіх праявах падупадае пад азначэнне правінцыяльная, вінаваты перш за ўсё ён, гэты самы чалавек, які, каб быць сабой, мусіць сніць правінцыяльныя сны, здзяйсняць правінцыяльныя ўчынкі, мець справу з правінцыяльнай рэчаіснасцю.

У правінцыяльнай літаратуры нябёсы яшчэ не зусім аддзяліліся ад зямлі, вада — ад сушы, а сама яна ў сваім генезісе не асвойтала той стадыі, адкуль відаць небакрай чалавечага існавання. Гэты небакрай для яе нязменна засланяецца частковасцямі і прыватнасцямі. І хаця яна, зрэшты, *піша пра тое ж, што і* «метрапольная» літаратура, піша яна, калі так можна сказаць, не самымі асноўнымі цэнтрамі.

Даследчыкі зазначаюць, што беларуская літаратура прайшла і праходзіць паскораны курс развіцця. Але паскораная літаратура валодае адной небяспечнай уласцівасцю — яна «незамацаваная», і таму даволі лёгка вяртаецца да свайго першапачатковага ўзроўню. І вось гэтая «вернутая» літаратура, якая памятае пра вяршыні, але не мае ні моцы, ні жадання асягаць іх, становіцца якраз той удзячнай глебай, на якой вырастаюць — кажучы ўслед за Г. Марчуком — «кветкі правінцыі».

## *Ала СЯМЁНАВА:*

### «ПРАВІНЦЫЯЛІЗМ ШМАТАБЛІЧНЫ»

Паміж іншым, энцыклапедычныя слоўнікі неяк не ставілі сабе за мэту вызначэнне паняцця «правінцыяльнасць». А тлумачальныя спакойна спалучалі лапідарнасць з павярхоўнасцю і аднамернасцю: «прыкметы, што пазначаюць правінцыяла». Ну, але ж як разумець сёння правінцыяла ў літаратуры? Статус сучаснай савецкай літаратуры шмат у чым вызначаюць пісьменнікі, што жывуць зусім не ў сталіцах. Так што правінцыялізм сёння — паняцце, незалежнае ад геаграфіі. Гэта хутчэй адсталасць духоўная, абмежаванасць.

Правінцыялізм у тым, як мы разумелі дагэтуль паняцце сацыялістычнага рэалізму. І ў тым, што так ужо шчыравалі ў вызначэнні межаў сацыялістычнага рэалізму, што ўрэшце ён стаў нагадваць жалезабетонную забудову са звышпільным КПП. Хто праскочыць? І цвіль пачыналі абвяшчаць абавязковай прыналежнасцю той забудовы (інакш не бывае), а збуцвелыя сутарэнні многіх састарэлых ідэй вызначалі як надзейны падмурак метаду.

Правінцыялізм — гэта калі друкавалі адных і не друкавалі іншых. З нязвычным складам мыслення. З нязвычнымі прыёмамі пісьма. Правінцыялізм — калі адны традыцыі шанавалі, песцілі, другія — не заўважалі, рабілі выгляд, што такіх накірункаў у літаратуры не было, а галоўнае — быць не можа. Правінцыялізм — гэта разуменне наватарства і на*візны ў вульгарызаваным,* часта сацыялагізаваным плане. Інерцыя выкрыцця ідэалагічных грахоў і звышправедных павучанняў.

Правінцыялізм — не толькі ўчарашні дзень. Сёння нам таксама пагражае той самы, ці хутчэй — трансфармаваны — правінцыялізм пад найноўшымі лозунгамі. І колькі сёння з'явілася сацыяльнай мімікрыі, колькі Мікітаў Зносакаў ад перабудовы!

Нашай, беларускай, літаратуры ўсё гэта датычыць. І часта — у значнай ступені. І таму, што нацыянальнае адраджэнне (колькі, дарэчы, мяне як рэдактара цкавалі за гэты «крамольны» тэрмін) толькі пачало набіраць моц, як з 1929 года сталі паслядоўна і гвалтам «выбіваць» беларускую інтэлігенцыю, творчую — у першую чаргу. Што мы страцілі — невыносна і думаць. Вяртанне спадчыны А. Гаруна, М. Гарэцкага, А. Мрыя яскрава сведчыць, што традыцыя нашай літаратуры куды больш разнастайная, чым мы сабе ўяўлялі. А вось якраз на традыцыі, як на нейкі непахісны, ледзь не праваахоўны закон, у нас вельмі прынята спасылацца.

Часта і супрацоўнікі рэдакцый, і крытыкі не ўмеюць быць талерантнымі, памяркоўнымі, успрымаць і друкаваць тое, што не супадае з уласным густам, з уласнай манерай пісьма. Безумоўна, суб'ектыўныя густы былі і будуць. Аднак калі суб'ектыўны густ выдаецца за эстэтычны норматыў — гэта ўжо абмежаванасць.

Правінцыялізм шматаблічны. Гэта і тыя *выпадкі, калі* ў рэдакцыях перапісваюць графаманаў, часта і з навуковымі ступенямі, і членаў творчых саюзаў, падтрымліваючы ўтрыманцаў ад літаратуры. Калі друкуюць новыя творы, у якіх няма нічога новага. Калі пішуць — старанна — добрасумленныя кнігі, што гадамі збіраюць пыл на паліцах. Так і жывём.

## *Ігар ЖУК:*

### «А МОЖА, МЫ ПРОСТА РАЗВУЧЫЛІСЯ ДУМАЦЬ!»

«...Беларусы ж нікога не маюць», — Купалаў радок сам сабою выплыў з тайных спратаў свядомасці. Ну, а як жа сёння? Ці парадаваўся б Купала, калі б мог пачуць, што беларусы ізноўку «нікога не маюць»? А, можа, мы ўсё-такі нешта маем і толькі проста развучыліся ўдумліва і ўважна паасобку чытаць адзін другога, а ўсе разам — думаць? Бо смелыя, на першы погляд, папрокі ў правінцыяльнасці—не што іншае, як агрэсіўная «недакультура», якая, між іншым, і папраўдзе спрыяе псіхалагічнаму ўсталяванню трывалага *сіндрому* ўласнай слабасільнасці, уласнай непаўнацэннасці перад сусветнай культураю.

Помніцца, вясковая школьніца, убачыўшы ля сталічнага універсама звілісты людскі ланцужок, усклікнула: «Посмотрите, какая большая черга!» Наіўная вясковая дзеўчынёха ў сваім зразумелым імкненні ў горадзе быць «гарадской» страціла ўсё: і сваё роднае харство, і харство другой мовы.

**(Працяг на стар. 6—7).**

## Віншуем!



**4 студзеня споўнілася 60 гадоў пісьменніку Івану Сяркову. З гэтай нагоды праўленне СП БССР *павіншавала юбіляра*, пажадала яму добрага здароўя, новых творчых здабыткаў.**



**7 студзеня спаўняецца 60 гадоў крытыку Міколу Луфераву. Праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем новых кніг, добрага здароўя.**

Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбілярам усяго самага добрага *ў жыцці і літаратуры.*

## НА АЗЕРБАЙДЖАНСКАЙ МОВЕ

У дзесятым нумары часопіса «Улдус» у раздзеле «Проза і паэзія братніх рэспублік» у *перакладзе Мамеда Аруджа* змешчана апавяданне У. Рубанава «Паляванне».

*Надрукавана ў «Полымі»*

# Здзяйсненне яго мары

ГЭТЫ чалавек быў вучоным-гісторыкам з сусветным імем. Яго працы вядомы далёка за межамі нашай краіны. Але, як і ў кожнага чалавека, была ў Мікалая Мікалаевіча Улашчыка запаветная мара — напісаць і апублікаваць гісторыю роднай вёскі Віцкаўшчына, што на Міншчыне. Напісаць то ён напісаў, а вось з публікацыяй выйшла, як кажуць, няўвязка. Маскоўскае выдавецтва «Наука», для якога быў падрыхтаван рукапіс, не спяшалася яго друкаваць, а потым наогул забылася аб ім. Тады Мікалай Мікалаевіч прапанаваў рукапіс беларускім выдавецтвам. Некаторыя з іх адразу адмовіліся, а іншыя прапанавалі давесці гісторыю яго роднай вёскі да нашых дзён, але Улашчык не мог на гэта згадзіцца, бо ніколі не займаўся гісторыяй Беларусі савецкага перыяду.

На вялікі жаль, Улашчык так і не дачакаўся здзяйснення сваёй мары. Праз паўтара года пасля яго смерці «Чырвоная змена» апублікавала ўрыўкі з кнігі вучонага «Была такая вёска» з прадмовай Уладзіміра Арлова. І вось, нарэшце, ліпеньскі, жнівеньскі і верасгнёўскі нумары часопіса «Полымя» за 1988 год данеслі да чытача гісторыка-этнаграфічны нарыс Міколы Улашчыка «Вёска Віцкаўшчына» з уступным артыкулам яго перакладчыка з рускай мовы на беларускую У. Арлова, які ў многім садзейнічаў выхаду гэтага твора ў свет.

Калі перагортваеш апошнюю старонку гэтага нарыса, то *пачынаеш* разумець сэнс думкі, выказанай ва ўступе, што «Вёска Віцкаўшчына» — гэта помнік адной з тысяч нашых вёсак, своеасаблівая энцыклапедыя жыцця беларускага селяніна ў дакастрычніцкі час, дакладней у 1883—1917 гады.

Раскрываючы перад чытачом мэту свайго нарыса, Мікалай Мікалаевіч заўважае: «У маёй працы развіццё капіталістычных адносін у беларускіх вёсках паказана на матэрыяле адной з іх — Віцкаўшчыны. Вёска гэтая нічым не знакамітая, якіх-небудзь значных падзей тут не было, славутых дзеячаў з яе не выйшла. Ці варта ў такім разе пісаць пра яе? Пытанне даволі слушнае, бо ў Беларусі ёсць тысячы паселішчаў, якія перажылі вельмі драматычныя падзеі. На гэта можна адказаць, што аб'ектам даследавання мае права быць кожны населены пункт, і вельмі шкада, што гісторыі вёсак і невялікіх паселішчаў наогул у нас няма. Шкада, бо без вывучэння гісторыі гарадоў, вёсак, хутароў немагчыма і глыбокае веданне краіны.

Цікавасць менавіта да Віцкаўшчыны тлумачыцца тым, што ў ёй прайшло маё дзяцінства, што я ведаў там не толькі ўсіх жыхароў, але таксама ўсіх коней, кароў, сабак, карацей кажучы, я ведаю вёску не толькі па крыніцах, але і «ў твар».

Калі рукапіс кнігі М. Улашчыка абмяркоўваўся ў Акадэміі навук БССР, адзін вядомы гісторык, які займае даволі высокую адміністрацыйную пасаду, зрабіў вывад, што гэтую кнігу друкаваць нельга, таму што вёска Віцкаўшчына нетыповая. Як бы адказваючы свайму апаненту, Мікалай Мікалаевіч заўважае: «У тагачаснай Беларусі вёска Віцкаўшчына — шмат у чым нетыповая: яна значна багацейшая за тыповыя вёскі, у ёй няма шэрагу тыповых бытавых рысаў. У невялікай Віцкаўшчыне перад першай сусветнай вайной было 5 жнянрак, але зусім знікла нацыянальнае адзенне, амаль усе умелі чытаць і пісаць, але вясельныя, купальскія і іншыя абрады былі амаль цалкам забытыя. Тым не менш, Віцкаўшчыну нельга ўявіць нечым выключным і непадобным на беларускую вёску таго часу. Віцкаўцы значна адрозніваліся ад сваіх суседзяў, былых прыгонных сялян, якія былі адносна добра забяспечаны *зямлёю і над якімі не вісеў* цяжар прыгоннай мінуўшчыны. Нетыповая для тагачаснай беларускай вёскі наогул, Віцкаўшчына была тыповая для населеных пунктаў, створаных на куплёнай зямлі, а такіх паселішчаў Беларусь на мяжы двух стагоддзяў мела багата».

На падставе глыбокага вывучэння дакументаў Цэнтральных дзяржаўных гістарычных архіваў Беларускай і Літоўскай ССР аўтар *пранікае ў та*ямніцы гісторыі роднай вёскі, яе ўзнікнення і развіцця.

Калі не браць пад увагу паноў, адзначае Улашчык, у тым *ліку і дробных, а ўзяць толькі* тых, хто працаваў на зямлі, дык гэтае насельніцтва ў наваколлі Віцкаўшчыны можна падзяліць на тры асноўныя групы, у кожнай з якіх існаваў і больш дробны падзел.

Наверсе гэтай лесвіцы стаяла дробная шляхта, што жыла на хутарах і засценках — невялікіх паселішчах па 5—10 двароў. Крыху ніжэй шляхты былі праваслаўныя хутаранцы, якія мелі па 30—60, а падчас і па 80—100 дзесяцін зямлі (амаль заўсёды куплёнай). На апошняй прыступцы гэтай лесвіцы знаходзіліся былыя прыгонныя. Сярод іх таксама не было роўнасці, бо адны гаспадары мелі па 20 дзесяцін, а другія — па 3—5, а некаторыя (іх, праўда, было вельмі мала) не мелі нічога.

У чым каштоўнасць нарыса М. Улашчыка «Вёска Віцкаўшчына»? Шмат у чым. Той, хто цікавіцца гісторыяй беларускай вёскі, даведаецца шмат цікавага аб планіроўцы вёскі і сядзібаў, аб хатах, гумнах, свірнах нашых дзядоў і прадзедаў.

Адзін з раздзелаў, да прыкладу, *носіць* такую *назву*: «Чым аралі, жалі, пралі». Гэта ўжо не толькі гісторыя, але і этнаграфія беларусаў. Хто з сучасных юнакоў і дзяўчат бачыў, напрыклад, таўкач ці сякач?

Увагу чытача, безумоўна, прывабіць замалёўка вучонага аб сям'і. Улашчык заўважае, што хлопцы жаніліся найчасцей пасля «прызыву», *адбыўшы вайсковую службу*, якая канчалася ў 25 гадоў. Дзяўчаты выходзілі замуж звычайна ва ўзросце каля 20 гадоў. Сяляне надзвычай непрыязна ставіліся да пазашлюбных дзяцей, жыццё якіх было гэткае ж гаротнае, як і доля іхніх мацярок.

Бадай, ні ў адной з кніг па этнаграфіі беларусаў не знойдзеш такога падрабязнага апісання мужчынскай і жаночай працы, як у творы Улашчыка «Вёска Віцкаўшчына». Прычым напісана не проста навукова, а навукова-папулярна, з народным гумарам. Да таго ж Мікалай Мікалаевіч адзначае тое, што бачыў сам. Пагэтаму яму можна верыць ва ўсім. Мы даведваемся, што працу ў вёсцы строга дзялілі на мужчынскую і жаночую. Хлопчыкам і дзяўчынкам даручалі прыкладна аднолькавую работу, але з гадамі розніца рабілася адчувальнай. Зразумела, што мужчыны рабілі самае цяжкае: касілі, аралі, скарадзілі, звозілі на калёсах снапы, сена і канюшыну, ездзілі *ў лес па бярвенне і па* дровы, даглядалі коней. Яны таксама прадавалі свае выра-

# З чым ідзём у людзі

(Пачатак на стар. 5).

Так і ў літаратуры. Мы непазбежна будзем правінцыяламі, пакуль не пераможам у сабе спакуслівае бездухоўнае жаданне выгукнуць «черга», аб'явіць засвоенымі творчыя прыёмы, якія адкрыта не стыкуюцца з натуральнасцю нацыянальнага маўлення, а таму не могуць стаць прадметным урокам сапраўднай культуры. Вось, мне думаецца, ключ да разумення самай страшнай і дрымучай правінцыяльнасці—неўсвядомленае і непрыкметнае адмаўленне ад родавага *субстрата ў экзатычнай пагоні выгля*даць «як усе».

Мы і папраўдзе выглядаем не надта шыкоўна. Але не таму, што дагэтуль не скінулі з літаратуры вясковай апранахі. Я нават асмелюся заявіць, што правінцыяльнасць, калі і выявіла свой твар праз «вясковасць» нашае літаратуры, дык якраз у тым, што сама тэма яшчэ не паддалася, што не хапіла змогі ўбачыць яе ва ўсёй трагічнай велічы. А, не ўбачыўшы ўсяе глыбіні, не адчуўшы незагойнага болю, дазваляем «падправіць» — а па сутнасці начыста сцерці класіку. Гэта толькі з надзіва правінцыяльным спакоем можна назіраць, як у фінале шматсерыйнага тэлефільма па бессмяротнай «Палескай хронікі» І. Мележа не хто іншы, а менавіта Васіль Дзятлік пераможна красуецца на эмтээсаўскім трактары, пракладваючы першую калгасную баразну. Такая «перамога» Васіля ёсць «перамога» над І. Мележам, ёсць паражэнне нашага духу. Бо Мележаў твор мог скласціся як Мележаў толькі ў сваім часе. У іншым часе ён так і застаўся незавершаным, са шматзначным, як на сёння дык і сімвалічным, запаветам: «Працяг будзе...» Будзе працяг сумленнай работы.

Спытаем сябе ў рэчышчы Мележавага *наказу: а хто ж з нас сённяшніх сумеў* зазірнуць і паказаць трагедыю працоўнага селяніна, якая ў Беларусі па збегу спецыфічных акалічнасцей яе эканамічнага і сацыяльнага жыцця прывяла да нацыянальна-духоўнай катастрофы? Цяжка адшукаць, цяжка назваць фігуру больш прыніжаную і зганьбаваную, больш бяспраўную і безабаронную, чым фігура селяніна, які ўсё ж захаваў у сабе і вялікасную, сапраўды хрысціянскую трывушчасць і высакародства, карміў і апранаў, ваяваў і адбудоўваў. Не вясковая апранаха абмежавала літаратуру — з родавай тэмы не змаглі здабыць спаўна родавай філасофіі. Вось у чым сапраўдная слабасць. А самабытная духоўная існасць любога народа ніколі ў вачах развітых культур не можа кваліфікавацца як правінцыяльнасць.

Бясспрэчна: яшчэ вялікія ўрокі трэба браць беларускай літаратуры ў школе сусветнай эстэтыкі. І мы нібыта вучымся, вучымся, вучымся... Але чаму? Шматлікія літаратурныя практыкаванні застаюцца «рэччу ў сабе», нічым або амаль нічым не аздабляючы скарбонку беларускага слова. Не здзяйсняецца асноўная мэта, асноўная ідэя ўсякай вучобы: навучаючы сябе, спакваля, як бы неўпрыкмет навучаць і ўсю літаратуру, сабою сцвярджаць рэальнае права існаваць літаратуры, якую прадстаўляеш.

І вось жа дзіўны парадокс! Ашаламляльны ўрок з горасным і непрадказальным фіналам маем перад вачамі: нават свае ўласныя набыткі мы не маглі пеставаць і спажываць у літаратуры ў поўнай меры. Жыццё цэлага пакалення беларускіх літаратараў было ахвярна пакладзена (давайце і гэта бачыць), каб інтуітыўна, падчас навобмацак, адрадзіць каштоўнасці, якія ўжо існавалі. Думалася: адкрываем новае, а рэальна — вымусовае таптанне амаль на месцы. Думалася: вынаходзім веласіпед, а рэальна — усяго толькі ўстаўлялі спіцы ў кола нацыянальнай і сусветнай эстэтыкі, папярэдне бязлітасна раструшчанае чыноўнікамі ад інтэлекту. Якіх выдаткаў так патрэбнай *заўсёды духоўнай энергіі гэта вымагала!* Здавалася б, усведамленне такой несправядлівасці мусіла само сабой узняць культуру вучобы. Аднак жа...

Тут, дарэчы, мы і сутыкаемся з той антыноміяй, якая ўсё часцей змушае задумацца над праблемай правінцыяльнасці. З аднаго боку — паслабленасць нацыянальнай асновы. А з другога боку — хаатычнае, як бы неасэнсаванае, недаўменнае імкненне-пытанне: а што ж канкрэтна можна ўзяць з новага ў літаратуру?

Дзве гэтыя слабасці замкнуліся дыялектычнай супрацьлегласцю: адно вынікае з другога і абумоўліваецца ім. Калі паслабляецца першасная аснова, з непазбежнасцю ўзмацняецца хаатычнасць запазычанняў. Супроць хаосу і трэба змагацца. Суладдзя ж, думаецца мне, можна дасягнуць праз умацаванне духоўнага нацыянальнага статуса літаратуры.

## *Анатоль ЖАЛЯЗОЎСКІ:*
## «ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ НЯМОГЛАСЦЬ ЦІ НЕШТА ІНШАЕ!»

Карані цяперашняга сацыяльнага і літаратурнага нігілізму і правінцыялізму не ў «пэўнай інтэлектуальнай нямогласці», як піша часопіс «Крыніца» (№ 3, 1988 г.), а ў праблемах сацыяльна-палітычнага развіцця грамадства, пачынаючы ад культаўскіх часоў і да апошніх дзесяцігоддзяў. Уявім сабе, колькі з-за штучнага «абрусення» нацыі Беларусь не дадала сваёй культуры іменна беларускіх *пісьменнікаў, мастакоў, спевакоў*, майстроў прыкладнога і іншых відаў мастацтва, а ўвогуле творцаў культуры?! Адным словам, не на поўную сілу рэалізавала свае магчымасці ў сферы духоўнай культуры. Але ўсё ж і ў гэты застойны перыяд, калі адбывалася дэградацыя грамадства, нельга сцвярджаць, што ў нас не было самабытных і арыгінальных творцаў.

Так, літаратура ніколі не была самастойнай і вольнай у сваім праяўленні. І я не магу пагадзіцца з думкай, выказанай усё ў тым жа артыкуле С. Букчына «Як пераадолець разрыў» у часопісе «Крыніца», што ў гэтыя цяжкія гады сапраўдныя творы пісаліся «ў шуфляду». Мне здаецца, што пісьменнік, калі ён сапраўдны пісьменнік, павінен пісаць з адной мэтай — вынесці твор на суд чытача.

Нельга забываць і тое, што пісьменнік — такі ж чалавек, як і ўсе іншыя грамадзяне краіны, і вымушаны сваёй літаратурнай працай зарабляць хлеб надзённы. І «Дзеці Арбата» былі напісаны А. Рыбаковым даўно і не ў стол, і паэма А. Твардоўскага «Па праву памяці» ства-

бы і амаль заўсёды самі куплялі ўсё патрэбнае ў гаспадарцы. Жанчыны жалі, падварочвалі сена, пралі, ткалі, даглядалі кароў і свіней; яны павінны былі таксама збіваць масла і рабіць сыр. Галоўным клопатам жанчын было гатаванне ежы, каб накарміць сям'ю; яны мусілі таксама парыць бульбу на пакорм скаціне. Натуральна, што жанчыны глядзелі малых, мылі бялізну, абшывалі дзяцей і часткова дарослых, а таксама прыбіралі ў хаце і насілі ваду.

Канстатуючы гэты падзел працы, вучоны ставіць такое пытанне: «Ці нашмат жаночая праца была лягчэйшая?». І адказвае на яго так: «Качаць бярвенне, пілаваць тоўстыя дрэвы, касіць нялёгка і дужаму мужчыне, аднак і чыста жаночая праца таксама цяжкая, тым больш, што, стаміўшыся за дзень, жанчына мусіла і ўначы не раз падымацца да дзіцяці».

Шмат карыснага для сябе знойдуць чытачы раздзелаў «Трохполле і навацыі», «Як зямля радзіла», «У хляве і на стайні». Для аўтара гэтых радкоў, як вучонага-гісторыка, найбольш каштоўныя думкі М. Улашчыка аб парабках, вёсцы і рынку, даходах і расходах сялянскай гаспадаркі.

Аўтар нарыса прыводзіць факты, якія ідуць уразрэз з вывадамі многіх гісторыкаў рэспублікі. Ён сцвярджае, што большасць гаспадароў, якія мелі 20—30 дзесяцін зямлі, наймалі парабкаў, звычайна нежанатых маладых мужчын ці незамужніх дзяўчат. Наёмныя парабкі былі ва ўсіх гаспадароў, якія мелі 40 дзесяцін.

А колькі пазнавальнага і цікавага для сябе знойдзем мы ў замалёўках Улашчыка аб транспарце і побыце віцкаўцаў, аб іх «хлебе і да хлеба»!

Думаецца, што самым цікавым раздзелам твора з'яўляецца «Культурнае жыццё». Прыведзеныя тут факты разыходзяцца з існуючым да цяперашняга часу стэрэатыпам, што пераважная большасць насельніцтва Беларусі была непісьменнай. Так, у школьным падручніку па гісторыі БССР сцвярджаецца, што к пачатку XX стагоддзя непісьменныя складалі 77 працэнтаў. А М. Улашчык у сваім творы падкрэслівае: «Хоць умовы навучання на пачатку дваццатага стагоддзя мала чым адрозніваліся ад тых, што былі ў 80-я гады XIX стагоддзя, чытаць і пісаць умелі ўсе віцкаўцы, якія нарадзіліся і выраслі ўжо ў новай вёсцы. У першыя гады XX стагоддзя ў Віцкаўшчыне семнаццаць двароў і трохі болей за дзесятак дзяцей школьнага ўзросту. Школы вёска не мела, і грамаце можна было навучыцца ў старэйшых сямейнікаў, у дарэктара або ў народным вучылішчы, якое адчынілі ў суседнім Грычыне». Хто ведае, можа, менавіта з-за фактаў, якія разыходзіліся з афіцыйнымі дадзенымі, і не хацелі друкаваць у застойныя часы нарыс «Вёска Віцкаўшчына»?

Не толькі гісторыкі і этнографы, але і людзі розных прафесій, незалежна ад узросту, з задавальненнем прачытаюць старонкі, што знаёмяць нас са святамі, гульнямі і забавамі віцкаўцаў.

Апошні раздзел нарыса М. Улашчыка прысвечаны становішчу вёскі ў час першай сусветнай вайны, асабліва ў 1914—1916 гадах. Вучоны піша, што ў кастрычніку 1915 года фронт спыніўся за 120 кіламетраў ад Віцкаўшчыны. Жывёла засталася без корму, бо салдаты падчысцілі не толькі сена і канюшыну, але і салому. Значную частку фуражу, а затым і бульбы забралі ўцекачы. На жаль, адзначае М. Улашчык, бежанства 1915 года зусім не адлюстравана ў літаратуры. Асобныя газетныя і часопісныя нататкі паказваюць гэтую трагедыю мільёнаў вельмі павярхоўна. Памятаю, што ў час сустрэчы аўтара гэтых радкоў з Мікалаем Мікалаевічам, ён вельмі шкадаваў, што гэтае пытанне, гэтая праблема вось ужо доўгія гады з'яўляецца «белай плямай» у гісторыі Беларусі. Вучоны марыў аб тым часе, калі, нарэшце, з'явіцца малады таленавіты даследчык у Акадэміі навук рэспублікі або ў адным з трох беларускіх універсітэтаў, які дасканала вывучыць гэту праблему.

Можна спрачацца па многіх пытаннях, узнятых у творы Улашчыка, можна крытыкаваць яго за некаторую аднабаковасць, можна вышукаць які-небудзь недахоп. Але наша мэта не ў гэтым. Трэба з усёй пэўнасцю сказаць, што перад намі яркі, арыгінальны і самабытны твор. Паболей бы нам такіх твораў!

**Э. ІОФЕ,**
**дацэнт МДПІ**
**імя Максіма Горкага.**

# Лаўрэаты Дзяржаўных прэмій БССР 1988 года


Мікалай МАТУКОЎСКІ.


Валерый РАЕЎСКІ.


Барыс ГЕРЛАВАН.


Сцэна са спектакля «Мудрамер».


Мікалай ЯРОМЕНКА.


Аўгуст МІЛАВАНАЎ.


Генадзь АЎСЯННІКАЎ.

ралася не з тайным намерам схаваць яе ў шуфляду.

А што тычыцца правінцыялізму ў літаратуры, дык, думаецца, віна ў тым не столькі пісьменнікаў, колькі выдавецка-цэнзурнай сістэмы, якая вырашае «пушчаць» ці «не пушчаць», прасейвае мастацкі твор праз сваё сіта, нярэдка выкідаючы з яго залатыя зярняты і пакідаючы адно шалупінне.

Чытач выдавецкай кухні не ведае. І яна яго не цікавіць. Ён купляе, як хлеб духоўны, кнігу ў краме і не падазрае нават, што яго набытак не раз «згвалтаваны». Але ж самі пісьменнікі пра гэта добра ведаюць. Таму дзіўна гучаць папрокі ў правінцыяльнай абмежаванасці ў адрас усёй нашай літаратуры, тым больш—з вуснаў некаторых літаратараў.

## *Уладзімір КОНАН:*
## «КУЛЬТУРА — ГЭТА САМАБЫТНАСЦЬ»

Сто гадоў таму назад адзін рускі філосаф-публіцыст і крытык часта паўтараў: кітаец і турак для мяне — больш культурныя, чым бельгіец або швейцарац. Кітай па ўзроўню культуры — вышэй за Бельгію, а індусы — вышэй за паўночнаамерыканцаў. Урэшце, рускі старавер і нават скапец — непараўнальна больш культурныя, чым рускі настаўнік, які вучыць дзяцей «па кніжцы барона Корфа». Тут, зразумела, парадокс, празмернае абагульненне, нават адчай. Аднак ёсць жа і зерне праўды. Бо што значыў для культуры швейцарац, які вучыўся ў парыжскай Сарбоне, узяў там напракат крошкі «сусветнай» культуры, засвоіў «метад», гэта значыць, стандарты паводзін і думак па вядомай, другімі прыдуманай формуле, аднак не прынёс нічога свайго, народнага, спецыфічнага і арыгінальнага? Не павышэнне культуры, а паніжэнне яе прынёс гэты «сярэдні» інтэлігент, што страціў народную глебу пад сабою.

Колькі ў нас такіх «швейцарцаў», «бельгійцаў» і найбольш «таксама беларусаў», якія нават мову свайго народа забылі, выракліся яе, сталі банальнымі спажыўцамі рускай ці «сусветнай» культуры! Вось яны і складаюць той шматлікі сацыяльны пласт у нашай рэспубліцы, на якім вырастае правінцыяльнасць, і не толькі ў літаратуры, але і ў палітыцы, культуры, урэшце, у штодзённым побыце. Парадокс у тым, што якраз адтуль чуем абвінавачванні беларускай літаратуры ў правінцыяльнасці, і не толькі сучаснай, але і літаратурнай спадчыны, нашай нацыянальнай класікі.

Калі б мне прапанавалі даць самае кароткае вызначэнне паняцця культуры, якая мае агульначалавечую каштоўнасць, то я сказаў бы: культура — гэта арыгінальная, нацыянальная самабытная творчасць. І толькі той народ найлепшым чынам служыць сусветнай цывілізацыі, які развівае да найвышэйшых рубяжоў сваю ўласную, нацыянальна непаўторную літаратуру, мову, іншыя віды і роды мастацтва, навуку, урэшце, стварае самабытны лад жыцця. Толькі такі народ і толькі такія духоўныя здабыткі цікавыя і каштоўныя для другіх рэгіёнаў і народаў.

Тут нам, як кажуць, ёсць з чым «выйсці на людзі». Гэта наша нацыянальная класіка, прыгожая, вякамі адшліфаваная мова, нацыянальны фальклор з яго, мабыць, найбагацейшай у нашым славянскім рэгіёне разнастайнасцю жанраў і стыляў. Беларускі народ — параўнальна маладая нацыя, яму патрэбны яшчэ вялікія творчыя намаганні, каб яго духоўная спадчына — фальклор, выдатныя скарбы, якія пакінулі нам Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, творы сучасных таленавітых пісьменнікаў — арганічна ўвайшлі ў кантэкст сусветнай культуры. Ужо сёння творы Васіля Быкава моцна паўплывалі на гуманізацыю еўрапейскай грамадска-палітычнай думкі, набылі шырокую вядомасць у асяроддзі адукаванага міжнароднага чытача.

Зразумела, і на гэтым нацыянальна самабытным шляху літаратараў, мастакоў, арганізатараў «масавай культуры» нярэдка падпільноўвае правінцыяльнасць. Небяспека падпасці пад уладу эпігонства рэгіянальнай абмежаванасці, няўвагі да агульнадзяржаўных і міжнародных праблем нашага неспакойнага, супярэчлівага і драматычнага часу. Вось чаму так важна ў літаратурным і агульнакультурным жыцці захоўваць гарманічную меру суадносін уласнанацыянальнага «ядра» і міжнацыянальных духоўных узаемадзеянняў. Тут ёсць два крайнія «крытычныя» пункты, за якімі пачынаецца рэгіянальная ці псеўдаінтэрнацыянальная правінцыяльнасць. За межамі першага з іх—недастатковасць канструктыўных іншанацыянальных уплываў, што вядзе да застою культуры; за межамі другога — такі «лішак» гэтых уплываў, які вядзе да разбурэння нацыянальнай культуры. Сёння нам рэальна пагражае апошняя тэндэнцыя, бо пад пагрозай знікнення — духоўнае ядро культуры, жывая стыхія роднай мовы.

Правінцыяльнасць у мастацкай літаратуры ўвогуле, у тым ліку ў літаратуры беларускай,—гэта і дэфармацыя нацыянальнай самабытнасці, рэгіянальнай шматколернасці, і зніжэнне творчай напружанасці або заняпад таленту, якія вядуць да наследавання, эпігонства, ці, кажучы наогул, — да выцяснення квітнеючай складанасці, стылявой выразнасці і моўнага багацця «другасным спрашчэннем», уніфікацыяй і стандартызацыяй. Ёсць тут і пазалітаратурныя, сацыяльна-палітычныя прычыны, якія параджаюць правінцыяльную літаратуру, культуру, мастацтва. Яны непазбежныя, калі нацыянальная рэспубліка страчвае свой міжнародны статус, эканамічную, палітычную і культурную самастойнасць, ператвараецца ў правінцыю. У рамках рэспублікі неабходна адрадзіць культурную самабытнасць нашых уласных «правінцый»—абласцей, раёнаў, вёсак.

Нярэдка правінцыяльнасць літаратуры, асабліва яе крытыка-публіцыстычных жанраў, параджаецца правінцыяльнасцю перыядычнага друку. Да рэвалюцыі ў нас была «Наша Ніва», якая і сёння не страціла свайго сусветнага значэння: з'яўляючыся праўдзівым «люстэркам Беларусі», яна разам з тым знаёміла сваіх чытачоў з эканомікай, культурай, літаратурай іншых, найперш славянскіх народаў. Другія ж газеты, якія выбралі правінцыяльнасць у якасці праграмы, называліся «Голос провинции», «Жизнь провинции». Ці не зашмат сёння іхніх «дзяцей» або «ўнукаў»? Газета ці часопіс пазбаўляюцца местачковасці, калі набываюць самастойнасць і свой кірунак.

Каб пазбавіцца правінцыяльнасці, патрэбна не дэкларацыя інтэрнацыяналізму (для мяне гэтае паняцце мае перш за ўсё маральны сэнс — павага да ўсіх народаў, іх культуры і мовы), а яго канкрэтная рэалізацыя, праца па ўздыме нацыянальнай культуры да ўзроўню лепшых узораў сусветнай, і разам з тым далучанасць да літаратурна-мастацкіх здабыткаў братніх народаў.

Алена ВАСІЛЕВІЧ



# Станцыя Чышма

Апавяданне

— ДЕНЬГИ есть — Уфа гуляем, деньги нет — Чишма сидим! — Хасан Башыраў, пісар мінбата, бліскае поўным ротам белых, як кіпень, зубоў.

Хасан стаіць каля майго стала і цярпліва чакае, пакуль я, прыдзірліва і настырна ляпаючы лічбальнікамі, не зверу яго сённяшнюю «Страявую запіску» з учарашняй.

Асабовы склад батальёна па спіску. У наяўнасці. Колькі прыкамандзіраваных. Колькі ў санчасці. Колькі выбыла з маршавай ротай...

Хасана не заблытаеш і не падловіш: «А дзе харчовыя і рэчавыя атэстаты на прыкамандзіраваных?..» У Хасанавай «Страявой запісцы», як заўжды, усё дакладна, як на аптэкарскіх вагах. Усё якшы.

— Куды паідзыш? Как вращчацца будыш? Вайнам! — круціць з уздыхам галавою Хасан.

Дзіўны малодшы сяржант. Калі казырае ці дакладвае старшым па званні, ці ў штабе свайго мінамётнага батальёна, Хасан Башыраў карыстаецца бездакорнай рускай мовай (паспеў да вайны скончыць дзевяць класаў!). Такой, што паверыць нават цяжка, што мова гэта ў яго не матчына. Са мной жа тут, у штабе палка (!), Хасан размаўляе так, нібыта мы з ім дзе-небудзь на вуліцы яго роднага татарскага сяла стрэліся. «Вайнам...» Што азначае: куды ты паедзеш, як будзеш назад вяртацца, па гэтакай вайне...

Ах, мяне і самую больш за ўсё на свеце непакоіць зараз гэта: як я паеду, як буду вяртацца назад... Чышма — вузлавая чыгуначная станцыя, дзе — па чутках — чакае мяне самая жахлівая перасядка на Уфу, уяўляецца мне гэтакай жа безнадзейнай ямай, як нашы беларускія даваенныя Асіповічы. Трапіў туды чалавек — і нібыта з галавой у прорву шчабоўкнуў! Век не выберашся! Не выберуся, пэўна, і я. Наўрад, ці выберуся... Але ж усё роўна збіраюся. Усё роўна адважваюся пусціцца са сваіх Тоцкіх лагераў у такую дарогу.

Старшына Жукаў — з асабістага дазволу начальніка штаба палка гвардыі капітана Качалаеўскага — выпісвае мне на дарогу бясплатны ў два канцы «літэр». Як-ніяк, а працую я пісарам страявой часці запаснога стралковага палка. Як вольнанаёмная.

— Толькі па загаду таварыша Сталіна набралі вас, — ставіць на месца нас, вольнанаёмных жанчын, заўсёды іранічны, насмешліва прыжмураны, начштаба. — А так хто б вас тут, баб, трымаў...

І не зразумець, згодны ён з мудрым загадам таварыша Сталіна, ці дазваляе сабе адвагу як быццам нават і падакараць таварыша Сталіна за яго такую выключную ўвагу і мяккасць. Да нас, баб...

«Літэр» сапсаваны, але яго рэабілітуе на каліграфічнаму пісарскаму Жукаваму «исправленному верить» тлустая фіялетавая пячатка «Вайсковая палявая пошта 54800».

Мая сяброўка з ПФС Гіта Ройф памагае мне разжыцца на ладную, маляўніча аклееную бляшанку амерыканскай тушонкі, прыносіць літровую бутэльку алею і тры селядцы! У Гіты дзядзя Зяма — старшы лейтэнант Розенберг (ён кляне свой лёс за гэта прозвішча: «Мне толькі Розенберга і не хапала!») — начпрод нашага палка. Дзядзя Зяма не мае адвагі адмовіць пляменніцы, ён шкадуе і мяне, яе сяброўку («Дзеці...Дзеці...»), якая адважваецца на такую дарогу.

Яго ўласная сям'я: жонка, трое дзяцей і старыя бацькі засталіся ў Кіеве. «У Бабіным яры...» — да крыві закусвае вусны, калі ўспамінае іх, дзядзя Зяма, старшы лейтэнант Розенберг.

...Ну, а два кавалкі чорнага, як дзёгаць, мыла хатняга варыва — таксама на гасцінец — я сама выменяла на базары ў Тоцкім. За абмоткі — шчодры падарунак франтаватага старшыны са смешным прозвішчам Губа. З 15 АЗРС. Адметны народ служыў у той Асобай запасной роце сувязі, прыкамандзіраванай да нашага палка толькі на харчовае і рэчавае забеспячэнне. Усе, як на падбор, рослыя, паглядныя хлопцы-ўкраінцы. З адукацыяй. Спевакі. Вечарамі, перад адбоем, калі прымоўкне натомлены за дзень лагер, з боку зямлянкі той асобай, як уплыне, як узнясецца пад высокім зорным спакоем:

Дивлюсь я на небо, тай думку гадаю.
Чому я не сокіл, чому не літаю...

І такой невыказнай самотай захлісне ад таго спеву сэрца!.. Столькі гадоў мінулася, столькі сплыло ў жыцці ўсяго ўсякага, а і сёння стаяць перад вачыма ў мяне тыя Тоцкія лагеры ў стэпе, тыя пад лінейку падагнаныя, па-вайсковаму выструненыя шарэнгі зямлянак, атуленыя пасадкамі карункава-трапяткіх канадскіх клёнаў. А наводшыбе — таксама ў засені зеляніны — і нашы вольнанаёмныя зямлянкі.

Мне дваццаць год. Я жыву ў гэтым стэпе, працую сярод безлічы мужчын-вайскоўцаў, жыву з дзяўчатамі-вольнанаёмнымі ў зямлянцы і сплю на плеценых з лазы нарах... І на тысячы вёрст вакол няма ў мяне ніводнае роднае душы, я і не ведаю, ці застаўся наогул хто ў мяне родны.

...І вось аднойчы, у гэтым выдзьмутым сухавеем стэпе, мяне адшуквае паштоўка («Маці-радзіма, абарані!»). З сінім штэмпелем наўскасяк: «Праверана вайсковай цэнзурай». Паштоўка ад стрыечнага брата, які здаўна, яшчэ з дваццатых гадоў, жыў у Ленінградзе. Да нас, у вёску, у час адпачынку, ён штолета прыязджаў з паляўнічай стрэльбай — ён быў заядлы паляўнічы. Брат быў намнога за мяне старэйшы, і я звала яго імем і па бацьку, звала на «вы»... Дык вось у гэтай паштоўцы Сцяпан Іванавіч — ён, як можна было здагадвацца, ваяваў пад Ленінградам — паведамляў мне адрас сваё жонкі Лізы, вывезенай з пяцігадовай дачкою з блакаднага Ленінграда па дарозе жыцця. І наказваў абавязкова наведаць іх у Башкірыі, на станцыі Туймазы, а дакладней, яшчэ за трыццаць вёрст ад гэтай станцыі, у рускім сяле Пакроўскім, у калгасе «Запаветы Ільіча»... Там мяне будуць чакаць! Там, учапіўшыся рэшткамі жыцця і сілы за чужую зямлю і чужых незнаёмых людзей, акрыяўшы за вясну і лета, Ліза настаўнічала ўжо ў школе, а Наташка таксама «хадзіла на ўрокі», бо не было з кім пакідаць яе дома, у хаце гаспадароў, дзе яны кватаравалі.

У сваіх пісьмах брат пісаў, што ў Лізы, пэўна, знойдзецца і мне штонебудзь з адзетку, зусім не лішняе, як ён прадбачыў, у маім дашчэнту абношаным існаванні. Гэта зманлівая акалічнасць, а таксама і тое, што з дзяцінства яшчэ я вельмі любіла братаву жонку, а потым і малую іх дачушку і заўсёды нянчыла яе, калі яны прыязджалі да нас у госці, — усё гэта неадольна цягнула мяне, тут бязродную і бяздомную, у невядомую мне Башкірыю, да Лізы з Наташай.

Тым больш, што другой, больш зручнай, магчымасці з'ездзіць да іх надарыцца ў мяне ўжо не магло. Хадзілі настойлівыя чуткі, што ў канцы кастрычніка наш 364 Запасны стралковы полк чакала перадыслакацыя — бліжэй да фронту, на тэрыторыю, вызваленую ад немцаў. Куды дакладна — гэта, вядома, была ваенная тайна, аднак гаворка настойліва ішла пра Харкаў, другі раз ужо вызвалены ад немцаў.

Зручнай гэта магчымасць паехаць да Лізы здавалася яшчэ і таму, што дарога туды, у Башкірыю, па мерках таго ваеннага часу, была як быццам не такой ужо і далёкай. Колькі там тае язды: Бугуруслан, Бузулук, Куйбышаў, Чышма... На Чышме маё сэрца абрывалася і з грудзей калілася пад ногі... Тутэйшы бывалы народ — з даваенных часоў ведаў яе! — паўтараў пра Чышму нязменны жарт: «Деньги есть — Уфа гуляем, деньги нет — Чишма сидим...»

...Не зусім з пустым як быццам кашальком збіраюся і я ў гэту дарогу. Пры бясплатным — у два канцы — білеце маю дзвесце рублёў наяўнымі. Аднак па цяперашнім часе будзе іх, вядома ж, малавата (не тое каб на Уфу, ды яшчэ на гулянку...). Буханка хлеба на базары каштуе ўжо сто рублёў. Кіло масла, калі трапіцца па дзяшоўцы, пяцьсот. А тое ж чорнае, як дзёгаць, мыла, што я запасла на гасцінец, ідзе кавалак за трыццатку!

На маю паездку адпушчана мне тэрміну ўсяго адзін тыдзень, а ў Чышме на станцыі я сяджу трэція суткі. Не сяджу, а спальваю сваю душу... Пазаймалі ўсе лаўкі, ляжаць упокат на цаглянай падлозе, тоўпяцца, штурхаюцца, пераступаюць па нагах вайскоўцы, чыгуначнікі, мяшочнікі, старыя, жанкі з дзецьмі... Смаляць самакруткі, плююць, рагочуць, лаюцца, рэжуцца ў карты, плачуць... Ля касы патоп шэрых спін, афіцэрскіх фуражак, салдацкіх пілотак, цывільных кепак, бабскіх хустак... Па спінах, па каўнярах, па хустках гэтага шэрага патопу няспешна поўзаюць вошы... З'ява звычная, звыклая... Ніхто не ўзнімае гвалту, вельмі нават і не староніцца ніхто. Адыдзеш убок — і як бачыш выпхнуць з чаргі!

...У Чышме мне неабходна перасесці на цягнік, які ідзе на Уфу, каб даехаць да патрэбнай мне станцыі Туймазы і там выйсці. Гэта пасля вайны стала яна вядомай на ўсю краіну сваімі нафтапромысламі, а тады, у вайну, проста была Туймаза і Туймаза — недзе ў Башкірыі...

Білет у кішэні да Туймазы ў мяне ёсць. Няма кампасцера. Каса білеты не кампасціруе: цягнікі на Уфу не ходзяць. Дакладней, яны-то ходзяць, але не па чыгуначнаму раскладу, а калі хочуць (ці калі нехта невядомы захоча, або не захоча, каб яны пайшлі). Цягнік можа пайсці сёння, можа заўтра, а не дык і на трэці дзень... Таму і каса білетаў не кампасціруе. А праваднічка без кампасцера — калі не дасі «ў лапу» — не пасадзіць у вагон. У яе — закон. І ўсё!

Які гэта люты быў закон і якая лютая дзяржава была ў дзяржаве — чыгунка — у тыя гады бязмежных людскіх пакут і гора... На чыгунцы не існавала ні закона, ні права, ні літасці!

На станцыі Чышма непадступная, ў казённай чорнай форме, праваднічка — сваім узростам яна магла б быць мне за маці — змятае венікам смецце з тамбура проста мне ў твар і, вядома ж, не пускае ў вагон, хоць цягнік на Уфу, на маю Туймазу, стаіць тут жа, на першай платформе, перад самым вакзалам. Няма кампосцера!.. А да касы не падступіцца. Ды і каса — надрываецца, галосіць, просіць і моліць чарга! — больш не прадае і не кампасціруе білетаў...

— Чо будем делать, девки? — так звяртаецца да мяне і да Ваські дзядзька Ляксей (у іх абоіх дык і білетаў няма).

І Васька — худзэнны хлапец дапрызыўнік, і дзядзька Ляксей — ён камбайнер у калгасе і ў яго «браня» ад фронту — мае суседзі. Трэція суткі разам кантуемся ў Чышме. Занялі куток і сядзім, як дома, на цаглянай падлозе станцыйнага будынка. Добра пазнаёміліся ўжо і як быццам парадніліся нават, нават частуемся сваімі запасамі, якія ў каго трапіліся на дарогу. А я дык і асаблівую роднасць адчуваю да гэтых мужчын: і дзядзька Ляксей і Васька таксама дабіраюцца да мае Туймазы!

— Маць яво, перакаці поле! — спрадвечным, родным натхняе сябе дзядзька Ляксей, ведучы нас з Васькам у канец гружанага таварняка. — Тут, девкі, будзем табарыцца, — спыняецца, нарэшце, ён каля не надта, не з верхам загружанае вугалем антрацытам платформы.

Мы з Васькам таксама прыстаўляем нагу каля дзядзькі Ляксея. Васька першы здагадаецца:

— На вугалі паедзем?

— Матай! — коратка, кіўком галавы, паказвае яму на платформу дзядзька Ляксей.

Васька здагадлівы, нічога больш не кажучы, як певень крыллем, узмахвае рукамі, высока падскоквае і чапляецца за борт платформы. Дзядзька Ляксей падхоплівае, падтрымлівае яго за ногі — і не паспяваю я асэнсаваць іх дзеяння, як бачу: Васька стаіць ужо на платформе з вугалем і задаволена скаліцца.

— Харош! — таксама задаволены ім, хваліць Ваську дзядзька Ляксей.

І пераводзіць позірк на мяне.

— А тя как забросить туда жа?.. Сігай за Васькам!

Сігай... Як!? Васька ж амаль удвая вышэйшы за мяне. Ды і хлопец жа. Сіла ў яго...

І тут дзядзька Ляксей здагадваецца..

— Махай мне на спіну!.. А ты, Васька, паташшыш яе за рукі... Ды жыва! Жыва! — падганяе мяне дзядзька Ляксей.

Ён разумее, што я баюся, што не адважваюся, што мяне трэба добра аперазаць лаянкай, каб...

— Давай, давай, маць яво, перакаці поле!.. — дзядзька Ляксей становіцца на чацвярэнькі, падстаўляе мне сваю спіну.

Страціўшы ўсякую развагу, што адбываецца ў гэты момант на свеце і што будзе наперадзе, я кідаю на зямлю свой неацэнны баульчык і, як ветрам падхопленая, узлятаю на спіну дзядзьку Ляксею. Відаць, я ўсё ж добра гоцнула абцасамі сваіх чаравік па яго худых рэбрах, бо спіна гэта вельмі ж неасцярожна ўскінулася, крутанулася, і, відаць, я гэтак бы — лістом — зляцела з яе, як і ўзляцела... Але тут Васькава адна рука ўчапілася ў мой каўнер, а другая балюча схапілася за маю руку, падхапіла мяне, узнесла ў паветра...

Дзядзька Ляксей, адчуўшы палёгку, спрытна вывернуўся, падтрымаў мяне за абцас чаравіка — і падаў на платформу Ваську! Тут жа, услед за мной, узляцеў мой баульчык. А за ім, зусім як цыркач, падскочыў, перакруціўся ў паветры, а потым перакінуў сябе да нас з Васькам і сам дзядзька Ляксей.

— Ух, ты! — узбуджаным смехам зайшоўся і ляпнуў сябе па каленях Васька.

— А ты чо думаў! — рассеўся на вугалі і выцягнуў перад сабой ногі дзядзька Ляксей.

Потым, агледзеўшы, як уласную хату, платформу, паведаміў нам з Васькам:

— Закапвацца будзем! Каб ніякая сволач не заўважыла, як будзе хадзіць з аглядам.

Было ўжо добра сцямнела, і пад покрывам вераснёўскага вечара мы — у шасцёра рук — узяліся выграбаць сабе на вугальнай платформе надзейную нару. Каб ухавацца ад сволачы...

— Як у калысцы будзем ехаць,— ацаніў наша агульнае старанне, калі работа была скончана, дзядзька Ляксей. — Толькі б хутчэй машыністу давалі адпраўленне... А тады — даганяй нас!

— А як машыніст возьме ды шмаргане на Казань? — бясклапотна цікавіцца Васька.

— Не шмаргане! На Уфу, брат, пойдзе, — пераконана адказвае дзядзька Ляксей. — Я, калі па кіпяток хадзіў, чуў, машыністы між сабой гаманілі. Наш і з суседняга паравоза. Мы — на Уфу!

Я слухаю іх мужчынскую гамонку, і сама з сабою малюся богу... Ёсць ён на небе. Ёсць!.. Каб не ён, што б я рабіла ў гэтай Чышме адна? Каб не стрэліся мне дзядзька Ляксей з Васькам... Васькава вага ў нашай сітуацыі, праўда, не намнога большая за маю ўласную, але ж усё роўна і ён — мужчына, хоць і не выйшаў яшчэ добра з падлеткаў.

— Ну, а цяпер нам няма чаго разводзіць тут тары-бары. Каб яшчэ хто пачуў і пазганяў... Будзем класціся нанач.

Ад гэтага ўпэўненага «будзем класціся нанач» у мяне ўсё роўна, як закладае ў вушах.

— Ты пасярэдкі ляжаш, — як самую звычайную рэч прапануе мне дзядзька Ляксей. — Апратка ў цябе чыстая, дык на вось гэты мой пусты мех, падкінь пад сябе. А нам з Васькам у нашых строях вугаль не пашкодзіць. Мы з бакоў ад цябе ляжам. Уначы будзе зябка, як скранемся з месца ды памчым з ветрам!

Мне холадна і зябка і горача ўжо і зараз. Як я буду класціся ў гэту вугальную нару з імі, мужчынамі... Хоць бы я ведала іх.

— Да не робей ты, девка! — прыкрывае мяне сваім ватнікам дзядзька Ляксей. — Васька ў нас парэнь смірный. Глупасцяў сабе не дазволіць... А ў мяне, у самога, дачка, як ты вось... Таксама ў армію, на вайну падалася. Сувязісткай недзе ваюе... — гучна ўздыхае ён, а потым, гледзячы ў начную чарнату, жорстка, нібыта грозіць некаму: — А я, мужык, вось тут, у тыле, сяджу сабе. З бабамі ваюю...

— Дзе ж ты сядзіш — як у калысцы вунь разлёгся! — ціха смяецца Васька.

— Паскалься мне — «разлё-ё-гся»! — нязлосна грозіць яму дзядзька Ляксей і заклапочана ўспамінае: — Але ж нешта доўга затрымліваемся мы тут, у гэтай акаяннай Чышме.

Аднак затрымліваемся мы не надта доўга. Спакутаваныя, дашчэнту знерваваныя, усе трое мы і не заўважаем, як адразу ж засынаем у сваёй вугальнай пячоры. Сагрэтыя цяплом, як быццам агульнага нашага цела. Не чуем, як кранаецца з месца ўслед за магутным ФД (Феліксам Дзяржынскім) наш цяжкі гружаны састаў, як роўна, спраўна бяжыць ён па сталёвых рэйках, як звычна віхляе на паваротках. І дзіўна пацешна вярзае на хвалях сну ў зусім-зусім нядаўняе.

...Пісар мінбата Хасан Башыраў, як на гармоніку, іграе ў штабе палка на маіх драўляных лічыльніках і выспеўвае, бліскаючы белымі зубамі:

Деньги есть — Уфа гуляем,
Деньги нет — Чишма сидим...

І мне смешна з гэтага Хасана. І весела, і лёгка, і цёпла... Уфа гуляем!

...Хто ведае — цяпер хіба ўспомніш — колькі часу, прыцiснуўшыся адно да аднаго, праехалі мы ў тую вераснёвую, з добрым ужо замаразкам ноч, на той чыгуначнай платформе з каменным вугалем. Можа, гадзіну, можа, дзве, а можа, тры... Недзе, відаць, ужо добра за поўнач, чуецца раптам нейкі пагрозлівы рух, злосны гоман, брудная лаянка... Аказваецца, мы ўжо нікуды не едзем. Мы стаім на месцы, ці не ў чыстым толькі полі. А злосны гоман і лаянка — гэта праверка! Гэта ўсіх, хто гэтак, як і мы, зашыўся на платформах у вугаль, выпорваюць і зганяюць на дол... Дзе мы, што мы — хто гэта скажа табе ў гэтай прамозглай цемры, у гэтай нялюдскай злосці і лаянцы!

— Прыехалі, маць яво, перакаці поле!— не паддаецца, таксама не горш умее, і наш дзядзька Ляксей.

Злазім. Тут мяне ўжо не трэба падхопліваць пад рукі. Каменем гопаю на зямлю, добра што мякка, што не асфальт. Таварняк сапраўды стаіць ці не ў голым полі. Нідзе ні агеньчыка, ні будынка ніякага не відно.

— Ну, Гітлер! Трапіў бы ты мне ў рукі! — не разабраць, фюрэру ці праверальшчыку, які сагнаў нас з платформы, пагражае дзядзька Ляксей.

«Гітлер» сагнаў не адных нас. Вунь якая, аказваецца, сабралася нас тут кампанія пад зорным небам!

— Ладна, дасць бог дзень, дасць... — закурвае дзядзька Ляксей: хоць гэта добра, а то ж аднае зацяжкі нават не зрабіў, як узбіліся на гэты, будзь ён няладны, вугаль. Думалася, вельмі ўсцеражэшся...

Ён бачыць, што мы з Васькам ужо зусім насы павесілі. Мне ў маім зношаным асеннім пальтэчку не горача, а Васькаў картовы пінжачок дык і зусім нічога не грэе. Сціснуўся, скурчыўся, прысеў па кукішкі і сядзіць, як куранё, наш Васька.

— Нічо, робяты, неяк жа будзе, — супакойвае нас дзядзька Ляксей.

Ён мо ўжо і не рады, што звёў такое кампанейства. Але ж куды яму падацца ад нас, дурных, малых. Так, пэўна, яму здаецца. Але ж і мы — людзі...

Непадалёку калыша на руках захутанае дзіця — тупае сюды-туды — змучаная кабета. Не разабраць: маці, бабуля... Дзіця плача слабым, хваравітым плачам, жанчына трасе яго мацней і нешта панура ўсё гаворыць, гаворыць — не разабраць, ці то з хворым дзіцем, ці сама з сабою.

Барадаты дзед сядзіць на ёмкім куфэрку, на каленях учэпіста трымае нечым добра напакаваны ладны мех. Мяшочнік. Што яму! У мяху, напэўна, хлеб ці сухары сушаныя вязе, ды, можа, сала ці яшчэ што трывалейшае з харчу... Гэты можа выседзець тут, у галe, цэлы тыдзень.

Нейкая круглая, як бочачка, цётка ў валёнках-чосанках, у цёплай з каўняром з аўчыны адзежыне. І ёй не бяда: угадала як адправіць сябе ў дарогу, ды ў такую зашэрхлую ад замаразку ноч. Трымае ў абедзвюх руках па ёмкаму клумку, божкае-прыказвае:

— Што ж гэта тапера, людцы добрыя, з намі будзе? Гэта ж каб пашкадаваць людзям у дарозе гэтага каменнага вугалю! Каб гэтак не злітавацца чалавеку над чалавекам, каб ганяць яго, як жывёлу... Як на вайне ўсё роўна!

— На вайне вораг з ворагам ваюе, — падае тлумачэнне цётцы барадаты дзед.

— Ды змоўкні ты, Хрыста радзі! — здаецца, гатовая ў адчаі кінуць з рук свой пакутлівы скрутак, плача жанчына з дзіцем на руках.

Наша тройца маўчыць. Дзядзька Ляксей з асалодай дакурвае, ніяк не адарвецца, самакрутку. У нас з Васькам дашчэнту вымярзаюць нашы душы.

— Пайду, паштурхаюся сярод людзей, мо што пачую, — сплёўвае і затоптвае недакурак дзядзька Ляксей. — Вы мяне тут чакайце. Нікуды не адлучайцеся, — наказвае ён нам і сам кіруецца недзе ў той бок, адкуль толькі што вільнуў хвост нашага таварняка.

Мы з Васькам пераглядваемся.

— А што, калі дзядзька Ляксей не вернецца? — цяпер я паміраю ўжо ад аднае толькі гэтае думкі. Астатняе нішто ўжо на свеце не здаецца мне істотным. Толькі ён, дзядзька Ляксей — наша надзея і апірышча!

— Вернецца... — не адразу, недзе ў каўнер свайго пінжачка, не вельмі ўпэўнена адказвае Васька.

Ад гэтай няўпэўненасці ў яго голасе мяне канчаткова паралізуе адчай... Што мы будзем тут рабіць адны, у гэтым чужым гурце незнаёмых людзей?.. Без дзядзькі Ляксея.

— А як там трапіцца цягнік?

— Які цягнік?

— Ну, які... На Уфу.

— Сама ты Уфа! — незразумела чаго, злуецца на мяне Васька.

Я змаўкаю, і як Васька, прысядаю на кортачкі (і сапраўды гэтак цяплей!), прысядаю на свой хілы баульчык.

Час ідзе ці не ідзе? Ці гэтак, як мы з Васькам, і ён сціснуўся ў камяк, стаіўся, скамянеў?.. Не, час, відаць, не стаіць на месцы. Вунь як пашарэла вакол ужо неба, як хутка яснее небакрай там, дзе, відаць, у гэтай пустэльні знаходзіцца ўсход... Ого! Там нават нейкая ружовасць, як усміхаецца ўсё роўна... Цяпер, як развіднела і як пачало квола нават прыграваць сонца, можна разгледзець, сярод якіх гарбатых пагоркаў, у лагчыне, прыцiснуўся наш начны табар... Угары над намі, па крутым схіле, як птушка пластаецца ў празрыстасці раніцы імклівы конь, а на ім, прыгнуўшыся да конскай грывы і ўсё роўна як зліты з ёю, коннік!

Сам па сабе — невядома з якое далечыні і з якіх часоў — усплывае лермантаўскі павеў: Казбіч... Хаджыабрэк... Ізмаіл-бей...

— Ну, не паснулі, не памерзлі вы тут? — раздаецца раптам над нашымі галовамі бадзёры голас.

Дзядзька Ляксей! Нас з Васькам падкідвае, як спружынай.

— Не, не паснулі! — гэта я ледзь не ў крык.

— Чаго тут мерзнуць... — гэта — хрыплым пявуном — Васька.

— А я ж гэта на станцыю зматаўся. Кіламетры са тры пэўна будзе, маць яво, перакаці поле... Во куды гады адагналі нас і скінулі!

Скінулі сапраўды.

— Тады вось што, робяты... — дзядзька Ляксей чамусьці ўвесь час толькі так звяртаецца да нас з Васькам: девки альбо робяты... — Айдаці, за мною!

Куды? Чаго? Якія могуць быць пытанні, які клопат! У нас ёсць свой Месія, і мы па шпалах гатовы ісці за ім, хоць на край свету!.. Ідзём з добры кіламетр ці, можа, два, а мо і сапраўды тры да станцыі, якую, паснуўшы, праехалі і не ўбачылі ўначы.

— Дык вось распытаў я ў аднаго мужыка-чыгуначніка. Па ўсім відно — чалавек, а не сабака... Дык, кажа, недзе ў дванаццаць ці ў гадзіну дня прыпыніцца тут таварняк... Кажа, калі ўспееш ускочыць на тармазную пляцоўку... Саскочыць пад Туймазою, на пад'ёме, будзе ўжо раз плюнуць.

— А чаго там не ўскочыць! — гэта ўжо Васька зноў гэтакі адважны, як угрэў свае доўгія ногі.

— Трэба ўскочыць. Інакш нам тут амба! А мне дык, у дадатак, яшчэ і трыбунал. Па закону ваеннага часу: за спазненне на працу... — дзядзька Ляксей ведае жыццё і законы.

А як мне самой дык усё аднолькава: і трыбунал, і ўскочыць, і саскочыць на поўным хаду з цягніка...

Дзядзька Ляксей і гэта разумее.

— Ты только не робей! — супакойвае ён мяне. — А, можа, даводзілася ўжо скакаць калі.

Не, скакаць з цягнікоў на хаду мне не даводзілася.

— Нічо, навучышся. Вайна! — дзядзька Ляксей як бы падводзіць рысу пад усякімі там маімі сумненнямі і страхамі.

І сапраўды недзе ў поўдзень на станцыі прыпыняецца састаў — мо сорак ці пяцьдзесят чырвоных запламбіраваных «пульманаў»... Мы вымяркоўваем («мы»...) час — каб ніхто не заўважыў — і як толькі таварняк пачынае спрабаваць тармазы, ускокваем адно за адным на тармазную пляцоўку недзе ў канцы саставу — там менш розных непатрэбных вачэй. Першы ўскоквае Васька. За ім я. Дзядзька Ляксей завяршае аперацыю... Плацкарта, міжнародны вагон — пад ветрам і сонцам — у параўнанні з начной нашай вугальнай нарою!

— А ты нічо, девка! — упершыню хваліць мяне дзядзька Ляксей. — Спрытна ўскочыла!

Спрытна ўскочыла... Каб ён пагледзеў, як яшчэ ў сорак першым годзе, у час эвакуацыі, сігала я пад эшалонамі, калі з розных напрамкаў стоўпляцца дзе на станцыі. На хаду з цягніка вось толькі ні разу не даводзілася скакаць. Вось чаго шкада дык шкада. Цяпер бы ніякага страху не ведала. Але што там думаць цяпер пра гэта.

А таварняк наш імчыць па не бачанай мною ніколі да гэтага Башкірыі. Увесь час пакатыя лясістыя пагоркі, стэп, зжатыя прыбраныя палеткі... Гадзіну імчым. Дзве. Сонца павярнула ўжо на захад. Зноў лясныя краявіды, як і ў нас дома... А потым зноў паша, стэп, палеткі голага счарнелага ржышча... А па ім чароды кароў, чароды бела-шэрых валахатых авечак-мерынасаў, табуны коней. Пастухі-хлапчукі (мужчыны на фронце?) у зімовых малахаях на галовах пасуць жывёлу ўсе конна. У нас дома зроду такога не стрэнеш...

— Ну, робяты, гатовсь! — дзядзька Ляксей па нейкіх аднаму яму вядомых прыкметах пазнае, што наш час н а д ы ш о ў...

— Ты, Васька, у нас усюды ідзеш першым нумарам — ты першым і сігаць будзеш. Я пайду апошнім... Віш, на пад'ём пайшлі. Машыніст ход сцішвае.

Я паміраю.

— А ты... Ну чо ты бялееш? Чо ты дрыжыш? Будзеш сігаць услед за Васькам. Толькі наперад, па ходу цягніка, сігай. Назад ні ў якім разе — пад калёсы занясе.

Божа, божа!..

— Ну, з богам!

Васька сігае з тармазной пляцоўкі пад калёсы цягніка...

— Давай! — услед яму, адрывіста, ужо мне загадвае дзядзька Ляксей.

Я шпурляю свой баульчык. Не наперад, як трэба, шпурляю, а назад... Баульчык мой куляецца, куляецца, ляціць пад адхон.

Сябе шпурнуць услед баульчыку адвагі ў мяне нехапае.

— Па ходу сігай! Па ходу! — злосна крычыць мне ў спіну дзядзька Ляксей. Пад'ём канчаецца! Цягнік хуткасць будзе набіраць!

І я, заплюшчыўшы вочы, шпурляю сябе, з тармазной пляцоўкі.

...Недзе каля самага вуха татахкаюць колы цягніка... Падхопленая ветрам кудзеля кіславатага каменнага дыму хвошча мяне па твары... Калючы, як перамолатае шкло, пясок засыпае вочы...

Жывая я ці не жывая?

Паўзу, спрабую на чацвярэньках узняцца з пясчанага чыгуначнага палатна — і нічога не адчуваю. Ногі, як быццам, мае і не мае, рукі таксама, шчака адна толькі вельмі шчыміць, як апечаная ўсё роўна.

— Цала ты? — здалёку крычыць, бегучы па чыгуначным палатне, дзядзька Ляксей.

— Цала, віш смяецца!—з другога боку, з маім баульчыкам у руках, падбягае да мяне і сам смяецца Васька.

Я — смяюся?..

— Ну, ну, не рэві! Така девка! Не всяк парэнь так здолее! — натхняе мяне дзядзька Ляксей.

А Васька адвярнуўся і чамусьці не глядзіць у мой бок.

— Лічы, даставілі мы цябе на ўсе сто процантаў! — захапляецца сам дзядзька Ляксей і скіроўвае ўсіх нас на дарогу ўздоўж чыгункі.

Ласкавая, як сястра родная, дарога пухам сцелецца пад нагамі, пыліць і, здаецца, абяцае нам новыя цуды жыцця.

А цудам і сапраўды канца няма!

Неўзабаве тарахціць, абганяе нас абшарпаная калгасная паўтаратонка, з верхам нагружаная мяхамі збажыны.

— Іван Мітрыч! — пазнае і махае шафёру дзядзька Ляксей. — Здарова! Дзяржаве? — паказвае ён на мяхі ў кузаве.

— Усё для фронту, усё для перамогі!.. — спыняе машыну і па пояс высоўваецца з кабіны шафёр.

— Да «Запанетаў Ільіча»? — пытаецца дзядзька Ляксей.

— У самыя «Запанеты»! У Пакроўскае!

— Вазьмі, калі ласка, пасажырку. Дастаў па адрасу! — паказвае на мяне дзядзька Ляксей. Яго з Васькам дарога кіруецца недзе ў другі бок.

— З нашым вялікім задавальненнем! — ахвотна згаджаецца Іван Мітрыч.

Ён у выгаралай салдацкай гімнасцёрцы, з медалём на грудзях, у яго заліхвацкія рыжыя вусы і адчайна-разбойны позірк непераможнага сэрцаеда.

— З ветрыкам пракачу, такую маладую і прыгожую! — весела абяцае ён.

— Акуратна, глядзі, давязі, Мітрыч, — стала наказвае шафёру дзядзька Ляксей і, як сапраўднаму таварышу па дарозе, падае мне на развітанне руку:

— Ну, трымай!

Працягвае няўмелую худую даланю мне таксама і Васька.

— Дзякуй... Дзякуй...

Хоць забі мяне, а не здольная тут, на гэтай дарозе, успомніць я хоць яшчэ адно, іншае якое слова!

— З богам! — здымае шапку дзядзька Ляксей.

Мітрыч зрывае машыну з месца.

Я высоўваюся ў акно кабіны і абедзвюма рукамі махаю дзядзьку Ляксею і Ваську.

А мой лёс імчыць мяне ўжо далей.

*Музыка*

# Лепшыя песні года

**Напярэдадні Новага года ў Мінску і Бераставіцы Гродзенскай вобласці адбыліся канцэрты «Беларуская песня-88». Яны складаліся з песень, якія ўпершыню прагучалі ў 1988 годзе і былі названы слухачамі радыёпраграмы «Прэм'ера песні» лепшымі песнямі мінулага года.**




Спяваюць Яраслаў ЕЎДАКІМАЎ і Тамара РАЕЎСКАЯ.

У Мінску надвор'е ў той дзень не радавала: мокры снег з дажджом, на дарогах галаледзіца... Гуказапісваючая тэхніка — вялізная машына, на якой значылася: «Беларускае радыё», — ледзьве дабралася да Палаца культуры МАЗа...

Спяшаліся да палаца кампазітары, паэты, выканаўцы — удзельнікі запісу праграмы, які меўся адбыцца тут. І некатарым з іх было таксама нялёгка. Напрыклад, С. Грахоўскі і маладая паэтэса Р. Аўчыннікава ехалі ў Мінск з Дома творчасці «Іслач». Рэйс маршрутнага аўтобуса адмянілі ў сувязі з непагаддзю, давялося проста «галасаваць» на дарозе. Тыя, хто адгукнуўся на іх просьбу, ехалі ў Віцебск, але, дазнаўшыся ў чым справа, згадзіліся «завярнуць» і падвезці мінчан...

А да Палаца культуры ўжо сцякаўся народ, усё часцей пад'язджалі легкавыя аўтамашыны, таксі. Людзі ішлі на канцэрты «Беларуская песня-88», якія арганізавала і запісвала музычная рэдакцыя рэспубліканскага радыё. Надвор'е не спалохала аматараў беларускай песні: на абодвух канцэртах, што адбыліся ў той дзень, зала была поўная.

У канцэртах удзельнічалі Сімфанічны аркестр і Камерна-інструментальны ансамбль Беларускага тэлебачання і радыё. Спявалі вядомыя нашы салісты: В. Пархоменка, Т. Раеўская, Г. Радзько, А. Казак, Н. Мікуліч, Н. Кавалёва, У. Васільеў, Г. Галенда і У. Кудрын, Я. Паплаўская і А. Ціхановіч, Я. Навуменка, вакалісты Мінскага аб'яднання музычных ансамбляў Л. Куц, Г. Літвіненка і С. Герасімаў, маладая спявачка А. Бачкарова. У Бераставіцы, апроч іх, выступалі Я. Еўдакімаў, В. Кучынскі, М. Скорыкаў, а таксама вучні Бераставіцкай музычнай школы Г. Казлова і У. Цыбулька.

Слухачы і ў Мінску, і ў Бераставіцы чуйна рэагавалі на ўсе выступленні. Дружна пляскалі ў ладкі, падкрэсліваючы рытмы любімых твораў, калі кампазітары В. Іваноў, У. Буднік, Э. Зарыцкі, Л. Захлеўны сядалі да раяля і нагадвалі матывы сваіх папулярных беларускамоўных песень. Сцішваліся, калі паэтэса В. Іпатава гаварыла пра каханне, жанчын і музыку. Уважліва прымалі вершы М. Мятліцкага, А. Лягчылава. Весела смяяліся, калі У. Карызна, згадаўшы гісторыю стварэння перадачы «Прэм'ера песні», пажартаваў наконт таго, як цяжка цяпер трапіць у перадачу нават яму — аднаму з арганізатараў гэтай радыёпраграмы. Апладысментамі далучаліся да думак Л. Дранько-Майсюка, які шкадаваў, што «песня сышла ў цесныя каробкі магнітафонаў і радыёпрыёмнікаў і шмат людзей са спевакоў ператварыліся проста ў слухачоў», і выказаў надзею на зваротны працэс, на тое, што людзі зноў заспяваюць. І, у рэшце рэшт, зала здзіўлена заціхла, калі С. Грахоўскі, пасля абвесткі пра тое, што песня на ягоны верш «Асеннія азёры» апынулася сярод пераможцаў конкурсу, раптам паведаміў, што... не ён пісаў гэтую песню! «Так,— удакладніў паэт,— тады я быў зусім не такі, як цяпер. Пятнаццацігадовым хлапчуком адправіў я з палескай вёскі гэты верш у рэдакцыю... Так што я быў прыемна ўражаны, сустрэўшыся з самім сабой праз 60 гадоў!»

Публіка цёпла прымала і пастаянных вядучых радыё- і тэлепраграмы «Прэм'ера песні» М. Захарэвіч — у Мінску і З. Бандарэнку — у Бераставіцы.

Пра паездку ў Бераставіцу скажу асобна. Партыйныя і савецкія кіраўнікі раёна шмат зрабілі, каб у рабоце грамадскага журы конкурсу «Беларуская песня-88» узялі ўдзел як мага больш людзей. На працягу года жыхары Бераставіцкага раёна слухалі або глядзелі перадачу «Прэм'ера песні», іхнія водгукі збіралі ў мясцовых палацах і дамах культуры. Паўдзельнічаць у рабоце журы конкурсу запрашалі вялікая аб'ява насупраць Дома культуры ў Бераставіцы і раённая газета, якая паведамляла час кожнай чарговай перадачы.

У гасцей Бераставіцы было шмат незабыўных уражанняў: цудоўныя краявіды і смачная вада з крыніцы, якая клапатліва ахоўваецца; расказы першага сакратара райкома партыі М. Салдатава пра старадаўнюю гісторыю, сучаснасць і будучыню раёна; зачаравала ўсіх роднай беларускай мовай абаяльная і шчырая А. Ханевіч — сакратар райкома. Старшыня райвыканкома А. Карпуць, яго намеснік І. Захарчук і загадчык ідэалагічнага аддзела райкома партыі М. Жыліч прымалі самы непасрэдны ўдзел у арганізацыі фестывалю «Беларуская песня-88».

Адметна, што ўсе пяць канцэртаў (два ў Мінску і тры ў Бераставіцы) не паўтараліся. Паэты чыталі розныя вершы, разважалі са сцэны пра розныя пытанні, кампазітары ля раяля выконвалі фрагменты штораз іншых сваіх песень, артысты, акрамя песень — удзельніц конкурсу, выконвалі папулярныя творы мінулых гадоў і таксама штораз — іншыя.

Праўда, не абышлося пад час канцэртаў і без кур'ёзаў. Напрыклад, у Мінску ў час выканання песень на сцэну паднялася дзяўчына і прабегла міма спевака за кулісы да вядучай праграмы. «Канцэрт мне вельмі падабаецца, — усхвалявана пачала яна, — але я хачу пераканацца: ці «жыўцом» спяваюць выканаўцы?!» Марыя Георгіеўна Захарэвіч пацвердзіла, што галасы выканаўцаў гучаць непасрэдна, а не з фанаграмы. Наконт гэтага выпадку потым было за кулісамі шмат жартаў і размоў. Асабліва здзівіла «расканасць» дзяўчыны: звычайна людзям нават каб уручыць кветкі не хапае смеласці падняцца на сцэну...

І яшчэ пра адно. Не ўсе, хто спачатку пагадзіўся выступіць у канцэртах, потым змаглі ў іх удзельнічаць: падзей у жыцці шмат, кампазітары і паэты людзі занятыя. Некаторыя загадзя папярэдзілі музрэдакцыю, і мы або не ўключылі ў афішу іх імёны, або са сцэны выбачаліся перад гледачамі, каб тыя не скардзіліся, зразумелі — бываюць у людзей творчых неадкладныя справы. Але папярэджвалі не ўсё — і арганізатары апынуваліся ў ніякаватым становішчы, чырванелі перад публікай, якую быццам бы «ашукалі».

Прыемна, што кампазітар І. Лучанок, які ніколі не абяцае «проста так», і ў гэтым выпадку загадзя папярэдзіў, што не зможа выступіць (намячалася замежная камандзіроўка). Але, заняты як ніхто з кампазітараў, усё ж знайшоў час для ўдзелу ў рэпетыцыях, паклапаціўся, каб песні ягоныя былі падрыхтаваны да канцэрта на высокім мастацкім узроўні...

**У Палацы культуры МАЗа пераможцамі сталі: «Маці-Зямля» (У. Буднік — Г. Бураўкін), «Чаканне» (І. Лучанок — А. Лягчылаў), «Асеннія азёры» (У. Кудрын — С. Грахоўскі). У Бераставіцы: «Такі спрадвечны лёс» (Э. Ханок — Г. Бураўкін), «Пазаву-патрывожу» (Л. Захлеўны — У. Карызна), «Каб свяцілі зоры» (В. Кузняцоў — Л. Дранько-Майсюк).**

Мяркуючы па пісьмах, слухачы праграмы «Прэм'ера песні» лічаць, што мала новых жартоўных песень, заўважаюць, што апошнім часам не з'явілася новых песень аб Вялікай Айчыннай вайне, просяць кампазітараў больш патрабавальна выбіраць тэксты.

**Л. ПАЛКОЎНІКАВА,**
**старшы рэдактар музычнай рэдакцыі Беларускага радыё.**

*Тэатр*

# Ігра без пройгрышу

**Штрыхі да творчага партрэта народнай артысткі БССР Зінаіды КАНАПЕЛЬКІ**

Акурат паўстагоддзя таму выйшла на коласаўскія падмосткі тады яшчэ Другога беларускага дзяржаўнага тэатра актрыса Зінаіда Канапелька. Зрэшты, калі быць зусім дакладным, дык трэба адзначыць, што гэтая падзея адбылася на два гады раней і пры наступных абставінах. Пастаноўшчык спектакля «Вечар беларускіх вадэвіляў», куды ўваходзіла і купалаўская «Паўлінка», Павел Малчанаў, ён жа педагог па майстэрстве акцёра ў студыі пры тэатры, пад час вучэбных заняткаў з юнай выхаванкай Зінаідай Канапелькай падрыхтаваў ролю Паўлінкі. Пазнаёміў будучую актрысу з Янкам Купалам, і той словамі «цудоўная дзяўчынка» блаславіў яе на ролю. Здарылася так, што асноўная выканаўца захварэла і на сцэну выйшла Канапелька — надзвычай непасрэдная, душэўна шчырая дзяўчынка. Гэта была самая маладая купалаўская гераіня на прафесійных падмостках...

Канапелька — артыстка, як кажуць, ад бога. Дар ёй быў дадзены ад нараджэння. Стройная, пластычна гнуткая, з моцным, прыемнага тэмбру голасам, з яркім тэмпераментам, хуткай эмацыянальнай узбуджальнасцю, вельмі прывабная, прыгожая — такія людзі быццам знарок прыходзяць у жыццё для сцэны. І Канапелька чаравала гледачоў з першых сваіх роляў. Жыва паўстае ў памяці вобраз Насці ў «Несцерку» Віталя Вольскага, які нібы сфакусіраваў у сабе асноўныя, найбольш істотныя рысы маладых канапелькаўскіх гераінь лірыка-драматычнага плана. Светлавалосая, з доўгімі пышнымі косамі, дзяўчына то свяцілася радасцю ад першага, чыстага, як крынічная вада, лірычнага пачуцця, то ўсю яе маладую істоту працінала трывога і непакой за каханага, то сэрца поўнілася рашучасцю змагацца, адстойваць сваё шчасце. Хуткая змена пачуццяў асабліва выразна адлюстроўвалася ў шырока адкрытых, глыбокіх вачах Насці, у інтанацыях яе голасу. Драматычнае слова натуральна, амаль незаўважна пераходзіла ў песню, якая яшчэ больш узмацняла ці то светла ўзвышанае, ці то напружана драматычнае гучанне вобраза.

Запісы песень у выкананні Канапелькі — а іх нямала было ў спектаклі «Несцерка»—і цяпер захапляюць глыбокай напоўненасцю, паэтычнасцю. Сама ж пастаноўка, ажыццёўленая ў апошнія перадваенныя дні, на многія гады зрабілася акрасай коласаўскай сцэны, найбольш паказальнай, так бы мовіць, фірменнай работай тэатра. А перад гэтым у акцёрскай біяграфіі было шмат роляў маладых жанчын, дзяўчат. З іх неабходна назваць Насцю Вярбіцкую ў спектаклі «Пяюць жаваранкі» Кандрата Крапівы, Вікцю ў «Людзях і д'яблах» таго ж аўтара, Ганку ў «Машэку» Віталя Вольскага, Дуню ў «Простай дзяўчыне» Кастуся Губарэвіча.

Лірычны, драматычны талент артысткі, яе глыбокая паэтычнасць, душэўная ўзнёсласць нярэдка «прыглушалі» схематызм асобных персанажаў, іх характараў, асабліва ў тымчасовых творах савецкіх аўтараў. Ска-

# «МЕДЫУМ» ГЛЯДЗЕЛІ МАСКВІЧЫ

А «Медыум» яшчэ жывы! Не знайшоўшы прытулку ні на вялікай сцэне ДАВТа БССР, ні ў якімсьці спецыяльна прыстасаваным для паказаў камерных опер памяшканні, гэты пазапланавы напаўаматарскі (ён жа ідзе без дэкарацый, без аркестра!) спектакль нашай working оперной трупы вандруе па сцэнах дамоў акцёра. Узімку 88-га ў «ЛіМе» распавядалася пра паказ «Медыума» ў Куйбышаве, у маі спектакль пабываў у Вільнюсе. І вось, нарэшце, Масква, Цэнтральны дом акцёра імя Яблачкінай...

У той вечар, 4 кастрычніка, я была разам з нашымі артыстамі, напружана сачыла не толькі за ходам спектакля, але і за рэакцыяй публікі. А публіка цікавая, каларытная. Нямала знаёмых акцёрскіх твараў, ёсць крытыкі, супрацоўнікі рэдакцый спецыяльных часопісаў...

Хто гэта адкрывае вечар, цёпла абдымае рэжысёра С. Штэйна, успамінае свае колішнія акцёрскія работы ў Штэйнавых пастаноўках на сцэне Вялікага тэатра Саюза ССР? Ды гэта ж — Галіна Калініна, адна з вядучых яго салістак! Яна дае слова С. Штэйну. Сціслы расказ пра мінскі Клуб сяброў оперы, пра гісторыю нараджэння «Медыума», прадстаўленне выканаўцаў — і пачынаецца опера Д. Меноці.

Здаецца, і ў Мінску спектакль не прымалі так горача, як у гэтай зале, што бачыла столькі выдатных майстроў. Не памятаю, напрыклад, каб апладысменты пасля першай дзеі займалі ў нас увесь час, патрэбны для падрыхтоўкі сцэны. Пасля спектакля — бясконцыя выклікі выканаўцаў, кветкі. Многія прыйшлі ў артыстычную павіншаваць беларускіх гасцей. Запомнілася характэрная постаць (як часта мы бачылі яе на тэлеэкранах!) былога мінчаніна шахматыста А. Суэціна. Вельмі кранула старая англічанка, якая папрасіла дазволу пацалаваць Вольгу Цішыну і ўзяла ў яе аўтограф. Прыемна ўразіў клопат гаспадароў Дома аб мінчанах. Быццам з-пад зямлі ўзнік у артыстычнай круглы стол пад чыстым абрусам, і за шклянкай наймацнейшага духмянага чаю з хатнім пірагом у жывой бяседзе непрыкметна прабег час да ад'езду на вакзал.

Усё гаварыла пра поспех мінчан у гледачоў. Але як паставіліся да спектакля пра-

жам, той, хто сёння звернецца да п'есы «Алазанская даліна» К. Губарэвіча і І. Дорскага, не без падставы можа заявіць: а што ў ёй, уласна, можна знайсці, акрамя бесканфліктнасці, лакіроўкі тагачаснай рэчаіснасці, лінейных характараў, спрошчаных драматургічных пабудоў? Той жа, хто хоць адзін раз бачыў увасоблены па гэтым творы спектакль — а ігралі яго часта і даволі доўга, — наўрад ці скажа такое. Пастаноўка прывабліваала лірычнасцю, паэтычнай прыўзнятасцю і найперш— акцёрскім ансамблем на чале са знакамітым Аляксандрам Ільінскім. У гэтым ансамблі яркай зоркай ззяла і Зінаіда Канапелька, якая стварала вобраз грознай, неўтаймоўнай беларускай дзяўчыны Галі.

Звычайна цяжкі, нават драматычны пераход з маладых гераінь на ролі ўзроставыя, характарнага плана, для Канапелькі адбыўся вельмі арганічна і лёгка. Па-першае, яшчэ тады, калі актрыса была маладая і стварала вобразы сваіх аднагодкаў, на яе творчым шляху паўставалі і ролі сталых, пажылых жанок. А, па-другое, характарны рэпертуар прыйшоўся да творчай індывідуальнасці выканаўцы яшчэ больш блізкім, родным, чым гераіні. На сцэну ў «Несцерцы» выйшла буйная, гаманліва-бурклівая старая кабета Мальвіна, якая ўсім магла даць дыхту, асабліва свайму бязвольнаму мужу Мацею. Вобраз ствараўся буйнымі мазкамі, выкарыстоўваліся вельмі кідкія, вонкава ўражлівыя фарбы.

З пераходам на ўзроставыя ролі творчая палітра Канапелькі не звузілася, але значна пашырылася. Ёй стала падуладна шмат што ад высокага драматызму да вострай камедыйнасці, гратэску.

Возьмем Лявоніху з аднайменнай драмы Паўла Данілава, якая апавядае пра трагічныя падзеі з жыцця беларускага народа далёкага мінулага. Артыстка стварае велічны, манументальны вобраз жанчыны, маці, што надзелена вялікай унутранай сілай. Стрыманыя яе рухі, жэсты, увогуле строгая манера акцёрскага выканання. І разам з тым перадаюцца высокі душэўны напал, трагічныя парыванні Лявоніхі.

Зусім іншая танальнасць, сама рытміка сцэнічнага жыцця ў ролі Паліны ў макаёнкаўскім «Трыбунале», дзе ўладарнічае нібы сама народная стыхія, драматычнае і камічнае, нават фарсавае тут так шчыльна між сабою пераплецены, знітаваны, што проста немагчыма аддзяліць адно ад другога. Адкрыты тэмперамент. Ва ўсім — размашыстасць, шырыня, шаленства фарбаў.

Вобразы, якія стварае Канапелька, жыццёва праўдзівыя, у іх верагодная, бадай, кожная рыска характару. Для пацвярджэння можна прывесці ролю Міхаліны Матулевіч з «Трывогі» А. Петрашкевіча, усё адно як выхапленую з самой рэчаіснасці. І адначасна сцэнічныя работы артысткі вельмі ўзбуйнены, тэатральна завостраны, у характарах ёсць мастакоўскае абагульненне, праўда якраз у шырокім разуменні гэтага паняцця. Дарэчы, нацыянальны рэпертуар стаўся галоўным, найбольш яскравым у творчасці Зінаіды Канапелькі.

Але ў яе акцёрскай біяграфіі нямала і іншых ролях — з рускай і замежнай класікі, з сучаснай п'есы народаў СССР. Назаву толькі некаторыя з іх — лэдзі Мільфард у «Каварстве і каханні» і Лізавету ў «Марыі Сцюарт» Ф. Шылера, Юстыну ў аднайменным творы Х. Вуаліёкі, Марыю Антонаўну ў «Рэвізоры» М. Гогаля, Парашу ў «Гарачым сэрцы» А. Астроўскага, Наташу ў «Трох сёстрах» А. Чэхава, Цалаваньеву ў «Зыкавых» М. Горкага, Разалію Паўлаўну ў «Клапе» У. Маякоўскага, Ксенію ў «Разломе» Б. Лаўранёва, Аксану ў «Гібелі эскадры» А. Карнейчука, Сафік у «Заставайцеся сонцам» А. Папаяна. Ролі, як няцяжка ўявіць, самыя разнастайныя, нярэдка палярна супрацьлеглыя. Гэтую вялікую і надзвычай стракатую людскую грамаду яднае адна істотнейшая рыса — усе сцэнічныя вобразы ўвасоблены беларускай актрысай і на кожным з іх, пры непадобнасці характараў і характарыстык, ляжыць выразны адбітак яе непаўторнай творчай індывідуальнасці.

Ёсць дзеячы сцэны, якія атрымалі ганаровае званне народнага за высокае, тонкае майстэрства, за вялікія творчыя дасягненні, за буйны ўклад у мастацтва. Усё гэта ёсць у багажы Канапелькі. І ёсць яшчэ тое, чаго, на вялікі жаль, няма ў многіх, асвечаных высокімі ўзнагародамі і званнямі. Канапелька народная па самай глыбіннай сутнасці, па ўсім, так бы мовіць, сваім духу. Актрыса вельмі самабытная, менавіта беларуская. Таму і вобразы, каго б яна ні ўвасабляла, абавязкова набываюць своеасаблівую адметнасць.

І якой бы непаўторнай магла б выйсці брэхтаўская гераіня матухна Кураж, калі б з ёю ў свой час сустрэлася Канапелька! Рэжысёр С. Казіміроўскі, які ставіў на коласаўскай сцэне спектакль «Матухна Кураж і яе дзеці», напачатку меркаваў даручыць і ёй у чаргу іграць гэтую ролю. Пазней, у працэсе самой падрыхтоўкі пастаноўкі, адмовіўся ад такога намеру. З рэжысёрам варта было спрачацца, не пагаджацца, але яго можна і зразумець — не бачылася яму, не ўяўлялася, як гэта карэнная немка Кураж будзе мець на падмостках беларускія абрысы...

Доўгія, да таго ж нялёгка пражытыя гады, вядома, не дадаюць фізічных сіл, здароўя. Але яны дораць мудрасць, умельства, на прафесійнай мове кажучы,—майстэрства. І цяпер Зінаіда Канапелька, прашу прабачыць мне ненаўмысны каламбур, іграе бяспройгрышна, —нават невялікія, якія мала што значаць эпізоды ці зусім выпадковыя для яе ролі. Сцэнічныя вобразы ці нязначныя па тэксце эпізоды актрыса надзяляе выразна акрэсленымі, сакавітымі штрыхамі, яны выходзяць вельмі каларытнымі, надоўга ўрэзваюцца ў памяць. Для прыкладу можна назваць яе Луізу ў даволі пустой, павярхоўнай французскай п'есе і пасрэдным спектаклі па ёй «Будзьце здаровы!» П. Шэно.

Але і такіх роляў ці эпізодаў у Канапелькі сёння надзвычай мала, яна ўвогуле амаль «выпала» з рэпертуару. Як мы ўсё ж яшчэ не ўмеем па-сапраўднаму — на словах, дзякаваць богу, навучыліся, і часам завельмі — клапаціцца пра таленты, пра лёс творцаў. А для Канапелькі ў дадзеным выпадку трэба было б спецыяльна выбіраць ролю, п'есу, спецыяльна для яе ставіць спектакль. Яшчэ не позна.

Пакуль жа артыстка бездаказна і з ахвотаю выконвае ў тэатры любую работу па прафесіі, выязджае на сустрэчы з гледачамі, у тым ліку ў самыя аддаленыя мясціны, актыўна ўдзельнічае ў розных грамадскіх пачынаннях, камісіях, пасяджэннях, знаходзячы ва ўсім гэтым творчую і проста чалавечую радасць і ўцеху. І з гонарам і па вялікаму праву можа сказаць пра сябе: «Я — народная».

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ.**



З. КАНАПЕЛЬКУ (у цэнтры) з юбілеем віншуюць купалаўцы.

## Пераклады

**«Без перабольшання можна сказаць, што мініяцюры Абрама Кацнельсона свабодна канкурыруюць з лепшымі ўсесаюзнымі ўзорамі гэтай формы», — пісаў Барыс Алейнік у прадмове да кнігі паэта «Балада пра струны», якая выйшла ў выдавецтве «Художественная литература» (Масква, 1983) у перакладзе на рускую мову.**

**Абрам Кацнельсон — вядомы ўкраінскі савецкі паэт, аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў, лаўрэат рэспубліканскай літаратурнай прэміі імя Максіма Рыльскага, ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Нарадзіўся на Чарнігаўшчыне на мяжы з Беларускай ССР. Пераклаў на ўкраінскую мову вершы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Вялюгіна, С. Грахоўскага, А. Зарыцкага, П. Прыходзькі, А. Пысіна. У Кіеве здадзены ў друк у яго перакладзе на ўкраінскую мову кніжка дзіцячых вершаў С. Шушкевіча. Многія свае вершы ён прысвяціў Беларусі.**

**Неўзабаве ў кіеўскім выдавецтве «Дніпро» ў мініяцюрным выданні з прадмовай Леаніда Навічэнкі выходзіць кніга выбраных мініяцюр Абрама Кацнельсона.**

**Прапаную чытачу нізку чатырохрадковых вершаў з гэтай кнігі.**

**Перакладчык.**

### Абрам КАЦНЕЛЬСОН

### МІНІЯЦЮРЫ

●

Байцом прайшоў нямала я дарог,
Абараняць Радзіму, кажуць, гэта — подзвіг,
А для мяне было — прыроджаным, як подых:
Такім я рос і іншым быць не мог.

●

Тут палеглі сябры. Тут і я часты госць,
Следапыты праклалі сюды свой маршрут.
Пазіраю наўкол... — Што шукаеш ты тут? —
Адказаў сам сабе: — Сваю маладосць...

●

Часта мроіцца ёй медсанбат:
Нібы чуе «сястрычка» хтось кліча
А навокал аблічча, аблічча
Ёю выратаваных салдат...

І хоць гадамі ўжо немаладая,
Ёй часта сніцца: морак, бездарожжа,
І з фронту бацька клыпае-дыбае,
Ды ўсё дадому ён дайсці не можа...

●

Смерці позняе няма,
А бывае толькі ранняя.
Не пужае смерць сама,
Найстрашней жа— паміранне.

●

З гадамі ўсё часцей, усё часцей,
Былое ўспамінаеш... А бывае,
Што страшна і таму, хто ўспамінае
Але не ўспамінаць — яшчэ страшней!

●

Быць іншым, дружа, шлях не можа:
Якую ты вяршыню ні скары,
Яна становіцца падножжам
Яшчэ вышэйшае гары.

●

Ты нарадзіўся — пра цябе клапоты
Радня ўзяла, уся твая сям'я.
Даюць імя табе. І трэба потым
Усім жыццём тварыць сваё імя.

●

Юнак з дзяўчынай... Зоры... І каштаны...
Рука ў руцэ — мацнее сэрцаў стук.
Адны збярог бы ў свеце я кайданы —
Кайданы сплеценых каханнем рук!

Пераклаў з украінскай Мікола ТАТУР.

фесіяналы рознага профілю — крытыкі і практыкі? Да некаторых з іх я звярнулася па міні-інтэрв'ю.

**Г. БУДЗЕННАЯ,**
**супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Музыкальная жизнь»:**

— Маскоўская тэатральная восень сёлета надзвычай багатая. Аднак і ў такім кантэксце мінскі спектакль ладаўся дастойным і значным. Уразіла сур'ёзнасць, захопленасць выканання. Я нават не вылучаю Цішыну — Флору. Кожная акцёрская работа вартая высокай ацэнкі — і Тобі, і Моніка, і нават трэцярадныя персанажы. Маштаб музычнага гучання кампенсуе сцэнічную сціпласць...

**Г. КАЛІНІНА,**
**салістка Вялікага тэатра Саюза ССР, народная артыстка РСФСР:**

— Спектакль спадабаўся. Цудоўнае пачынанне! Уразіла выканаўца галоўнай партыі В. Цішына. Добра паказаліся А. Кеда і В. Садоўская ў партыях гасцей мадам Флоры. А вось Моніка — Т. Кучынская не цалкам задаволіла вакальна, хаця яе музычная партыя багатая, дазваляе папець. Ад хлапчука, што іграў мімічную ролю Тобі (адзначу ў дужках, што С. Гаўрыленка, мастак-макетчык нашага опернага тэатра, не меў да «Медыума» аніякага акцёрскага вопыту!

— А. С.), вачэй не магла адвесці...

**Т. ГРУМ-ГРЖЫМАЙЛА,**
**крытык:**

— Для мяне ўражанні ад гэтага спектакля перш-наперш музычныя, адкрыццё малавядомай музыкі дзівоснай экспрэсіі і прыгажосці. Як мы маглі яе не ведаць! Мінскі оперны клуб — асветнік не толькі для аматараў, але і для музыкантаў... Захопленасць, улюбёнасць у музыку дазволілі знайсці асаблівую выканальніцкую інтанацыю. Ідучы за пераменлівай, эмацыянальна насычанай партытурай, рэжысёр і спевакі-акцёры здолелі стварыць тонкія, псіхалагічна праўдзівыя партрэты дзейных асоб. Дакладна пракрэслена драматургічная лінія, накіраваная да развязкі. Да вартасцяў спектакля я аднесла б тое, што артысты не баяцца быць прыземленымі, бытавымі. Яны адважна змагаюцца з опернай умоўнасцю, не пераходзячы межаў эстэтычнага. Мне, праўда, не хапіла ў пастаноўцы досыць развітога пластычнага раду. У найбольшай ступені гэта ролі немага Тобі датычыць. У ёй павінна быць нейкая таямніца, загадкавасць, рэжысёр яе, здаецца, залішне прасталінейна вырашыў. Фінал, на маю думку, крыху «не дацягнуты»... Мадам Флора — Цішына. Што тут казаць? Актрыса вельмі таленавітая. Сцэна з Тобі, маналог Флоры — з самых моцных момантаў спектакля. Псіхалагічныя тонкасці, імгненныя перамены настрояў — усё гэта ёсць. І ўсё ж мне падалося, што творчая патэнцыя Цішынай не да канца раскрылася, спявачка «запраграміраваная» на большае. Можа, як кажуць, «не ў фокусе» была ў той вечар; Т. Кучынская ў партыі Монікі мне падалася нават больш арганічнай... А ўвогуле ўражанне вялікае і светлае.

**Я. РАЦЭР,**
**прафесар, загадчык кафедры опернай падрыхтоўкі Маскоўскай кансерваторыі:**

— Мне здаецца, што будучыня опернага мастацтва ў арганічным зліцці вялікай, маштабнай, т. зв. пастановачнай оперы і больш камернай, што засяроджваецца на раскрыцці ўнутранага свету чалавека. Таму зварот да такога матэрыялу, як «Медыум», уяўляецца і своечасовым, і перспектыўным. Поспех пастаноўкі вызначылі, на маю думку, тры моманты: пераканаўчая, вельмі ўдумлівая рэжысура С. Штэйна, драматургічна асэнсаваная, сапраўды оперная, дзейсная ігра фартэпіяннага дуэта ў складзе Н. Салдаценкавай і С. Арловай і ўвасабленне В. Цішынай цэнтральнай ролі. Я даволі даўно яе ведаю (яшчэ па кансерваторскіх работах) і вельмі рады, што яе майстэрства спявачкі-актрысы набывае такія прыцягальныя рысы...

**В. КІСЯЛЁЎ,**
**супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Советская музыка»:**

— Я ведаю пастаноўку «Медыума» ў Ленінградскім малым оперным тэатры з цудоўнай Флорай — Нінай Рамановай. Яна стварае вобраз больш стрыманы, больш свецкі. У мінскім спектаклі нават на клубнай сцэне паўстае вобраз бессаромна значны. Агаленая, завостраная сюрформа адкрывае бездань адзіноты мадам Флоры. З залы ідуць токі глыбокага спачування да гэтай быццам бы цалкам амаральнай, жорсткай жанчыны. На парозе фізічнай і духоўнай пагібелі ў ёй раскрываецца незабітая чалавечнасць — выток самаразвіцця гэтай неардынарнай асобы.



Вольга ЦІШЫНА — мадам Флора.

...Выказаўшы свае ўражанні, В. Кісялёў папрасіў тэрмінова прыслаць здымак В. Цішынай у ролі мадам Флоры — ён рыхтуе матэрыял пра наш «Медыум» у першы нумар «Советской музыки». Пагадзіцеся, увага саюзнага часопіса да клубнага спектакля гаворыць пра многае!

**А. САЛАМАХА.**

# ПРЫСЯГАЮЧЫ БУКВАРУ

(Пачатак на стар. 3).

**Калі ж паглядзець на манументальны летапіс у фае Дома ўрада скрозь нацыянальны фактар, то робіцца вельмі скрушна. На гарэльефе мы не знойдзем ніводнага нацыянальнага героя, інтэр'еры шматлікіх памяшканняў, пры ўсёй іх функцыянальнай разнастайнасці, аформлены надзвычай нейтральна, можна сказаць, нівеліраваны. Між тым, наш Дом урада — тое месца, дзе мастацтва, на мой погляд, павінна гаварыць не толькі мовай палітыкі, але мовай народнай памяці, праўды і ідэалаў, мовай шматвяковай сімволікі. Прыгадваю, што ў будынку парламента Фінляндыі нават ручкі на дзвярах не пазбаўлены гэтай мовы, па-свойму берагуць традыцыі і славу народа, яго памяць і гонар. Адным словам, час тут пакінуў нам велізарнае поле дзейнасці, якое ў будучыні магло б даць здаровыя парасткі нацыянальнай самасвядомасці, сілай мастацтва паспрыяла б працэсам нацыянальнай кансалідацыі на ўзроўні дзяржаўнасці.**

**Паводле Таро, добрыя ўчынкі памятнейшыя за самыя велічныя помнікі. Гэта так. Аднак усё, што ўзвышае, пазбаўляе нас псіхалогіі чалавека-перакаціполе, варта помніка. Такога, вядома, перад якім не былі б уніжаны нашчадкі.**

Калі сельскія крамы рэспублікі былі запоўнены скрынямі з вінна-чарнільнымі напоямі, калі канвеер аўтападвозу алкагольнай атруты працаваў амаль бесперабойна, а народ співаўся цэлымі вёскамі, з нагоды гэтай эпідэміі я не сустракаў у друку (прынамсі, рэспубліканскім) палосных публікацый, накшталт «Эвалюцыі палітычнага невуцтва», «Пены на хвалі перабудовы», «Нам з вамі не па дарозе» і інш. Я вымушаны думаць, што шэраг нашых ідэалагічных інстытутаў, у прыватнасці, наша афіцыйная прапаганда больш устрывожаны здольнасцю людзей «сваю думку мець», чым іх апатычным сном, звычкай знаходзіцца ў палітычным пасіве, а ў недалёкім мінулым — па-мярцвецку спаць пад плотам у абдымках з Бахусам.

Калі мне даводзяць, што згуртаванні тыпу «Талакі» маюць памылкі, то чаму гэта менавіта «эвалюцыя палітычнага невуцтва», а не пошук ісціны? Менавіта амбіцыі, а не пачуцці? Менавіта адыход ад нормы, а не набліжэнне да яе? Менавіта нешта страшнае, а не спроба асэнсаваць белыя плямы гісторыі?

Адказнасць за «белыя плямы» хтосьці, можа, і хацеў бы цяпер прыкрыць «адказнасцю» за «палітычнае невуцтва», па сутнасці, сваіх дзяцей. Пры гэтым, не зважаючы на шалёстанне і посвіст пугі ва ўласных руках. Што да памылак, то яны ж ёсць і ў міністраў. На высокіх пасяджэннях людзі з партфелямі зазнаюць такой прапясочкі, што, здавалася б, цяжар грахоў не дасць дыху дайсці і да міністэрскага кабінета. Аднак нічога. Нікога не здымаюць (хіба што за рэдкім выключэннем), не вешаюць ярлыкоў, не тыражуюць публічныя абвінавачанні. Хоць часам грахі заслугоўваюць таго-сяго.

Дырэктар завода, які дазволіў сабе ўзначаліць Савет працоўнага калектыву (а ён такі далёка не адзін на рэспубліку), заслугоўвае большага асуджэння, чым студэнт, які ўзняў над сабой дзёрзкі лозунг. У адным і другім выпадку — хай сабе палітычнае невуцтва, аднак першы мае відавочна антыперабудовачны характар, рознячыся ад другога. І калі першы факт публічна не асуджаны як з'ява (ён жа варты быў не меншага абурэння, чым «прынцыпы» Н. Андрэевай!), калі ў ім не заўважылі «сапраўды дэманічнай сілы», то масіраванае «избиение младенцев» я і дазволю сабе назваць якраз той самай «пенай».

А злоўжыванні ў цянётах цэнаўтварэння? Іх дапускалі, прыкрываючыся дзяржаўнымі інтарэсамі, не «палітычныя невукі» з «Талакі», не лідэры «Мартыралога».

Проста дзіву даешся. Інтэрв'ю з прастытуткай, аказваецца, можа быць прыкметай дэмакратызацыі і галоснасці, а запрасіць на вячэрні тэледыялог прадстаўнікоў «Мартыралога», «Талакі» або любога, чыя годнасць была абражана 30 кастрычніка каля Усходніх могілак, — нібыта застаецца ў разрадзе табу.

Мне даводзяць: мітынг забаранілі, міліцэйскія нарады былі выстаўлены супраць тых, хто пайшоў наперакор закону. Пакінем у спакоі міліцыю. Задумаемся над небяспечнай гульнёй улад у забарону, легкадумна самаўпраўныя маніпуляцыі з законам. Закон не выключае гарантыі чалавечай годнасці, ён для чалавека. Сталася так, што 30 кастрычніка закон спрацаваў супраць чалавека, наперакор разумнаму сэнсу, наперакор палітыцы і аўтарытэту партыі, наперакор і самому закону.

А ці выйграла ад гэтага нацыянальнае пытанне ў рэспубліцы? Выйграла хіба што ў тым прытчавым сэнсе, пра які ў сваім слове сказаў Віктар Казько: у бок могілак ішло насельніцтва, назад вяртаўся народ. Аднак суцешыцца гэтай мараллю было б... надта сумна. Да Чарнобыля і праектаў затаплення, да ахвяр часоў культу і ахвяр афганскай вайны дадаліся, як ні круці, «спецыяльныя сродкі», хай сабе і не пушчаныя ў ход супраць мінчан. Вось што сумна! Сумна і сорамна, калі ўспомніць У. І. Леніна, ягоную думку, што «адзіна правільнымі адносінамі да інтарэсаў нацый... будзе максімальнае іх задавальненне і стварэнне ўмоў, якія **выключаюць усякую магчымасць канфліктаў на гэтай глебе»**. Апошнія шэсць слоў я дазволю сабе падкрэсліць.

Інерцыя застойнай ідэалогіі, па ўсім відаць, усё яшчэ вымушае трымаць фасон, усяляк нейтралізуючы вынікі інцыдэнту. Аднак, чым большыя гэтыя намаганні некаторых афіцыйных органаў, тым больш відавочнае іх нежаданне сканцэнтраваць увагу на сваёй памылцы, на тым, што называецца «Соцкі падвёў».

ВА УРАДАВЫМ эшалоне рэспублікі з'явілася новая постаць. Друк абвясціў, што ў нас новы міністр культуры. А назаўтра вечарам, у тэатральнай ложы ад суседзяў, маладых людзей, мне зусім незнаёмых, пачуў крыху іранічнае, але на гэтулькі ж і абыякавае:

— Кандыдат эканамічных навук, гм... Нешта новае.

— А што? У нагу з часам. Культуры таксама патрэбен гаспадарчы разлік.

Вось такі дыялог. Перад самым адкрыццём заслоны. Але да выхаду на сцэну акцёраў я паспеў задумацца, як жа сапраўды размяркоўваюцца ролі ў сферы, значна вышэйшай за тэатральную. І, на грэх, таксама засумняваўся...

**З аднаго боку, мне хочацца думаць: новы міністр варты перабудовы; у народзе яго ведаюць як асобу і не хаваюць прыхільнасці; новы міністр, хоць закончыў тэхнічную ВНУ і па спецыяльнасці інжынер-механік, здолеў спасцігнуць вышыні культуры і нясе ў сабе яе адпаведны ўзровень; ён перш-наперш глыбока паважае ўсё нацыянальнае, народнае, валодае роднай мовай; сучасныя праблемы ў даверанай яму сферы ён здольны ўспрыняць найперш сваімі ўласнымі ведамі і ўласнымі перакананнямі; у рэшце рэшт здольны быць годным сынам бацькаўшчыны.**

**З другога боку, мне хочацца быць упэўненым у гэтым. Таму я прад'яўляю рахунак палітычнай саманадзейнасці, замацаванай пячаткай застарэлых традыцый і санкцыяніраванай, як мне здаецца, перыядам абмежаванай дэмакратыі. Я прад'яўляю рахунак саманадзейнасці, якая падбухторвае сумненні і недавер цэлай сукупнасцю падстаў не толькі біяграфічнага характару. Хоць разумею, што справа не ў біяграфіі, аб'ектыўна ўсё можа быць наадварот. Так, можа. Але ж выказванні ў тэатральнай ложы не абмяжоўваюцца межамі тэатральнага жыцця. Чаму, скажам, нікому ў галаву не прыйшла ідэя выбараў міністра культуры замест «назначэння зверху»?**

Мяне здзіўляе, чаму па сённяшнім часе пра лідэраў нефармальных аб'яднанняў мы ведаем куды больш, чым пра лідэраў, так бы мовіць. фармальных. Ці не гаворыць гэта за тое, што масавы рух ідзе паперадзе жыцця, уздымае праблемы часам на ўзроўні большай кампетэнтнасці і грамадскай зацікаўленасці, чым іх уздымаюць і спрабуюць вырашаць некаторыя міністэрствы? Тады, можа, варта нам думаць аб тым, каб масавы рух папаўняў і кадравыя рэзервы.

Мяне турбуе, чаму ў нас такі бедны цырыманіял «прыняцця партфеля». Прызначэнне міністра культуры — гэта ж нацыянальная падзея, якая павінна нейкім чынам закрануць свядомасць людзей, узбагаціць, ускласці надзеі. Бясколернасць абядняе. Келейнасць крыўдзіць і спараджае абыякавасць.

Дык што, я супраць прызначэння новага міністра? Адказваю: не, не супраць.

Але і не «за».

Таму спадзяюся, што наша тэлебачанне здагадаецца наладзіць шырокае азнаямленне грамадскасці рэспублікі з новым міністрам культуры. Такая акцыя паспрыяе галоснасці і дэмакратызацыі, дапаможа высветліць платформу новага міністра, а пры пэўных акалічнасцях не пашкодзіць і аўтарытэту яго на пачэснай, высокай пасадзе.

РЭСПУБЛІКАНСКАЕ тэлебачанне часам вельмі «фотагенічна» высвятляе адзін надзвычай істотны кадравы нюанс, з'яўляецца як бы «негласным» экранам галоснасці. Глядзець асобныя перадачы бывае гнятліва цяжка, затое паказальна — ва ўмовах двухмоўнасці мы жыць не навучыліся, інтэрв'ю па-беларуску гучыць вельмі рэдка. Скажу больш: для многіх «начальнікаў» і чыноў перайсці на гаворку, пазбаўленую канцылярскіх штампаў, ды яшчэ ў беларускамоўным варыянце — ледзь не азначае запляміць мундзір або расшпіліць яго на ўсе гузікі. Але за гэтай своеасаблівай відавой параднасцю ці, як мы кажам, афіцыйнасцю стаіць хутчэй за ўсё ўзровень самастойнай культуры і тое становішча спраў, пры якіх ахвяруецца павага да народа і застаецца непарушным «рэгламент» паводзін афіцыйных мужоў.

Вось сказаў, што тэлевізійнікі-прафесіяналы тут ні пры чым, а тым часам выпрошваецца камплімент: бывае, на тую ці іншую перадачу падабраны такі склад удзельнікаў, які не пакідае падстаў каго-небудзь папракаць за ігнараванне ленінскага запавету ў падборы кіруючых кадраў. Аднак выключэнне не ёсць правіла. А «правіла» такое, што ў беларускамоўнай па задуме перадачы (а нярэдка і па сутнасці тэмы гаворкі) таварышы «з партфелямі», у тым ліку і органаў культуры падаюць «яскравы» прыклад, якой мовай трэба карыстацца саноўным людзям. Вось і паспрабуй разбярыся, у якім выпадку тэлебачанне аказала нам лепшую паслугу ў асвятленні (вядома, ускосным) кадравай палітыкі ў рэспубліцы.

**Або другі бок справы. Помніцца, выступаў у эфіры кіраўнік высокага рангу. Тое, што мовай выступлення была абрана беларуская, успрымалася з добрай надзеяй. Пераадоленне стэрэатыпаў, тым больш у такой справе, заслугоўвае толькі ўхвалы. Але тут я ўжо мушу гаварыць і пра іншае. Пра такт, далікатнасць у абыходжанні з мовай. Слухаючы тэкст (менавіта тэкст), вушы рэзала надзвычай кепскае вымаўленне. Факт, што таварыш гаварыў на чужой, нязвыклай для сябе мове, на жаль, стаўся кампраметуючым момантам не толькі ў адносінах да беларускай мовы і не толькі ў адносінах да палітыкі двухмоўнасці, але і да ленінскай кадравай палітыкі. А найперш, мне думаецца, да асобы самога адказнага таварыша.**

Зрэшты, боязь перабаршчыць у беларускасці—прыкрае кляймо маральнага рабства, з якім мы не спяшаемся расставацца, — і з'яўляецца часта прычынай той скупасці і бессардэчнасці ў адносінах да мовы. Проціпаставіць гэтаму можна толькі ўнутрана раскаваны працэс вяртання да вытокаў, адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Тут неабходна не адна акцыя. І перш за ўсё — дзяржаўнасць мовы, яе жыватворная прысутнасць на вышэйшых рэспубліканскіх форумах, вяртанне мовы ў буквары дзяцей нашых, у школы і школкі — на самыя ганаровыя месцы, ва ўсёй красе і аздобе. Гэта не эмоцыі, гэта адзіны шлях да адраджэння роднага слова, стварэння належных умоў яго існавання. Хацелася спадзявацца, што пачатак гэтых працэсаў будзе пакладзены ў самым хуткім часе.

...А ў шчырасць адказнага таварыша я паверыў. І веру сёння. І буду верыць заўтра. Бо веру ў асобу, у высокі аўтарытэт пачэснай пасады.

ШУКАЮЧЫ бюракрата ў яго патаемных сховах, звыклых кабінетных сценах, за шырокімі сталамі з дубу, за папяровымі барыкадамі, пры тэлефоне, мы часам не заўважаем бюракрацыка ў саміх сабе. Без адпаведных апартаментаў. А, скажам, на сцэне ў строгім касцюме вядучага або дырыжора ў званні народнага артыста рэспублікі. Вось атрымаў нядаўна запрашэнне на канцэрт «у рамках» значнай культурнай падзеі, з задавальненнем скарыстаў магчымасць паслухаць вядомы хор. Публіка сабралася зусім дамашняя, мінская, пераважна студэнцка-вучнёўская. У праграмцы канцэрта, выдадзенай па-беларуску, цудоўныя творы нашых кампазітараў на тэксты Купалы і Коласа. А вядучы канцэрта, наш добры тэлевізійны знаёмы, не зважаючы, распачаў свята, праігнараваўшы мову народа, мову—хлеб нацыянальнай культуры. На якой падставе, з якіх меркаванняў? Хіба не бюракратычная абыякавасць? Дырыжор (я падкрэсліваю — у званні народнага артыста БССР) таксама дазволіў праігнараваць роднае слова. Гатоў гэта даравадь за цудоўны вянок песень, але ці даруе нам сама песня?

**Прызнацца, мяне шчыра здзіўляе, чаму я, скажам, як карэнны жыхар Беларусі, беларус па нацыянальнасці, прыходжу з сынам ці дачкой у нашу цудоўную арганную залу на Залатой горцы, дзе назаўсёды прапісана музыка глыбокіх інтымных пачуццяў, і адтуль, з-пад занавесу, гучыць каментарый музыказнаўцы не па-беларуску. Для мяне гэта напалову прафесійны работнік. І напалову прафесійныя работнікі на ніве роднай культуры тыя, хто лічыць нармальным такі стан культурнай, у тым ліку канцэртнай палітыкі. Ад каго ж чакаць, на каго спадзявацца? Прывід жалезнага памяла міжволі ўзнікае не толькі з-за тэатральных кулісаў, а ледзь не за кожным вуглом беларускай сталіцы, абласных і раённых цэнтраў, мяркуючы хоць бы па шыльдах, рэкламе...**

**Уважліва, часам пакутліва сачу за падрастаннем свайго сына. Сёння, на яго восьмым годзе, больш чым перакананы: тым, што ў сталіцы няма беларускай школы, беларускага дзіцячага сада, беларускага мульціка і г. д.,—тым самым мы, верагодна, трацім цэлыя пласты нацыянальных здабыткаў і славы, вырываем ці не цэлыя эпохі ў календарах будучыні, не далічваемся ці не дзесяткаў імён, якія маглі б упрыгожыць даляглядь не толькі нацыянальнай, але, магчыма, сусветнай культуры. Жахлівая па маштабах тэхналогія недабірання ўраджаю. Калісь руплівы хлебароб маліў неба, каб стуль упала кропля вільгаці і паспрыяла пасеву. Якіх высілак — фізічных і духоўных — гэта яму каштавала? А тут — народ, пакаленні, а пасеў абыякава нядбайны.**

Нехта ўпікне мяне, захоча паправіць. Але мой аргумент просты. Занядбанне нацыянальнага можа спрыяць выраджэнню і спусташэнню. І яшчэ адзін, не сацыялагічны, затое бясспрэчны аргумент — зусім пад рукой, у поўнай, гранічна пераканаўчай і жывой блізкасці. Вось ён, мой сын — магу бачыць і адчуваць, як рэагуе яго душа на роднае слова, беларускую мову, карунак, спеў, дэталь архітэктурнай аздобы, літару, шрыфт... І як гэта ўсё нібы «вымыта» з нашага гарадскога асяроддзя. Разумею не па-кніжнаму, не з чужых слоў, а з натуры, з сябе, гледзячы на ўласнага сына: сапраўдная цікавасць, павага, любоў да ўсяго нацыянальнага можа развіцца са свядомага, дбайнага, пазначанага высока пастаўленай асветай далучэння.

Крыўдна, што так не па-гаспадарску занядбалі мы родную ніву. Нацыянальнае, на добры, ленінскі лад, нам трэба было б не адстойваць сягоння, а жыць ім, дыхаць на поўныя грудзі, як гэтага хацелі Багдановіч, Купала, Цішка Гартны...

Сорамна перад Букварам.

## ГАЗЕЦЕ—50

Не пярэчу —
у слове ёсць сіла.
Прыгажэй хтосьці
можа сказаць.
Але край, дзе з дзяцінства
ўсё міла,
Магу сэрцам
Радзімай назваць.

**Гэта радкі з верша «Мая Рудабелка», які напісала Галіна Аніскові з г. п. Акцябрскі. Тут у 1971 г. пры раённай газеце «Чырвоны Кастрычнік» створана літаратурнае аб'яднанне «Натхненне». У яго ўваходзяць людзі розных узростаў і прафесій. Гэта — выкладчыца музычнай школы Р. Савіч, адказны сакратар райгазеты М. Лоўгач, загадчыкі аддзелаў газеты «Чырвоны Кастрычнік» Г. Клачко і Г. Кундас, палявод калгаса імя Леніна А. Голуб, шафёр райпрамтэхнікі М. Афанасенка, настаўнік Я. Лапухін, загадчыца дзіцячага сада-ясляў Г. Ермаловіч.**

**Актыўны ўдзельнік літаб'яднання і рэдактар райгазеты В. Лоўгач.**

**Раённа шчодра адводзіць свае старонкі творам пачаткоўцаў — вершам, апавяданням, нарысам, гумару. Асобныя з іх выступалі на Гомельскім тэлебачанні, у рэспубліканскіх газетах і часопісах.**

**У супрацоўнікаў газеты і членаў аб'яднання 1 студзеня 1989 года — свята: газеце споўнілася 50 гадоў з дня яе выдання. Свята гэтае супала з юбілеем рэспублікі і Кампартыі Беларусі. Таму яно двойчы радаснае.**

**М. ЛУГАЎЦОЎ.**

# ЖЫВЫ ЦУД

Заір АЗГУР

АДРАЗУ скажу, што выраз «жывы цуд» сапраўды пастэрнакаўскі. Уся яго паэтычная творчасць, як і лепшыя старонкі прозы, — гэта спроба чалавечага таленту ўвасобіць і перадаць у слове незвычайную чароўнасць і найвастрэйшы драматызм менавіта жывога цуда — свету прыроды (памятаеце, у «Сакавіку» ў паэта «Солнце греет до седьмого пота, и бушует, одурев, овраг, как у дюжей скотницы работа, дело у весны кипит в руках!»). Прыроды, як спалучэння дзіўных з'яў гармоніі (дарэчы, і ўяўнага хаосу), якія ператвараюць усё наўкола ў карціны, пейзажы, ландшафты, а ў эру цывілізацыі — у пасялішчы і гарады, магістралі і дагледжаныя палі або сады, горадабудаўнічыя кангламераты, якія носяць назвы Рым або Парыж, Капенгаген або Стамбул, Масква або Уладзівасток.

Гэтыя словы сказаны самім Барысам Пастэрнакам у яго славутым вершы «Во всём мне хочется дойти...» У сучаснай паэзіі рэдка сустракаеш роўнавялікае па шчырасці прызнанне мастака ў жаданні дасягнуць у сваёй творчасці адлюстравання самой сутнасці быцця. Жаданая мара «хотя б отчасти» здзейсніць адкрыццё і адарыць чытача няхай нават толькі «восьмью строками» аб уласцівасцях страсці.

**О беззаконьях, о грехах,**
**Бегах, погонях,**
**Нечаянностях впопыхах,**
**Локтях, ладонях...**

Пацвярджаю як скульптар: так, прага годна ўвасобіць рэчаісны свет, каб людзям стала больш зразумела, чаму нашы страсці бываюць то стваральнымі і вядуць нас да шчасця, то разбуральнымі і азмрочваюць само жыццё,— прага творчая, і яна ўласціва мастаку наогул.

Ведаю некаторыя творы жывапісу, якія ад непаўторнага спалучэння фарбаў і агульнага настрою могуць выклікаць у нас асацыяцыі, нібыта мы «чуем» пах бэзу, хоць перад намі ўсяго аркуш паперы з намаляванымі на ім гронкамі ліловатых суквеццяў і зялёнай лістоты. Памятаю, у фільме «Чырвонае і чорнае» па Стэндалю з Жэрарам Філіпам у галоўнай ролі герой тушыць свечку і потым кнот доўга чадзіць і выпускае струменьчык дыму. Мне здавалася, што зала кінатэатра напоўнілася пахам цёплага воску і па-царкоўнаму мяккага чаду.

Але гэта — уражанні ад убачанага.

А як жа перадаць сутнасць самога быцця? Паэт спасылаецца на прыклад музыкі.

**Так некогда Шопен вложил**
**Живое чудо**
**Фольварков, парков, рощ,**
**могил**
**В свои этюды...**

Вось ён — той жывы цуд, пра які я вяду гаворку. Кожнае мастацтва па-свойму, фарбамі і гукамі, святлацёнямі і каларытам, сплеценнямі слоў або нот, дынамічнымі позамі або стутуарнасцю перадае і ўвасабляе прыгажосць нашага жыцця.

Калі я стаяў, уражаны, перад алегарычнай скульптурай Мікеланджэла «Ноч» ля саркафага герцага Джуліяна Медзічы ў базіліцы Сан-Ларэнца ў Фларэнцыі, мне хацелася ўсклікнуць словы, якія б выказалі адносіны да гэтага непаўторнага твора, і тымі словамі, напэўна, былі б зноў жа гэтыя — «жывы цуд». Чаму? Таму што Мікеланджэла, ствараючы гэтую работу, імкнуўся дасягнуць разам з эстэтычнай прыгажосцю, менавіта і сутнасці, якая пануе ў нашым уяўленні аб н о ч ы. Яго «Ноч» — гэта мармуровы рэквіем па годнай людской памяці асобе. І застылыя вакол Джуліяна і Ларэнца фігуры — гэта і вобразы людзей, гэта і метафарычнае ператварэнне смутку, гэта і матэрыялізаванае ў пластычныя формы ўяўленне аб цемры, якая настае пасля нашага развітання навечна з любімымі, што адышлі ў свет іншы... Імгненне снабачання...

Пачаўшы разважаць пра творчасць Барыса Пастэрнака, я зноў вярнуўся да свайго любімага рамяства: справа ў тым, што Барыс Леанідавіч сваім аблічам неяк закранаў маё асабістае ўяўленне, як скульптара. Формы яго галавы і ўсёй паставы былі не тое каб фотагенічнымі, а скульптурна выразнымі. І гэтыя вялікія вочы... І гэта палаючае ў іх непаўторнае святло зрэнкаў. Сонечная добразычлівая ўсмешка «на ўвесь рот». Здавалася, ён высвечвае цябе, калі накіроўвае ў твой бок позірк. І ўзіраецца гэты чалавек у цябе і, адначасова, у нейкую такую важную для яго зараз далячынь. І вось Барыс Пастэрнак, як мне здавалася, т а к размаўляе са мной. Я патрэбен яму і як жывы і вельмі па-зямному канкрэтны Заір Азгур, і як чалавек, які трапіў у вір быцця, а вір выносіць яго на верх, то зноў зацягвае ў глыбіню — аднаго з тысяч... Ты быў цікавы яму. Адзін з тысячы — і тым не менш цікавы.

Такое, бадай, першае маё ўражанне ад сустрэч з Барысам Пастэрнакам.

Убачыў жа яго ў 1936 годзе. Было гэта ў заснежаным лютаўскім Мінску. Тут сабраўся першы паэтычны пленум нядаўна створанага Саюза савецкіх пісьменнікаў.

Мы ў той час любілі ўрачыстыя фразы, і гэты сход таленавітых паэтаў, што з'ехаліся ў сталіцу Беларусі з усёй краіны, называлі форумам паэтаў. Своеасаблівымі гаспадарамі прыёму гасцей былі нашы народныя песняры Янка Купала і Якуб Колас. З трыбун ліліся напеўныя і рытмічна чаканныя радкі на рускай, беларускай, украінскай, грузінскай, яўрэйскай, таджыкскай, нямецкай, польскай... на венгерскай... кітайскай мовах... Міжнародная сустрэча. Здавалася, народы прыслалі сюды свае таленты, каб паказаць, наколькі невычэрпныя крыніцы творчасці. Сузор'е — Мікалай Ціханаў, Сімон Чыкавані, Сяргей Гарадзецкі, Міхаіл Галодны, Мікола Бажан, Антал Гідаш, Бруна Ясенскі, Мікалай Асееў, Іаганес Бехер, Барыс Карнілаў, Сяргей Міхалкоў...

І па сённяшні дзень мне помніцца, як мой позірк вылучыў з паэтычнай чарады каля Дома пісьменнікаў яго фігуру. Пастэрнак неяк узвышаўся ростам над іншымі. І ў абліччы яго было нешта такое, што адразу прыцягвала да сябе ўвагу. Я сказаў бы — насцярожаная сканцэнтраванасць чалавека на тым, што яго акружала. Стройны, быццам выцягнуты ўгору нават кроем свайго чэрапа з грацыёзна цяжкаватай сківіцай, ён нібы чакаў звароту да сябе, пытання, запрашэння. На твары Барыса Пастэрнака адлюстроўвалася і някідкая добразычлівасць, пазбаўленая нейкага намёку на дагодлівасць, гатоўнасць адгукнуцца на ваш голас.

Пазней, калі я пазнаёміўся з ім бліжэй і нават знаходзіў прытулак у ваенныя зімы ў яго на дачы ў Перадзелкіне, гэтыя першыя мае ўражанні толькі пацвердзіліся. Паэт заўсёды заставаўся самім сабой. Яму не было патрэбы надзяваць на сябе маску — то артадокса, то клікушы, з падобнымі маскамі ў асяроддзі літаратараў мне даводзілася сустракацца.

Мяне заўсёды цікавіць прырода таленту. І згустак генаў, які ператварыў гэтага чалавека ў такога паэта, безумоўна, павінен быў прыцягнуць маю ўвагу.

Так была пракладзена мною сцежка ў Перадзелкіна.

Відавочна, чытач ведае, што былі ў яго непрыхільнікі, якія гэтую непрытоеную годнасць Б. Пастэрнака характарызавалі як форму пустэльніцтва. Маўляў, абвостранае пачуццё ўласнай годнасці і гордай незалежнасці дыктаваліся жаданнем паэта адгарадзіцца ад рэчаіснасці, быць мастаком «над бітвай». Калі я размаўляў з ім, дык бачыў, як яго самога іншы раз бянтэжыць уражанне, якое робіць на іншых менавіта незалежнасць яго меркаванняў. Ці не таму гулівыя інтанацыі пастэрнакаўскай гаворкі нагадвалі нам працяг, а не пачатак гутаркі...

Памятаю, сядзім мы за сталом. У фарфоравых кубках вярбілкаўскага завода пунсова цямнее чай, нізкая лямпа з абажурам акрэслівае «круг», у якім мы нібыта ад'яднаныя ад свету. А размова аб свеце, аб тым, што шуміць там, за серабрыстымі ад марозу шыбамі падмаскоўнай дачы.

Не буду прыводзіць гаворку Б. Пастэрнака, бо паўтарыць пры гэтым яго лексіку і, галоўнае, інтанацыі проста немагчыма. Буду прытрымлівацца сутнасці некаторых яго выказванняў.

Вось гаворка зайшла аб магчымасцях слова і магчымасцях пластычнай выразнасці таго ж каменя або бронзы. Паэту і скульптару, гаварыў Барыс Леанідавіч, прыродай наканавана рабіць усяго шмат, не спыняючыся, не грэбаваць пераборам і лішкамі. Чаму? Сапраўднае мастацтва не творыцца наўмысна і з намерам, яно атрымліваецца як бы само па сабе (нехта з цяперашніх паэтаў, здаецца, Андрэй Вазнясенскі, падхапіў гэтую думку Пастэрнака і ўдакладніў: «здараецца»). Злачынна мастаку адыходзіць ад свайго прызначэння. Злачынна імкнуцца ў прэзідыумы, вяшчаць з трыбуны, пісаць у газеты, калі ў цябе ў майстэрні на станку ўзвышаецца глыба, з якой ты наважыўся атрымаць воблік гарнавога або пушкара... Калі ў мяне на стале сіратліва бялее аркуш паперы з недапісанай фразай аб імкненні душы да шчасця...

Барыс Леанідавіч уставаў з-за стала і хадзіў па пакоі з кута ў кут, нібыта дакараючы сябе ў думках за тое, што вось і цяпер ён «ганяе са мной чаі», калі яму трэба было б... Ды і мне трэба было б...

Гэтая захопленасць творчасцю, якую Барыс Леанідавіч не ўмеў (ды і не збіраўся!) утойваць ад іншых, відаць, магла некага і пасарамаціць за ўласнае гультайства і бяздзейнасць.

Калі я чуў нараканні ў адрас паэта, што зыходзілі ад яго калег, ад пісьменнікаў, мне прыходзіла ў галаву іменна гэта думка. Яго безаглядная адданасць прызванню выклікала і зайздрасць, і раздражненне ў менш здольных людзей. Яны якраз і запаўняюць недахоп здольнасці грамадскім шумам і паказной грамадзянскай заклапочанасцю.

Праўда, калі Пастэрнака атакавалі нашы дамарослыя заілы з папрокамі ў адрас вершаў, дзе паэт крычыць у фортку людзям: «Какое, милые, у вас тысячелетье на дворе?», што ён, маўляў, паказвае жудасны адрыў гэтага творцы ў вежы са слановай косці ад рэальнага жыцця, мне заўсёды хацелася запярэчыць. Прачытайце яго вершы і паэмы, і вы ўбачыце, што гэтаму лірыку арганічна ўласціва пачуццё жывой прыхільнасці да навакольнай рэчаіснасці. Да зямлі, да рэчак, да дрэў, да храмаў, да хацін, да палацаў... Паэт заўсёды адчувае сябе ў часе як чалавек, які мае дачыненне да жывой гісторыі, да яе вечнага развіцця.

Аднойчы Пастэрнак, адказваючы на нейкую заўвагу жонкі — Зінаіды Мікалаеўны, выказаў як нешта само па сабе зразумелае і даўно з ёю агаворанае, думку аб натуральным растварэнні сапраўднага паэта ў сваім прызванні. Барані божа, калі з яго радкоў выпірае жаданне спадабацца каму-небудзь і на гэтым нешта зарабіць. Як гэта наогул жудасна, што радкі і строфы пачынаюць быць крыніцай заробатку!..

Сківіцы ў Барыса Леанідавіча захадзілі, ён пасуровеў і загудзеў нешта накont таго, што, маўляў, нашы зямныя турботы вымагаюць любога з нас думаць аб хлебе надзённым, але паэту... паэту...

Памятаю, ён зноў пачаў хадзіць з кута ў кут па пакоі, як тыгр у клетцы, і ўсё паўтараў гэтыя словы: «Але паэту... паэту... Паэту ж нічога не дадзена прадказаць... Ні-чо-га! А калі ён загадвае, што атрымае з гэтай паэмы жоўтага цяльца, дык... Ха-ха-ха, той ужо не паэт... так... вершапісака».

Кінуўшы позірк на мяне, Барыс Леанідавіч заключыў: маўляў, не паэт ён («той»)... не мастак... а так — ляпіла... мазіла... муляр...

І я здагадваўся, што гаворка ідзе не толькі аб сачыніцелях вершаваных твораў, а аб паэтычным прызванні наогул. Таленавіты чалавек смелы. Таленавіты не баіцца неразумення і ганьбы сучаснікаў, паспешлівых на суд.

Горшае з іх — гэта рыторыка. Самападман, самаўсхваленне...

Ці згодзен я, што мастак заўсёды набліжае да людзей нявыдуманае?

Згодзен, тады ёсць сэнс прадоўжыць нашу гутарку.

Якой прыемнай была ўсмешка Барыса Леанідавіча, калі завяршыў ён гэтую сваю тыраду кароткай заўвагай. Маўляў, усякая адвольная выдумка — гэта рабалепства. Альбо перад прыродай, альбо перад уладамі пануючымі. А рабалепства і творчасць—дзве рэчы... Ну, вы самі прадоўжыце. Несумяшчальныя...

Не ведаю чаму, але ў тое імгненне мне ўспомніліся яго радкі з «Соснаў»:

**В траве, меж диких**
**бальзаминов,**
**Ромашек и лесных купав,**
**Лежим мы, руки запрокинув**
**И к небу головы задрав.**
**И вот, бессмертные на время,**
**Мы к лику сосен причтены**
**И от болезней, эпидемий**
**И смерти освобождены...**

Які вольны палёт думкі, што атрымала штуршок ад гэтай асалоды ўзаемасувязі з зямлёй, на якой мы можам ляжаць, закінуўшы рукі і да неба ўзняўшы галовы! І гэтае найдакладнейшай дакладнасці наша адчуванне ўласнай бессмяротнасці на час, імгненнай бессмяротнасці, калі так можна сказаць, — хіба яно не наведала кожнага аднойчы ў жыцці, скажам, у юныя нашы гады!

Ён быў таленавітым ад прыроды. Яго здольнасці развіваліся ў сям'і выдатнага мастака Леаніда Пастэрнака, ва універсітэцкіх аўдыторыях, у вандраваннях па Германіі, Італіі і па нашай краіне, у зносінах з музычным светам, на службе на хімічных заводах Урала і ў бібліятэках Петраграда.

Дарэчы, затрымаюся на ўральскіх уражаннях паэта. Аднойчы ён успомніў, як упершыню ўбачыў заводскую Матавіліху, гэты старадаўні ўральскі завод на беразе Камы. Гучала гэта прыблізна так. Маўляў, адпачываў Барыс Леанідавіч на правым беразе Камы непадалёку ад Пярмі. Сасновы лес. Пясчаныя камскія стромы. І жывы паток ракі, у якім адбіваецца святло Месяца і водбліскі агнёў з таго, гарадскога берага. Від змрочных заводскіх цэхаў з палаючымі ўнутры печамі і горнамі захоплівае ваша ўяўленне. Здаецца, што там працуюць нейкія нязямныя істоты, бо ў такой неверагоднай цемры і пры такіх асляпляючых ўспышках полымя звычайны чалавек наўрад ці змог бы вытрымаць. У думках пераносіш сябе з правага — дачнага!— на левы бераг, туды, у заводскі цэх... і цябе ахоплівае атарапеласць. Быццам малохам і цябе расцісне зараз!..

А потым ты ставіш сябе на месца гарнавога або адкатчыка ў Матавілісе. І адтуль, з заводскага боку, глядзіш на правы бераг з пясчанай водмеллю і вячэрнімі агеньчыкамі на дачах, з бакенамі на воднай роўнядзі, са ззяннем Месяца, з соснамі на пагорках... Хто там жыве, у гэтай зямной прыгажосці і цішыні? Няўжо гэткія ж людзі, як мы... накшталт нас... І ўдзень лятаюць там матылі, і доўбіць сасновы ствол дзяцел, і пахне ад медных тазоў на кастрах гарачым вішнёвым варэннем... Неверагодна! Такое проста немагчыма сабе ўявіць тут, каля распаленага горна, у гуле цэхавых пралётаў!

Як адрозніваецца мысленне людзей, што стаяць на розных берагах ракі, якое рознае іх жыццеўспрыманне, — і толькі мастак, адлюстраваўшы нешта падобнае, здольны ўнушыць людзям вечную думку аб іх агульнасці, аб іх духоўнай роднасці. Сам Пастэрнак іменна гэтага хацеў бы дасягаць сваімі творамі.

Успамінаецца мне маскоўскі вечар, калі мы з Барысам Леанідавічам ішлі разам па Цвятному бульвару. Было гэта ў канцы зімы, напярэдадні вясны. Вакол дрэў, што стаялі ў снезе, з'явіліся ўжо нібы першыя прагаліны. Пра што гаварылі, ужо забыў, а словы «психологическое условие моего решения», якія прамовіў тады Пастэрнак, урэзаліся ў памяць. І калі я цяпер чытаю яго прозу — ад «Дзяцінства Люверс» да «Доктара Жываго», у мяне ўзнікае жаданне адзначыць асабліва дарагія мне старонкі менавіта па той прычыне, што ў

іх па-мастацку ўзнаўляецца псіхалагічная ўмова ўчынкаў і памылак, парываў і адчаю, прасвятлення і супакаення герояў.

Мабыць, мае адносіны да прозы Пастэрнака афарбаваны маім даволі блізкім знаёмствам з паэтам, але ў рамане «Доктар Жывага» я часта натыкаюся на сцэны, дзе Юрый Андрэевіч Жывага выступае амаль двайніком аўтара. Амаль такім наогул я помню самога Барыса Леанідавіча.

Або — памятаеце, як Жывага едзе на трамваі па Нікіцкай (на ёй ужо даўно няма трамвайнага руху і называецца яна вуліцай Герцэна)? Ён прыціснуты да акна. Перад ім левы тратуар вуліцы. Побач крочыць старая дама ў капялюшыку са светлай саломкі. Трамвай то затрымліваецца, то рухаецца, і гэтая дама ўсё мільгае за акном. І Юрый Андрэевіч пачынае ўспамінаць школьныя задачкі, у якіх з рознай хуткасцю рухаюцца паязды і ў розны час пускаюцца гадзіннікі. Успамінае, а сам думае пра тое, што нейчы лёс заўсёды абганяе ў жыцці лёс другога...

Такі быў ён сам, Барыс Пастэрнак.

Я дзялюся сваімі ўражаннямі аб Пастэрнаку зусім не таму, што ў канцы 80-х гадоў стала правілам «добрага тону» гаварыць паважліва пра гэтага сапраўды вялікага паэта. Проста палічыў неабходным уключыць сустрэчы з ім у шэраг сваіх уласных роздумаў пра наш няпросты час. Мае сябры Кузьма Чорны і Аркадзь Куляшоў заўсёды з творчай цікавасцю сустракалі кожны новы твор, падпісаны гэтым імем. Перакладчыцкая школа ў беларускай літаратуры ўважліва адносілася да вопыту, якім так бліскуча абагачаў цяпершніх практыкаў гэтага віду дзейнасці Барыс Леанідавіч, калі дарыў чытачу рускамоўныя пералажэнні Н. Бараташвілі і Т. Табідзе, Ш. Пецёфі, «Фаўста» Гётэ, трагедыі Шэкспіра. Выдатны беларускі майстар перакладаў Ю. Гаўрук паўтараў на памяць, як ён гаварыў, залатыя знаходкі Пастэрнака ў перадачы самых вытанчаных маўленняў, якія так арганічна гучалі па-грузінску, па-венгерску, па-нямецку, па-англійску. А як трапятліва дэкламаваў А. Фадзееў «Сіні колер» Н. Бараташвілі, якому нададзена проста чарадзейнае гучанне:

**Цвет небесный, синий цвет**
**Полюбил я с малых лет.**
**В детстве он мне означал**
**Синеву иных начал...**

. . . . . . . . . . . . .

**Это цвет моей мечты.**
**Это облик высоты.**
**В этот голубой раствор**
**Погружен земной простор.**

Калі сам Барыс Леанідавіч, адставіўшы кубак гарбаты ўбок, вёў гаворку пра Бараташвілі, лёгка было ўявіць, што гэты грузінскі паэт толькі ўчора сядзеў на вашым месцы тут жа і спаборнічаў з гаспадаром дома на турніры паэзіі, чытаючы свае толькі што напісаныя вершы.

Прыгадваю, Барыс Леанідавіч гаварыў аб паэтах трагічнага лёсу, аб лёсе мастакоў змрочнай думы. Параўнаў Бараташвілі з Лермантавым і некалькі разоў паўтарыў, што пачуццёвая выразнасць такой лірыкі выглядае фанабэрыстай. Непазбыўнасць глыбокага пачуцця звычайна нагадвае чалавеку аб недасягальнасці ім падобнага перажывання, аб выключнасці паэта, які так вольна спавядаецца перад намі. Без прытойвання і без сораму рыдае і смяецца... Так паводзяць сябе яшчэ акцёры, але яны толькі пераўвасабляюцца ў вобразы, створаныя паэтамі; ім роля таго ж Ліра толькі дапамагае выплеснуць нешта запаветнае...

Як не згадзіцца з Пастэрнакам, калі ён сцвярджае: «Паэзія застаецца заўсёды той, вышэй усякіх Альпаў праслаўленай прастатой, якая валяецца ў траве, пад нагамі, так што трэба нагнуцца, каб яе ўбачыць і падабраць з зямлі; яна заўсёды будзе прасцей за тое, каб яе можна было абмяркоўваць на сходах; яна заўсёды застанецца арганічнай функцыяй шчасця чалавека, перапоўненага блажэнным дарам разумнай гаворкі...» Гэта з яго прамовы на Сусветным кангрэсе «У абарону культуры» ў Парыжы ў 1936 годзе. І закончыў ён яе так: «... Чым больш будзе шчасця на зямлі, тым лягчэй будзе быць мастаком».

Сустракаўся з Пастэрнакам я не так ужо часта, але паспеў заўважыць, што ў яго мяняюцца адносіны да адных і тых жа з'яў, асоб, падзей, што ён не даражыць вернасцю ўласнаму меркаванню. Дарэчы, і ў яго вершах з цягам часу бачны адыход ад слоўнай гульні, ад каламбурных рыфмаў, ад самамэтнай вобразнасці да празрыстай паэтычнай яснасці. Няспынная прага ўражанняў і пільнае самавывучэнне — вось, бадай, якім ён мне ўяўляўся ад сустрэчы да сустрэчы. Дарэчы, аксіёма, згодна якой, пазнаўшы самога сябе, ты здольны меркаваць аб свеце, не такая ўжо прыблізная і наўрад ці цалкам памылковая.

Адбітак аўтабіяграфічнасці на творчасці Пастэрнака менавіта такі.

Пішучы вершы і прозу, ён, як мне здаецца, выслабаняўся ад нейкага напружання. Нельга было стрымаць усмешку, бачачы Пастэрнака вясёлым і гарэзлівым. Яму прыемным быў дасціпны жарт або трапны каламбур. Помню, ён паціраў далоні ад задавальнення, пераказваючы нам адзін кансерваторскі выпадак, калі студэнтка на пытанне аб тым, што такое баркарола, адказала прастадушна: маўляў, гэта песня венецыянскіх гальдэнвейзераў (народны артыст СССР Аляксандр Барысавіч Гальдэнвейзер—адзін са знаёмых Пастэрнака, выдатны піяніст і педагог кансерваторыі). І некалькі разоў, запрашаючы мяне да сябе ў госці, рабіў хітрыя вочы і па-змоўніцку шаптаў: «Не ўпусціце выпадку—будзе співаць адзін венецыянскі гальдэнвейзер...»

Такім ён застаецца ў маёй памяці. Зямны чалавек, які ўвесь час нібы падключаны да току творчай думкі. Уражлівы сам і здольны ўражваць другога. Даступны і адчужаны.

Чалавек у ватоўцы, у кірзавых ботах з рыдлёўкай у руках капае зямлю пад бульбу... Гэта ён—на сваім участку ў Перадзелкіне. Чалавек у элегантным касцюме, з гальштукам-бантам узбягае на падмосткі ў зале Політэхнічнага музея і, саромеючыся апладысментаў, пераводзіць позірк некуды ў нетутэйшую далячынь, дэкламуючы свой выпакутаваны верш: «О, знал бы я, что так бывает, когда пускался на дебют...» Чалавек з магутнымі скуламі і вялікімі вачыма спакойна сыпле цукар у фарфоравы кубак з жоўтым абручом лімона пасярэдзіне і падбадзёрвае вас: маўляў, не саромцеся, сыпце яшчэ...

Чалавек, падобны на самога сябе, і падобны на свайго героя Юру Жывагу... Як яго адлюстраваць? У якім матэрыяле? У бронзе? У белым мармуры? У граніце?

А хочацца, чорт пабяры. І мроіцца. І ёсць надзея, што зраблю! Можа, выйдзе што-небудзь блізкае да «Каменя» М. Гумілёва:

**Взгляни, как злобно смотрит камень.**
**В нем щели странно глубоки,**
**Под мхом мерцает скрытый пламень...**

Не, у мяне ў Пастэрнака не будзе «злоснага» позірку і не будзе ніякага моху. А вось нібыта відушчы камень і стоенае ў шчылінах полымя, мне, бадай, спатрэбяцца. Інакш я не перадам тую паяднанасць паэта з часам і гісторыяй, якая была яго сутнасцю, яго болем, яго надзеяй. Жывы цуд! Мне гэта вядома не па чутках.

## У бліжэйшых нумарах новага, 1989 года «ЛіМ» надрукуе:

**матэрыялы «круглага стала» «Перабудова і мы: урокі, спадзяванні, трывогі»**

**слова М. Танка «Лёс мовы, лёс народа»**

**літаратурна - крытычныя артыкулы Т. Грамадчанкі і Т. Чабан**

**творчы партрэт У. Арлова**

**працяг публікацый Б. Сачанкі «Бэндэ» і «Мне сняцца сны аб Беларусі...»**

**вершы В. Віткі, П. Макаля, Л. Галубовіча**

**гутаркі з мітрапалітам Філарэтам і паэтэсай Я. Пфляўмбаўм**

**нататкі кінакрытыка А. Сільвановіча «Страшыць! Караць! Выхоўваць!..» (відэа і крымінальны кодэкс)**

## *Наш каляндар*

**У канцы мінулага года споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння вядомага пісьменніка Аляксея Мікалаевіча Кулакоўскага, аўтара шматлікіх раманаў, аповесцей і апавяданняў — «Дабрасельцы», «Сустрэчы на ростанях», «Расстаемся ненадоўга», «Сцежкі зведаныя і нязведаныя», «Васількі» і іншых твораў, якія добра вядомы шырокаму чытачу.**

**З гэтай нагоды ў Доме літаратара адбыўся вечар, прысвечаны памяці пісьменніка, які адкрыў і вёў Барыс Сачанка. У вечары прынялі ўдзел народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, Уладзімір Дамашэвіч, Віктар Казько, Уладзімір Юрэвіч. Яны расказалі пра свае сустрэчы з Аляксеем Мікалаевічам, выказаліся пра напісанае ім.**

**Артысты мінскіх тэатраў прачыталі ўрыўкі з твораў Аляксея Кулакоўскага, выканалі папулярныя народныя песні.**

**Друкуем старонкі з успамінаў брата празаіка — настаўніка Мікалая Кулакоўскага.**

# СЛОВА ПРА БРАТА

Яшчэ недзе каля сярэдзіны чэрвеня 1941 года Алёша напісаў мне ў Любань, што пару тydняў будзе ў водпуску пасля аперацыі на назе і прыедзе з Нінаю да яе бацькоў. Я таксама павінен буду прыехаць туды, як толькі скончацца экзамены ў школе, каб пабачыцца з усімі.

Дваццаць першага мы ў Любані святкавалі выпускны вечар цэлаю сотняю нашых дзесяцікласнікаў. Прагулялі траха не ўсю ноч. Я не бачыў ніводнага засмучанага твару. Ва ўсіх адчувалася ясная мэта і светлая радасць жыцця, а назаўтра, у нядзелю... «Назаўтра была вайна», — як трапна і дакладна назвалі пазней кінафільм, бо словы гэтыя моцна ўрэзаліся ў сэрца кожнага, хто на свае вочы пабачыў тую вайну.

На другі дзень вайны я ўжо быў з братам, братавою і яе бацькамі. Брат выглядаў бадзёрым, стройным, хоць трохі накульгваў, але ішоў упоравень з усімі. Ніна паказалася мне ўжо не такой юнай студэнтачкай, як на вяселлі. Блізкімі і



Аляксей КУЛАКОЎСКІ. 1985 г.

роднымі адчуў я тады і ўсіх з Ніной сям'і. Бацька — Ульян Штольберт — майстар на шклозаводзе, «гутнік», як ён сябе называў, вясёлы, прыветлівы, пастаянна нечым заняты. Каля яго круціліся меншыя сыны: Бронік — чатырохкласнік і зусім яшчэ карапуз Юзік.

Трошкі далей ад нас трымалася Геня, ужо амаль дзяўчына, крыху падобная абліччам, але, як мне падалося, нават прыгажэйшая за Ніну. «Тут, брат, і табе дзяўчына вырасце», — задаволена сказаў мой старшы і кіўнуў у той бок, куды пабегла Геня. (Не «вырасла», дарогі разышліся, — скажу я цяпер).

Першыя два дні мы як бы не адчувалі, што ідзе вайна, нават смакавалі кіслае разліўное віно, што яшчэ прадавалі ў магазіне на пасёлку, кругом было ўсё прыгожа, дома — утульна. Толькі ў душы ў кожнага жыла вялікая нязбытная трывога, аб чым часцей напамінаў мне брат. Трывожныя весткі прыносіла і радыё, і ўжо зусім неверагодныя — чуткі, нібыта «немцы ідуць напралом і скора могуць быць тут...»

Мы з Алёшам усведамлялі, што вайна пачалася такая, якой яшчэ ніколі не было, але былі цвёрда ўпэўнены: яна будзе ісці не на нашай тэрыторыі. Мы тады шчыра, ад усяго сэрца верылі, што «ни одной пяди чужой земли мы не хотим, но и своей земли, ни одного вершка своей земли не отдадим никому!»

Алёша хадзіў у ваенкамат, прасіў, каб датэрмінова адправілі ў часць, але яму адмовілі пакуль што, бо разгортвалася мабілізацыя запасных. Калі ж нам стала вядома, што немцы сапраўды не так ужо і далёка, прынялі рашэнне: Алёша будзе дабівацца тэрміновага звароту ў свой полк на Украіну, а я зараз жа паеду дадому, забяру маму, адвязу яе да сястры на Віцебшчыну (ст. Езярышча, амаль на самай мяжы з Расіяй), а сам пайду добраахвотнікам у Чырвоную Армію, бо мой год не падыходзіў пад аб'яўленую мабілізацыю.

Развітваўся я з Нінай і з яе сямейкай у іх дома, а з братам, які праводзіў мяне, — на чыгуначных шпалах па дарозе ў Асіповічы, над якімі здалёк дрыжэлі сполахі ад пажараў ці выбухаў. Момант нашага развітання трошкі апісаны ў рамане «Расстаемся ненадоўга», дзе Андрэй Сакольны сумным позіркам праводзіць малодшага брата Косцю «можа, і назаўсёды».

Не, вера, што ненадоўга, была тады яшчэ моцнай, пасля яна слабела і слабела...

Але ўсё ж сустрэліся! Толькі было ўжо гэта пасля пераможнай нашай вайны, у канцы восені 1945 года. Алёша дэмабілізаваўся як настаўнік, ды яшчэ з прабітымі навылёт грудзямі, гвардыі лейтэнант, камандзір штурмавой («штрафной») роты, а я — таксама па ўказу аб дэмабілізацыі настаўнікаў, «радавы стралок» з прабітаю скроняю і глухім правым вухам.

Алёша рабіў у сваёй «Чырвонай змене», жыў зноў на ўскраіне разбітага Мінска, па вуліцы Карла Лібкнехта, якую таксама цяжка было пазнаць, толькі не ва ўтульным доміку мілай Ганны Андрэеўны, сваёй былой гаспадыні, якая некалі і пасля Алёшавай жаніцьбы шкадавала яго як роднага і нават мяне, вечна галоднага студэнціка, не адзін раз уволю накарміла смачным баршчом або густою поліўкай... Варожая авіябомба прамым пападаннем знішчыла і ўтульны з прысадамі домік, і самую гаспадыню, і яе добрых хлопчыкаў — здаравяка Васю і прыгожанькага Жору.

І тады, пры сустрэчы ў пасляваенным Мінску, мы як і раней, абмеркавалі ўсе абставіны. Брат пацвердзіў сваё даўняе рашэнне «аддаць усяго сябе літаратуры», а я, з яго згоды, павінен быў канчаць універсітэт завочна, ехаць жыць дадому да мамы, настаўнічаць у бліжэйшай да хаты школе (па вопыту першага года лічыў, што, мабыць, з мяне выйдзе настаўнік).

Як рашылі — гэтак яно і выйшла: добрых сорак гадоў Аляксей днямі і начамі карпеў над сваімі творамі, бездакорна цягнуў і іншую, службовую і неслужбовую работу, а я больш за трыццаць — настаўнічаў, прапагандаваў, дэпутатстваваў... І ўсё ж не пазбыўся, мабыць, навек прывітай братам-другам патрэбы нешта думаць аб жыцці і характарах людзей, нешта пачутае запісваць, ды нешта мурзаць і сваё...

**Мікалай КУЛАКОЎСКІ.**

**Што мы ведаем пра Карэлію? Сёе-тое, канечне, ведаем: дзе знаходзіцца, на што багата, чым слаўная. Ведаем, што жывуць там карэлы, фіны, вепсы, рускія, а таксама — нямала беларусаў: пасля вайны тысячы нашых юнакоў і дзяўчат вербаваліся туды на лесараспрацоўкі, вербаваліся часова, ды, аказалася, вельмі многія аселі там надоўга, назаўсёды. Ведаем пра Карэлію і яшчэ што-кольвечы. Ды ўсё ж, *калі шчыра*, ведаем надзвычай мала. Далекавата наша Беларусь ад Карэліі, не надта шчыльныя і частыя кантакты між імі. Асабліва ж — культурныя, мастацка-літаратурныя. З канкрэтных праяўленняў гэтых кантактаў можна згадаць, бадай, толькі паўночны дзённік М. Стральцова «Дзень у шэсцьдзесят сутак» ды нарыс В. Карамазава «Падарожжа па Карэліі (Руны мараны)». Гэта — з боку нашай літаратуры. А з боку літаратур народаў Карэльскай АССР? Таксама, напэўна ж, небагата. Нават і ўзаемных перакладаў да крыўднага мала.**

*Госць рэдакцыі*

# «Пакланіцца зямлі Купалы...»

Ці не таму, калі наш наведнік назваў сябе — «фінскі паэт Тойва Флінк», мы не адразу, бадай, і здагадаліся, што госць — з Карэліі. Пакрысе, як кажуць, разгаварыліся, і неўзабаве мы ўжо ведалі, што Тойва жыве і працуе ў Петразаводску, актыўна займаецца перакладамі з рускай савецкай паэзіі на фінскую мову, узначальвае аддзел паэзіі часопіса «Пуналіппу». Часопіс гэты — орган Саюза пісьменнікаў Карэліі, выходзіць на фінскай мове ў сталіцы рэспублікі.

Што прывяло яго ў Беларусь, у Мінск, у нашу рэдакцыю?

— Беларусь, яе народ, гісторыя, культура цікавілі мяне даўно. У Карэліі жывуць дзесяткі тысяч беларусаў. Вось і ўзнікла, неяк само па сабе, жаданне зразумець псіхалогію, адчуванне людзей, якія па розных жыццёвых акалічнасцях апынуліся за межамі сваёй радзімы. Як яны сябе пачуваюць на чужой (цяпер ужо, бадай, сваёй) зямлі, ці не забыліся яны на сваю мову, ці збераглі свае звычкі, абрады? Урэшце, кім яны сябе ўсведамляюць тут, сярод карэльскіх лясоў, камянёў і азёр?

Чаму мяне зацікавілі менавіта беларусы? На гэта ёсць дзве прычыны.

Першая вам, бадай, падасца дзіўнай, нечаканай. Справа ў тым, што мне бачыцца пэўнае падабенства ў лёсах нашых дзвюх нацыянальных культур — маёй роднай, фінскай, і беларускай. Паспрабую растлумачыць.

Да вайны ў Карэліі былі фінскія школы, бібліятэкі, музеі, газеты, быў фінскі універсітэт. Пэўны час, як вядома, існавала Карэлафінская саюзная рэспубліка. Тады ставілася цудоўная мэта — запрасіць усіх фінаў, якія раскіданы па розных рэгіёнах Савецкай краіны, сканцэнтраваць сілы, развіваць культуру, мову. Што здарылася потым, вядома ўсім. Пасля смерці С. М. Кірава пачалі зачыняць фінскія школы, нішчыць бібліятэкі. Пачаліся масавыя рэпрэсіі, асабліва супраць цвету нацыі — пісьменнікаў, вучоных...

Сёння, на высокай хвалі перабудовы, у працэсе дэмакратызацыі, аднаўлення прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі, адбываецца адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці савецкіх народаў. Гэты працэс закрануў і нас, карэльскіх фінаў.

Думаю, што хопіць нам прыгожых дэкларацый па нацыянальных пытаннях, па міжнацыянальных адносінах —трэба прымаць канкрэтныя, прытым часта не касметычныя, а кардынальныя меры па выпраўленню шматлікіх і разнастайных дэфармацый у гэтых пытаннях. Уніфікацыя народаў — нежыватворны шлях. Чым больш народ адметны, чым ён багацейшы духоўна — тым больш ён *цікавы для іншых народаў*, далёкіх і блізкіх. Не імкнуцца быць падобнымі адзін на адзін, як дзве кроплі вады, а — спазнаваць, вывучаць адзін аднаго, узаемна ўзбагачаць адзін аднаго, беручы і аддаючы адзін аднаму лепшае, што паслужыць дзеля агульнай карысці.

Другая прычына, якая паклікала мяне сюды,— асабістага плана. Гады тры назад у Петразаводску працаваў (выкладаў іспанскую мову) ваш малады літаратар Якуб Лапатка. Там я пазнаёміўся з ім, пасябраваў. Вось ён і далучыў мяне, а *калі правільней* — дапамог мне ў маім імкненні вывучыць беларускую мову, пазнаёміцца з гісторыяй і культурай беларусаў. І «ЛіМ» ваш прысылае мне рэгулярна, і таму я, без пахвальбы, ваш заўсёдны і ўважлівы чытач. Чытаю ўжо досыць лёгка, як кажуць, без запінкі, хоць, вядома, у слоўнікі зазіраць даводзіцца. Люблю творы вашых Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова. З сучасных паэтаў - Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча. Вельмі дапамагае мне ў спасціжэнні, спазнанні вашай краіны Уладзімір Караткевіч. Цудоўны падарунак зрабіў мне Якуб Лапатка — «падпісаў» мяне на васьмітомнік Караткевіча. Тры тамы атрымаў ужо і з асалодаю прачытаў. Ведаю таксама і люблю Уладзіміра Арлова. Гэта вельмі важна, аказваецца, мець сяброў у брацкай рэспубліцы. Калі б не было ў мяне беларускага сябра Якуба Лапаткі, дык і не ведаю, ці прыехаў бы я сюды, ці выбраўся б у гэтую няблізкую дарогу, каб пакланіцца зямлі вялікага Купалы...

Вельмі хацелася б, каб кантакты між нашымі рэспублікамі наладжваліся і мацнелі. Для гэтага патрэбны перакладчыкі, якіх, на жаль, пакуль што вельмі мала. У вас — спрабуе сёетое рабіць той жа Якуб Лапатка. У штогодніку «Далягляды» ён апублікаваў некалькі перакладаў з фінскай. Я апошнім часам працаваў над анталогіяй «Сорак савецкіх паэтаў», быў яе складальнікам, творы многіх паэтаў, такіх, як Ціханаў, Еўтушэнка, Ахмадуліна, Гумілёў, Ясенін, Мандэльштам,— пераклаў на фінскую. Спадзяюся што гэты спіс неўзабаве папоўняць і беларускія паэты...

Вось такі быў аповяд нашага далёкага (і блізкага, аказваецца) госця-чытача з Карэліі. Думаецца, што расказ яго з цікавасцю прачытаюць і нашы, тутэйшыя чытачы.

P.S. А *праз некалькі дзён* Якуб Лапатка даслаў нам з Наваполацка пераклад верша Тойва Флінка «Дзе ж мой народ?». Мы парашылі надрукаваць яго разам з гэтым рэпартажам аб рэдакцыйнай сустрэчы з фінскім паэтам.

**Аддзел пісьмаў «ЛіМа».**

**Тойва ФЛІНК**

## *ДЗЕ Ж МОЙ НАРОД?*

Незагойнымі ранамі
па бацькоўскай зямлі,
як няшчасцем араныя,
барозны ляглі.

Мы з ганебнай адмецінай
кулакоў-абдзірал
былі звезены, змецены
у Хібіны, за Урал.

І ў казахскіх прасторах
усё тое ж было:
вынішчальнае — «вораг!»
ўслед за намі ішло.

Спецэтапы галодныя
да якуцкай тайгі;
нас чакалі халодныя
дальніх рэк берагі.

У абдымкі суровыя
нас прымаў Сахалін,
каб пазбавіць нас мовы і
каранёў у зямлі.

Гналі нас, каб забыліся
пахі роднай зямлі,
краю, дзе нарадзіліся,
дзе людзьмі узраслі.

Нас да немцаў, да шведаў
везлі быццам рабоў.
І ніхто з нас не ведаў,
ці патрапіць дамоў.

А калі ўсё ж вярнуліся
да прытулкаў сваіх,
дык ізноў апынуліся
мы пад меткай «чужых».

Нам ніяк не тлумачылі,
чаму нельга ізноў
у зямлі нашай матчынай
завадзіць каранёў,

чаму трэба ў Эстоніі
дзецям век векаваць,
свайго краю ніколі ім
у жыцці не спазнаць.

І не шмат каму сілы
удалося сабраць,
каб ля родных магілак
ўсё ж свой век даканаць.

Ён сыходзіў, вяртаўся,
мой народ, нібы цень.
Толькі дзе ён застаўся
аж па сённяшні дзень?

Можа, ў сведкаў спытацца
жывых?
Можа, скажа дасведчаны
знаўца,
пакапаўшыся ў кнігах
вучоных сваіх,
хто ж такія
інгерманландцы?

Пераклаў з фінскай
Якуб ЛАПАТКА.

## НА блакітным ЭКРАНЕ

**З 9 ПА 15 СТУДЗЕНЯ**

**10 студзеня, 20.35**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вы пачуеце вершы Янкі Купалы.

**10 студзеня, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма запрашае ў Веткаўскі музей народнай творчасці. Гаворка пойдзе аб праблемах эстэтычнага выхавання, гістарычнай памяці, аб адносінах да нацыянальнай культуры.

Вядучы — журналіст У. Сцепаненка.

**11 студзеня, 20.10**

**«НАШЫ ГОСЦІ»**

Выступае Дзяржаўны акадэмічны хор Латвійскай ССР.

**12 студзеня, 19.25**

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

**14 студзеня, 16.15**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Будзе прадстаўлена новая кніга вершаў У. Папковіча, серыя работ фотамастака з Каўнаса Р. Юшкяліса, вы пабываеце таксама на аглядзе-конкурсе аматарскіх кінастужак, які праходзіў у рамках III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, на выстаўцы мастака В. Распопава. І на заканчэнне — знаёмства з маладой актрысай Л. Бучкінай.

**15 студзеня, 15.40**

**ІГРАЕ ПІЯНІСТ С. ВАРАУКА**

У праграме творы Скрабіна, Шапэна, Рахманінава.

**15 студзеня, 16.45**

**«МОЙ РОДНЫ КУТ»**

Канцэрт мастацкіх калектываў і майстроў мастацтваў БССР.

**15 студзеня, 19.25**

**«У ПОШУКАХ ЗАЛАТОГА РУНА»**

Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання.

Стужка расказвае аб праблемах беларускіх ільнаводаў.

Аўтар сцэнарыя — А. Аўрынская. Рэжысёр — Л. Гедравічус.

**15 студзеня, 19.45**

**КАНЦЭРТ ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА РУСКАГА ХОРУ СССР**

Прагучаць творы Бартнянскага, Грачанінава, Свірыдава.

**15 студзеня, 22.55**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма. Вядучы — А. Гаўрон.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Льву Караічаву з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці маці.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 00004

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.